М. А. Лазарук, Т. У. Логінава

# БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА

Вучэбны дапаможнік для **7** класа агульнаадукацыйных устаноў з беларускай і рускай мовамі навучання

*Дапушчана*
*Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*



МІНСК
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНСТЫТУТ АДУКАЦЫІ
2010

УДК 821.161.3.09(075.3=161.3=161.1)
ББК 83.3(4Беи)я721
Л17

Р э ц э н з е н т ы:

кафедра беларус. літаратуры ўстановы адукацыі «Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка» (канд. філал. навук, дац. *А. С. Гурская*);

настаўнік беларус. мовы і літаратуры вышэйшай катэгорыі дзяржаўнай установы адукацыі «Агульнаадукацыйная сярэдняя школа № 25 г. Мінска» *Н. М. Рагатоўская*;

галоўны навуковы супрацоўнік аддзела выданняў і тэксталогіі дзяржаўнай навуковай установы «Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы» Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук, д-р філал. навук, праф., член секцыі філалагічных дысцыплін Дзяржаўнай камісіі па падрыхтоўцы падручнікаў у гуманітарна-грамадазнаўчай сферы *М. І. Мушынскі*;

метадыст І катэгорыі навучальна-метадычнага аддзела Інстытута павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кадраў аграпрамысловага комплексу ўстановы адукацыі «Беларускі дзяржаўны аграрны тэхнічны ўніверсітэт», член секцыі філалагічных дысцыплін Дзяржаўнай камісіі па падрыхтоўцы падручнікаў у гуманітарна-грамадазнаўчай сферы *А. М. Градзецкая*

**Лазарук, М. А.**
Л17 Беларуская літаратура : вучэб. дапам. для 7-га кл. агульнаадукац. устаноў з беларус. і рус. мовамі навучання / М. А. Лазарук, Т. У. Логінава. — Мінск : Нац. ін-т адукацыі, 2010. — 304 с.
ISBN 978-985-465-683-0.

**УДК 821.161.3.09(075.3=161.3=161.1)**
**ББК 83.3(4Беи)я721**

---

**ISBN 978-985-465-683-0**

## *Дарагія сямікласнікі!*

Пачынаючы новы навучальны год, вы ўзыходзіце на яшчэ адну ступеньку ў пазнанні літаратуры, а разам з ёю і ў пазнанні жыцця. Чытанне і вывучэнне мастацкіх твораў — нібы захапляючае падарожжа, поўнае цікавых, часта непрадбачаных, нечаканых сустрэч з незнаёмымі (а часам і знаёмымі) краявідамі, ваколіцамі, а галоўнае — з вельмі рознымі па характары, паводзінах людзьмі. Як і ў самім жыцці, з яго разнастайнымі ўражаннямі, буднямі і святамі, паўсядзённымі клопатамі-турботамі і такімі хвілінамі, калі цябе ахопліваюць высокія, узнёслыя думкі і пачуцці.

Але вывучэнне літаратуры — не проста захапляючае чытанне, задавальненне сваёй цікаўнасці. Гэта яшчэ і перажыванні, і напружаная праца думкі, скіраваная на тое, каб узбагаціць нашы ўяўленні аб жыцці, глыбей пазнаць тое, што адбываецца навокал, лепш разумець людзей. Гэта адначасова і неабходнасць пранікнуць у таямніцы мастацкай творчасці, у сакрэты пісьменніцкага майстэрства, без чаго наша ўяўленне пра літаратуру будзе няпоўным, неглыбокім, павярхоўным.

У папярэдніх класах вы мелі магчымасць пераканацца ў тым, якія разнастайныя па змесце і форме, па тэмах і героях творы фальклору і літара-

туры. У VII класе ваша ўвага будзе скіравана на высвятленне галоўных асаблівасцей літаратуры як мастацтва.

Падарожжа ў свет літаратуры працягваецца. Вы наведаеце некалькі краін гэтага цікавага свету. Адна з іх — «Паэзія», другая — «Проза», трэцяя... Але не будзем спяшацца называць усё адразу.

Каб падарожжа было цікавым, а ваша праца дасягнула поспеху, мы будзем прытрымлівацца наступнага парадку пры вывучэнні твораў мастацкай літаратуры: спачатку ўдумліва прачытаем твор, потым асэнсуем свае першапачатковыя ўражанні, паспрабуем прааналізаваць гэты твор і зробім высновы аб аўтарскай задуме і ідэі твора, мастацкіх спосабах іх увасаблення.

Шчаслівай дарогі! Жадаем вам прыемных хвілін у час працы з кнігай!



# ЧАРАДЗЕЙНАЯ СІЛА МАСТАЦТВА

Калі гаварыць пра мастацкую літаратуру, перш за ўсё трэба вызначыць яе месца сярод іншых відаў мастацтва. Чым яна падобная да іх і чым адрозніваецца, якія мае асаблівасці?

Усе віды мастацтва паказваюць жыццё праз вобразы — уражанні, перажыванні, пачуцці, у якіх выяўляюцца адносіны чалавека да розных з'яў жыцця, іх ацэнка. Аднак сродкі, якімі карыстаюцца розныя віды мастацтва, у кожнага з іх свае. У адным выпадку гэта гук, мелодыя (музыка), у другім — фарбы, лініі (малюнак, жывапіс), у трэцім — рытмічныя або пластычныя рухі цела (танец) і г. д.

Літаратура сярод розных відаў мастацтва займае асаблівае месца. З многімі відамі мастацтва яна цесна звязана сваім зместам, сюжэтамі, вобразамі, героямі. Творы літаратуры ці асобныя яе вобразы нярэдка становяцца асновай для музычных твораў, напрыклад, песень; твораў выяўленчага мастацтва — карцін жывапісу. А тэатр і кіно без літаратуры і ўвогуле не могуць існаваць: для іх абавязкова пішуцца п'есы, кінасцэнарыі.

У літаратуры сродкам стварэння вобразаў служыць слова, наша мова. З дапамогай слова пісьмен-

нік малюе карціны жыцця, расказвае аб розных падзеях і робіць гэта так, нібыта яны адбываюцца на нашых вачах, перадае думкі, настроі, пачуцці людзей, як быццам гэтыя думкі і пачуцці нашы ўласныя.

З дапамогай літаратуры можна, застаючыся дома, не толькі пабываць у далёкіх краінах, але і перанесціся ў іншыя часы, у розныя гістарычныя эпохі, сустрэцца з людзьмі, якія жылі многа стагоддзяў назад. Разам з героямі літаратурных твораў можна пражыць не адно жыццё, шмат разоў перахваляваца за няўдачы або парадавацца за высакародныя ўчынкі, якія не ты здзейсніў, але, напэўна, паступіў бы так, як і герой твора, калі б апынуўся на яго месцы.

І ўсё гэта таму, што літаратура, як і іншыя віды мастацтва, валодае асаблівымі ўласцівасцямі. Нібы той казачны чарадзей, яна можа стварыць поўную ілюзію (уяўленне, ураджанне) сапраўднага жыцця, прымусіць нас паверыць у тое, пра што расказваецца ў творы, хоць на самай справе гэтага можа і не было зусім, а ўсё толькі прыдумана аўтарам.

Ужо ў папярэдніх класах вы зразумелі, што аўтары мастацкіх твораў пішуць не толькі пра тое, што самі бачылі ў жыцці. Яны часта фантазіруюць, або, кажучы па-простаму, «выдумляюць» і сваіх герояў, і тое, што з імі адбывалася. Але мы верым ва ўсё гэта, бо расказваецца так цікава і захапляльна, так шчыра і пераканаўча, з такімі падрабязнасцямі, што не паверыць нельга.

Для таго каб глыбей зразумець, што такое мастацтва, у тым ліку і літаратура, трэба больш уваж-

ліва прыглядзецца да яго стваральнікаў — пісьменнікаў, жывапісцаў, скульптараў. Мастак — гэта не проста чалавек, які выдатна авалодаў сваім рамяством. У мастацтве выключную ролю адыгрывае талент — здольнасць да творчасці. Мастак — гэта чалавек, які ўмее ствараць новае (кнігі, карціны, музычныя творы), мае павышаную ўражлівасць, адчувальнасць да ўспрымання жыцця, здольнасць узнаўляць яго ў сваёй памяці, яшчэ і яшчэ раз перажываць бачанае ці пачутае, а галоўнае — перадаваць свае ўяўленні, пачуцці, думкі іншым людзям у вобразах, трапных, дакладных і яскравых выказваннях, прыгожых мелодыях, шматфарбных карцінах.

У сваіх творах мастак выяўляе не толькі асабістыя, уласныя адносіны да розных з'яў жыцця. Ён выступае як выразнік думак, настрояў, памкненняў многіх людзей, свайго народа, як абаронца чалавека ад несправядлівасці, крыўды.

Мастак асабліва чулы і спагадлівы да чужой бяды. Ён заўсёды гатовы прыйсці на дапамогу слабым, абяздоленым, заступіцца за іх. Вось чаму ў мастацкіх творах, асабліва ў народных казках, мастак-музы́ка выступае як сапраўдны народны герой, надзяляецца самымі выдатнымі якасцямі. Ён смелы, справядлівы, непадкупны, глыбока шануе і паважае простага чалавека, непрымірымы да злых, крывадушных людзей. У народзе ён карыстаецца асаблівай павагай і пашанай.

І гэта заслужана, бо ва ўсе часы, калі наш край трапляў у бяду, пісьменнікі, мастакі, музыканты былі заўсёды ў ліку тых, хто адкрыта заступаўся за народ, ганьбіў ворага. Вось чаму ў беларускім

фальклоры шмат казак пра такіх герояў, а амаль у кожнага беларускага пісьменніка можна знайсці вершы, паэмы, апавяданні пра вялікую сілу мастацтва.

?

1. Назавіце вядомыя вам віды мастацтва?
2. Якімі асаблівасцямі характарызуецца мастацкая літаратура? Раскрыйце сэнс выказвання: *Літаратура — мастацтва слова.*
3. Якую карысць прыносіць нам чытанне мастацкіх твораў?
4. Вызначце ролю фантазіі ў літаратуры і ўвогуле ў мастацтве?
5. Што такое талент?
6. Чаму народ з пашанай ставіцца да таленавітых людзей, стваральнікаў мастацтва (ушаноўвае іх, узводзіць ім помнікі)?

МАКСІМ БАГДАНОВІЧ

## Музы́ка[1]

Жыў на свеце музыка. Многа хадзіў ён па зямлі ды ўсё граў на скрыпцы. І плакала ў яго руках скрыпка, і такая была ў яго гранні нуда, што аж за сэрца хапала...

Плача скрыпка, льюць людзі слёзы, а музыка стаіць і выводзіць яшчэ жаласней, яшчэ нудней. І балела сэрца, і падступалі к вачам слёзы: так і ўдарыўся б грудзьмі аб зямлю ды ўсё слухаў бы музыку, усё плакаў бы па сваёй долі...

---

[1] *Музы́ка* — музыкант.

А бывала яшчэ й так, што музыка быццам вырастаў у вачах людзей, і тады граў моцна, гучна: гудзяць струны, звоніць рымка, бас[1], як гром, гудзіць і грозна будзіць ад сну і завець ён народ. І людзі падымалі апушчаныя галовы, і гневам вялікім блішчалі іх вочы.

Тады бляднелі і трасліся, як у ліхаманцы, і хаваліся ад страху, як тыя гадзюкі, усе крыўдзіцелі народа. Многа іх хацела купіць у музыкі скрыпку яго, але ён не прадаў яе нікому.

І хадзіў ён далей між бедным людам і граннем сваім будзіў ад цяжкага сну. Але прыйшоў час, і музыкі не стала: злыя і сільныя людзі кінулі яго ў турму, і там скончылася жыццё яго... І тыя, што загубілі музыку, узялі яго скрыпку і пачалі самі граць на ёй народу.

Толькі іхняе гранне нічога людзям не сказала. «Добра граеце, — гаварылі ім, — ды ўсё не тое». І ніхто не мог растлумачыць, чаму ад грання музыкі так моцна білася сэрца беднякоў. Ніхто не ведаў, што музыка ўсю душу сваю клаў у ігру. Душа яго знала ўсё тое гора, што бачыў ён па людзях; гэта гора грала на скрыпцы, гэта яно вадзіла смыкам па струнах; і ніводзін сыты не мог так граць, як грала народнае гора.

Прайшло шмат гадоў з таго часу. Скрыпка разбілася. Але памяць аб музыку не згінула з ім разам. І з-паміж таго народа, катораму ён калісь граў, выйдуць дзясяткі новых музыкаў і граннем сваім будуць будзіць людзей к свету, к праўдзе, брацтву і свабодзе...

---

[1] *Ры́мка, бас* — так называюцца асобныя струны скрыпкі.



1. Як вы думаеце, ці можна сказаць, што апавяданне «Музыка» напісана пад уплывам твораў вуснай народнай творчасці? Абгрунтуйце сваю думку, звярнуўшы ўвагу на вобраз героя, сюжэт твора.
2. Растлумачце сэнс выразу: *гэта гора грала на скрыпцы, гэта яно вадзіла смыкам па струнах*. Які мастацкі прыём ляжыць у аснове гэтага выказвання? Успомніце, што такое метафара, увасабленне.

ЯКУБ КОЛАС

## У яго быў свет цікавы...

*(Урывак з паэмы «Сымон-музы́ка»)*

У яго быў свет цікавы,
Свае вобразы, жыццё,
І ў душы яго ўсе з'явы
Сваё мелі адбіццё...
Так, і праўда: не падобны
Быў Сымонка на другіх:
Гэта быў хлапчук асобны.
У яго вачах жывых
Думка нейкая бліскала,
Утаропіцца, глядзіць,
І на губках смех, бывала,
Заблукае, задрыжыць...
Бедны хлопчык быў загнаны,
У бацькоў нялюбы сын,
Бо відочныя заганы
І меў толькі ён адзін.
Не такі, як усе дзеці,
Нейкі вырадак, дзіўны́,

Нёс віну за ўсё на свеце,
Вінаваты без віны.
З ім і дзеці не дружылі,
Не прымалі да гульні,
І ў самоце[1] прахадзілі
Веснавыя яго дні.
І любіў ён адзіноту,
Бо так лепей было жыць:
Тут ён мог сабе ў ахвоту
Песні пець і гаманіць.
Вось улетку дык раздольна:
Выйдзе з хаты ў поле, луг;
Цёпла ўсюды і прывольна,
Сонца многа, чысты дух[2].
На каменьчык сядзе ў збожжы,
Не схіснецца і маўчыць,
Ловіць сэрцам спеў прыгожы,
Як жытцо загаманіць,
Як зазвоняць, заіграюць
Мушкі, конікі, жучкі
І галоўкай заківаюць,
Засмяюцца васількі.
Спеў у сэрцы адклікаўся,
І так добранька было,
Што Сымонка сам смяяўся,
Ўсё смяялася, цвіло.
Заміраў тады хлапчынка,
І здавалася яму,
Што ён знае, як травінка
Сваю думае думу,
Што гаворыць жытні колас,

[1] *Само́та* — адзінота, туга, смутак.
[2] *Дух* — тут: паветра.

І аб чым шуміць ячмень,
І чаго спявае ўголас
Мушка, конік, авадзень,
Што ўгары над срэбрам жыта
Пяе жаваранак той
Так прыгожа-самавіта,
І зачым у высь блакіту
Ідзе ветрык пехатой,
У высь тую, дзе хмурынкі
Над зямлёй плятуць вянкі...
Ці ж не мілыя часінкі?
Ці ж не слаўныя дзянькі?
Замляваў увесь Сымонка,
Як увосень жураўлі
Крык музычны роняць звонка
Над прасторамі зямлі.
Шнур жывы, загнуты крукам,
Ледзь чарнеецца ўгары,
І ўсё стада з смелым гукам
Журавель вядзе стары;
Плыўка, згодна ходзяць крылы,
Як адно, у тахт адзін —
Пакідаюць край свой мілы,
Родны кут глухіх лядзін.
Шнур знікае, тоне ў багне
Мора сіняга нябёс,
У прастор і хлопчык прагне:
Там другі, напэўна, лёс.
І ён доўга, нерухомы,
Там стаіць і ўсё глядзіць
У край светлы, невядомы,
Дзе знікала тая ніць
Вольных птушак на ўсю зіму...
Ну, прашчайце да вясны!..

Поле, неба прад вачыма,
І ўжо крыкі не чутны.
Так і жыў ён, гадаваўся,
Бы пры сцежцы той гарох:
Сам з сабою забаўляўся,
Бегаў, бавіўся ў палёх,
І размовы вёў з жытамі,
І складаў ён песні дню,
З матылькамі, бы з братамі,
Час дзяліў свой і гульню.



**1.** Якія пачуцці выклікаў у вас урывак «У яго быў свет цікавы...» з паэмы Я. Коласа «Сымон-музыка»?

**2.** Якім вы ўяўляеце Сымонку? Намалюйце яго слоўны партрэт.

**3.** Ці звычайны хлопчык Сымонка? Чым ён адрозніваецца ад іншых дзяцей? Якія асаблівасці Сымонкавай натуры вылучае аўтар?

**4.** Як успрымае Сымонка навакольны свет, розныя з'явы прыроды? Якім паэтычным прыёмам карыстаецца аўтар, паказваючы прыроду ва ўспрыманні Сымонкі? Прывядзіце прыклады з твора.

**5.** Чаму так непрыветна ставіліся да хлопчыка бацькі і іншыя дзеці?

**6.** Чаму так востра перажывае Сымонка адлёт журавоў? Якія пачуцці абуджае ў яго сэрцы гэты момант?

**7.** Што вы ведаеце пра аўтара гэтага твора? (Пры адказе звярніцеся да рэпрадукцыі карціны У. І. Стальмашонка «Партрэт народнага паэта БССР Якуба Коласа» (гл. уклейку).) Якім паказаў мастак паэта?

ЯНКА КУПАЛА

# Курган

## I

Паміж пустак, балот беларускай зямлі,
На ўзбярэжжы ракі шумнацечнай,
Дрэмле памятка дзён, што ў нябыт уцяклі[1], —
Ўдзірванелы[2] курган векавечны.

Дуб галлё распусціў каранасты над ім,
Сухазелле у грудзі ўпілося;
Вецер стогне над ім уздыханнем глухім —
Аб мінуўшчыне ў жальбах галосе.

На Купалле там птушка садзіцца, пяе,
У Піліпаўку[3] воўк нема вые;
Сонца днём распускае там косы свае,
Ночкай зоры глядзяць залатыя.

Хмары неба ўсцілалі мо тысячу раз,
Перуны білі з краю да краю, —
Ён стаіць — гэта памяць людская, паказ...
Толькі гутарка ходзіць такая.

## II

На гары на крутой, на абвітай ракой,
Лет назад таму сотня ці болей,

---

[1] *У нябы́т уцяклі́* — адышлі ў мінулае.

[2] *Удзірване́лы* — пакрыты дзірваном, густа зарослы травою.

[3] *Пілі́паўка* — тут: час зімою, калі пачынаюцца моцныя маразы, завеі.

Белы хорам стаяў, недаступнай сцяной
Грозна, думна[1] глядзеў на прыволле.

У нагах у яго рассцілаўся абшар[2]
Хвоек гонкіх і пахані чорнай,
Сонных вёсак шары[3], хат амшалых[4], як мар,
Хат з сям'ёй душ падданых, пакорных.

Князь у хораме жыў, слаўны свету ўсяму,
Недаступны і грозны, як хорам;
Хто хацеў, не хацеў — біў паклоны яму,
Спуску, ласкі не знаў непакорам.

Зневажаў, катаваў ён з дружынай сваей;
Стражы князевы — ў полі і дома,
Толькі модлы[5] раслі небу ў сэрцах людзей,
І пракляцце расло пакрыёма[6].

## III

Раз бяседа[7] вялікая ў князя была:
На пасад дачку княжну садзілі[8];
За сталом він заморскіх крыніца цякла,
Бегла музыка ўкруг на паўмілі.

---

[1] *Ду́мна* — горда.
[2] *Абша́р* — прастор.
[3] *Со́нных вёсак шары́* — нерухомыя абрысы, цені нібы паснуўшых вёсак.
[4] *Амша́лых* — пакрытых мохам.
[5] *Мо́длы* — малітвы.
[6] *Пакрыёма* — употай.
[7] *Бясе́да* — застолле.
[8] *Садзі́ць на паса́д* — выдаваць замуж.

На вяселле-разгул наплыло, як на сход,
Госці знатных зусюль, за паўсвету,
Гэткай гучнай бяседы не помніў народ,
Гэткіх скарбаў, брыльянтаў, саетаў[1]!..

Дзень, другі ўжо грымела у князя гульня,
І музыкі, і чаркі звінелі;
Выдумлялі забаў новых кожнага дня;
Што хацелі — ўсяго госці мелі.

Ажно трэцяга дня князь прыдумаў адну
Для дружыны пацеху-забаву:
Загадаў ён пазваць гусляра[2]-старыну,
Гусляра з яго ведамай славай.

## IV

Акалічны народ гуслі знаў гусляра;
Песня-дума за сэрца хапала;
Вакол гэтай думы дудара-званара
Казак дзіўных злажылась нямала.

Кажуць, толькі як выйдзе і ўдарыць як ён
Па струна́х з неадступнаю песняй, —
Сон злятае з павек, болю цішыцца стогн,
Не шумяць ясакары[3], чарэсні;

Пушча-лес не шуміць, белка, лось не бяжыць,
Салавей-птушка ў той час сціхае;
Паміж вольхаў рака, як штодзень, не бурліць,
Паплаўкі рыба-плотка хавае.

---

[1] *Сае́ты* — багатае адзенне з атласу і шоўку.
[2] *Гусля́р* — чалавек, які іграе на гуслях — музычным інструменце.
[3] *Ясака́р* — тапапя.

Прытаіцца да моху русалка, лясун,
Каня[1] вечнага «піць» не заводзіць;
Пад звон-песню жывучых гусляравых струн
Для ўсіх папараць-кветка ўзыходзіць.

## V

Прывяла гусляра з яго ніўных сяліб
Дворня князева ў хорам багаты;
Пасадзіла на ганку, між клёнаў і ліп,
На цагляным парозе магната[2].

Невыдумная світка[3] — убор на плячах,
Барада, як снег белы — такая,
Незвычайны агонь у задумных вачах,
На каленях ляглі гуслі-баі.

Водзіць пальцам худым па сталёвых струнах,
К песні-музыцы ладзіцца, строе;
Водклік б'ецца ад струн па сцюдзёных сцянах,
Заміраючы ў сховах пакояў.

Вось настроіў, навёў тон у струнах як след,
Не зірнуўшы на гулі ні разу,
І сядзіць гэты сумны, як лунь[4], белы дзед
І чакае ад князя прыказу.

---

[1] *Ка́ня* (па-руску *чи́бис*) — балотная чайка, крык якой нагадвае гукі «піць-піць-піць».

[2] *Магна́т* — багаты пан, буйны землеўладальнік.

[3] *Сві́тка* — вопратка, пашытая з даматканага сукна.

[4] *Лунь* — ястраб-мышалоў, у якога белае (светла-шэрае) апярэнне.

## VI

— Што ж маўчыш ты, гусляр, ніў, лясоў песнябай,
Славай хат маіх подданых слаўны?!
Нам сягоння зайграй, нам сваіх песень дай, —
Князь умее плаціць незвычайна!

Запяеш па душы, дасі ўцехі гасцям —
Поўны гуслі насыплю дукатаў[1];
Не пад мысль песня будзе каму-небудзь нам —
Канапляную возьмеш заплату;

Знаеш славу маю, знаеш сілу маю...
— Многа знаю і чуў аб табе я, —
І я сам, як і ты, так табе запяю...
— Ну, пара пачынаць, дабрадзею!

Гэтак слухае, выслухаў князя гусляр,
Заіскрыліся вочы сівыя,
Патануў у скляпеннях адзін, другі ўдар,
І заплакалі струны жывыя.

## VII

«Гэй ты, князь! Гэй, праслаўны на цэлы бел-свет!
Не такую задумаў ты думу, —
Не дае гуслярам сказу золата цвет,
Белых хорамаў п'яныя шумы.

Скурганіў[2] бы душу чырванцом тваім я;
Гуслям, княжа, не пішуць законаў:
Небу справу здае сэрца, думка мая,
Сонцу, зорам, арлам толькі роўна.

---

[1] *Дука́т* — старажытная манета, сярэбраная, пазней залатая.

[2] *Скурга́ніў* — загубіў, умярцвіў.

Бачыш, княжа, загоны, лясы, сенажаць, —
Ім пакорны я толькі з гуслямі,
Сілен, княжа, карацьь, галаву сілен зняць, —
Не скуеш толькі дум ланцугамі.

Славен, грозен і ты, і твой хорам-астрог,
Б'е ад сцен цэгел лёдам зімовым;
Сэрца маеш, як гэты цагляны парог,
І душу — як скляпоў гэтых сховы.

## VIII

Глянь ты, слаўны ўладар, на палеткі свае:
Сарачні там сох[1] бачыш, як блудзе;
А ці чуў ты, аб чым там араты пяе,
Дзе і як жывуць гэтыя людзі?

Глянь у лёхі[2] свае, ў падзямеллі глянь, князь,
Што настроіў пад хорамам гэтым:
Брацці корчацца там, табой кінуты ў гразь,
Чэрві точаць жывых іх, раздзетых.

Ты ўсё золатам хочаш прыцьміць, загаціць...
Ці ж прыгледзеўся, хорамны княжа?
Кроў на золаце гэтым людская блішчыць,
Кроў, якой і твая моц не змажа.

Ты брыльянтамі ўсыпаў атласы і шоўк —
Гэта цёртая сталь ад кайданаў,
Гэта вісельні петляў развіты шнурок,
Гэта, княжа, твае саматканы.

---

[1] *Сарачні́ сох* — сорак саракоў — вельмі многа.
[2] *Лёхі* — скляпы, падземныя памяшканні, сховішчы.

## IX

Стол ты ўставіў ядой, касцей шмат пад сталом —
Гэта косці бядноты рабочай;
Пацяшаешся белым, чырвоным віном —
Гэта слёзы нядолі сірочай.

Хорам выстраіў ты, твайму воку так міл,
Адшліфованы цэгла і камень, —
Гэта — памяткі-пліты з няўчасных магіл,
Гэта — сэрцаў скамененых пламень.

Люба чуці табе скочнай музыкі звон:
Ты, дружына п'яце асалоду, —
А ці ўслухаўся ты, як плыве з яе стогн,
Стогн пракляцця табе, твайму роду?!

Ты збялеў, ты дрыжыш, слаўны княжа-ўладар!
Госці хмурны, а дворня знямела...
Ну, што, княжа? пара даць за песню мне дар!
Выбачай, калі спеў мо няўмела».

## X

Князь стаіць, князь маўчыць, жуда, помста б'е з воч;
Гулі зглухлі, ні жартаў, ні смехаў...
Думаў князь, выдумляў, грымнуў шабляй наўзбоч,
Толькі з лёскатам выбегла рэха.

— Гэй ты, сонцу раўня, не на тое пазваў
На вяселле цябе сваёй княжны!..
Ты — шалёны старык! хто цябе дзе хаваў?
Ты, знаць, вырадак цемры сярмяжнай[1].

---

[1] *Це́мра сярмя́жная* — зняважлівая назва бедных, цёмных, непісьменных сялян, якія насілі дамотканыя сярмягі (світкі).

Ты адважыўся мне на сляпы перакор
Вызваняці сусветныя трэлі;
Платы маю шмат я для такіх непакор,
Хто сябе проці мне стаць асмеліў.

Я па-князеўску ўсім і плачу, і люблю!
Ты не хочаш дукатаў — не трэба!..
Ўзяці старца і гуслі жыўцом у зямлю!
Знае хай, хто тут пан: я — ці неба!

## XI

Падхапілі, ўзялі гусляра-старыка,
Гуслі разам яго самагуды;
Па-над бераг круты, дзе шумела рака,
Павялі, паняслі на загубу.

Месца выбралі здатнае, вырылі дол,
Дол тры сажні[1] шырокі, глыбокі;
Закапалі, убілі асінавы кол,
Далі насып тры сажні высокі.

Не часалі дамоўкі[2] яму сталяры,
Не заплакалі бліжнія вочы;
Змоўклі гуслі і ён з той пары — да пары;
Сум і сціша залеглі, як ночай.

Толькі князеўскі хорам гудзеў, не маўчаў:
Шалы, музыка ў тахт рагаталі;
Не адну віна бочку князь кончыў, пачаў:
Шлюб-вяселле ўсё княжны гулялі.

---

[1] *Са́жань* — старажытная мера даўжыні, роўная прыблізна 2 м 13 см.
[2] *Дамо́ўка* — труна.

### XII

Пацяклі, паплылі за гадамі гады...
На гусляравым наспе жвіровым
Палыны узышлі, вырас дуб малады,
Зашумеў непанятлівым словам.

Лет за сотню звёў час, ці і болей мо лет,
Зацвілі пераказы ў народзе;
Кажуць людзі: ў год раз ночкай з гуслямі дзед
З кургана, як снег, белы выходзе.

Гуслі строіць свае, струны звонка звіняць,
Жменяй водзіць па іх абамлелай,
І ўсё нешта пяе, што жывым не паняць,
І на месяц глядзіць, як сам, белы.

Кажуць, каб хто калі зразумеў голас той,
Не зазнаў бы ніколі ўжо гора...
Можна тут веры даць, толькі слухаць душой...
Курганы шмат чаго нам гавораць.
*1910*



1. Якое ўражанне вы атрымалі ад знаёмства з паэмай Я. Купалы? У якіх радках вы адчулі найбольшы душэўны пад'ём паэта, вялікую энергію паэтычнага радка?
2. Як характарызуецца ў паэме гусляр? Якімі рысамі надзяляе яго паэт? Прывядзіце адпаведныя цытаты з твора.
3. Як паказана сіла гусляровай музыкі ў паэме (праз паводзіны людзей, звяроў, птушак, раслін)? Прывядзіце прыклады з тэксту. Параўнайце паэму з творам М. Багдановіча «Музыка».
4. Як паэт перадае ўражанні ад грання гусляра: з дапамогай адпаведнай інтанацыі, паўтораў,

гукаперайманння? (Гл. «Кароткі слоўнік літаратуразнаўчых тэрмінаў» (далей — «Слоўнік»).) Прывядзіце прыклады з тэксту.

**5.** Якімі мастацкімі сродкамі перадаецца напружанасць інтанацыі ў песні гусляра?

**6.** Як успрымаюць песню гусляра князь і яго чэлядзь? Прывядзіце прыклады з тэксту.

**7.** Які момант сюжэта паэмы, на вашу думку, самы востры, напружаны, драматычны?

**8.** Адшукайце ў паэме радкі, якія характарызуюць умовы жыцця простага люду і жыцця князя. Як паказваецца жыццё сялян праз апісанне старой вёскі і жыццё князя праз апісанне хорама?

**9.** Як можна ахарактарызаваць учынак гусляра на вяселлі князёўны? Чаму так паводзіў сябе гусляр у адказ на абяцанне князя: *поўны гуслі насыплю дукатаў*?

**10.** Як вы думаеце, што кіравала намерам паэта напісаць такі твор: жаданне расказаць пра цікавы эпізод з даўняга жыцця, раскрыць тайну паходжання кургана ці штосьці іншае, больш важнае і значнае?

**11.** Пазнаёмцеся з ілюстрацыяй да паэмы «Курган» П. В. Шаранговіча (гл. форзац). Якія радкі з паэмы можна выкарыстаць у якасці загалоўка да гэтага мастацкага палатна? Абгрунтуйце сваё меркаванне.

**12.** Падрыхтуйцеся да выразнага чытання паэмы. Якім тонам (звычайным, журботным, узнёсла-трагічным) вы будзеце чытаць твор?

**13.** Пазнаёмцеся з рэпрадукцыяй карціны «Партрэт народнага паэта БССР Янкі Купалы». Якім паказаў аўтара паэмы «Курган» мастак С. А. Андруховіч? (Гл. уклейку.)

♦ Вы пазнаёміліся з паэмай Янкі Купалы «Курган» і, безумоўна, звярнулі ўвагу на тое, што яна па памерах значна большая за верш. У ёй расказваецца пра гераічную гісторыю народа, пра адважнага і непадкупнага гусляра. У паэме, як і ў вершы, выяўляюцца глыбокія перажыванні і пачуцці. Але адрознівае паэму ад верша наяўнасць сюжэта і персанажаў (галоўны герой паэмы паказаны ў самы напружаны момант — у час яго паядынку з князем). Такім чынам, ***паэма*** — гэта вялікі вершаваны твор, у якім расказваецца пра важныя праблемы рэчаіснасці, выяўляюцца глыбокія перажыванні аўтара і яго герояў.

## Пытанні да раздзела

**1.** Што яднае і адрознівае розныя віды мастацтва? Прывядзіце прыклады.

**2.** Якімі здольнасцямі звычайна валодае таленавіты чалавек — мастак, музыкант, паэт?

**3.** Назавіце вядомых вам беларускіх пісьменнікаў, мастакоў, кампазітараў, скульптараў. Пры неабходнасці звярніцеся да «Даведніка пра аўтараў».

**4.** Якіх выдатных пісьменнікаў, мастакоў, кампазітараў іншых народаў вы ведаеце?

**5.** Якія творы мастацтва (літаратуры, кіно, музыкі, жывапісу, скульптуры) вам асабліва падабаюцца? Чым?

**6.** Чаму літаратура і мастацтва вельмі патрэбны людзям?

**7.** У чым, на вашу думку, тоіцца «чарадзейная сіла» мастацтва? Чаму мастацкія творы выклікаюць такія глыбокія перажыванні?



## У ВЕРШАХ І Ў ПРОЗЕ

Вы, безумоўна, звярнулі ўвагу на тое, што літаратурныя творы бываюць двух відаў. Адны пішуцца вершамі, другія — празаічнай мовай. Першае, што мы заўважаем, калі чытаем вершаваныя творы, іх тэкст друкуецца кароткімі радкамі ў слупок:

Ой, зіма,
Зіма,
Зіма!
Весялей цябе
Няма!
Горка,
Санкі,
Гоман,
Смех.
Сіні вечар,
Белы снег.
Усе дзеці
На каньках,
Колькі радасці
Ў вачах!

*Пятрусь Броўка.*
*«Зімовыя малюнкі»*

Празаічныя творы пішуцца і друкуюцца на ўсю старонку. Сказы могуць быць і кароткія, і вельмі доўгія: «З краю лесу стаяла хатка лесніка Васіля Чурылы. Маленькае акенца хаткі смутным зрачком пазірала ў поле. Здалёк яно здавалася воўчым вокам. Над самым акенцам звісала голая вярбіна і глуха шумела, усё роўна як стагнала» (Якуб Колас. «Васіль Чурыла»).

Вершаваныя творы звычайна невялікія па аб'ёме, празаічныя — значна большыя, часта непараўнальна большыя: верш — на адну ці некалькі старонак, празаічны твор — на сотні старонак.

Але адрозненне вершаў ад празаічных твораў не толькі ў іх знешнім выглядзе. Розніца паміж імі, прычым вельмі істотная, у асаблівасцях іх мовы. Вершы часцей чытаюцца ўголас, дэкламуюцца і гучаць размерана, урачыста, напеўна. Гэта ад таго, што яны напісаны рытмічнай мовай. Прозу мы звычайна чытаем моўчкі. Калі ж яе чытаць уголас, яна ўспрымаецца як звычайная, спакойная размова, як паведамленне, апісанне ці разважанне аб бачаным або чутым пра нейкага чалавека або нейкую падзею, выпадак з жыцця. Інакш кажучы, у прозе мова свабодна арганізаваная, гучыць звыкла, натуральна, а ў вершах яна строга падпарадкоўваецца ***рытму***. Чытаючы верш, мы выразна адчуваем, як голас раўнамерна то ўзвышаецца, то паніжаецца, нібы адбівае такт, нібы перадае нейкі музычны найгрыш сугучнасцю канчаткаў радкоў — ***рыфмай***.

Аднак і гэтыя асаблівасці не да канца вызначаюць розніцу паміж вершамі і празаічнымі творамі. У вершах многа розных вобразных выразаў,

паэтычных прыёмаў — параўнанняў, эпітэтаў, метафар, гукавых паўтораў, пытальных або клічных сказаў, якія робяць верш напоўненым моцнымі ўражаннямі, перажываннямі, а яго мову — надзвычай эмацыянальнай, узрушанай.

У празаічных творах такія сродкі і прыёмы таксама ўжываюцца, але больш рэдка, мы іх як бы і не заўважаем. Галоўнае ў прозе — стварэнне карціны жыцця, дакладнае, хоць таксама вобразнае, апісанне жыццёвага факта ці эпізоду, паводзін чалавека. Нібы на карціне жывапісу, наша ўвага спыняецца не толькі на дадзеных буйным планам фігурах людзей ці прадметах, але і на розных падрабязнасцях — рысах твару, дэталях адзення, іншых штрыхах, што характарызуюць героя або канкрэтныя абставіны яго жыцця, побыту.

Вершы і проза разам складаюць тое, што мы называем ***мастацкай літаратурай***, але гэта два розныя віды літаратурнай мастацкай творчасці.

?

1. Чым адрозніваюцца вершаваныя творы ад празаічных па знешніх адзнаках?
2. У чым адметнасць мовы вершаў і мовы празаічных твораў?
3. Чым адрозніваюцца паэтычныя творы ад празаічных па спосабах і сродках, прыёмах паказу жыцця?
4. Прыгадайце вершы, якія вы вучылі ў папярэдніх класах. Назавіце ў адным з іх вобразна-выяўленчыя сродкі і вызначце іх ролю ў стварэнні мастацкіх вобразаў.

ЯКУБ КОЛАС

## Ручэй

Між алешын, кустоў,
Дзе пяе салавей,
І шуміць, і грыміць
Срэбразвонны ручэй.

Як матулька, вярба
Хіліць голаў над ім.
І глядзяцца кусты
Пышным верхам сваім.

Абступаюць яго
Чараты, асака,
Падыходзіць мурог
Да яго здаляка.

Часам зорка ўначы
На яго кіне зрок,
І хмурынка не раз
Зазірне ў ручаёк.

І схіляе трава
Над ім пасмы-брыжы.
А ён, жэўжык-пястун,
Гучным смехам дрыжыць.

То заскочыць у гай,
То курган абаўе,
Дзе сярдзіта бубніць,
Дзе лагодна пяе.

Люба слухаць той спеў,
Несціханы, густы,
І пад песні яго
Адпачынеш і ты.



1. Якім убачыў паэт ручэй? Якія вобразы, створаныя аўтарам, падаліся вам найбольш цікавымі?
2. Якія радкі верша вам асабліва спадабаліся? Як за імі паўстае асоба паэта?
3. Прачытайце верш яшчэ раз уголас, выдзяляючы склады пад націскам. Колькі такіх націскных складоў у кожным радку? У якой паслядоўнасці паўтараюцца яны ў вершы?
4. Што яшчэ надае мове верша рытмічнае гучанне? Ці адчулі вы сугучнасць складоў у канцы радкоў? Як яна называецца? Прачытайце словы, якія рыфмуюцца.
5. Чым дасягаецца мастацкая выразнасць мовы? Выпішыце з верша самыя яскравыя і маляўнічыя выразы, вызначце паэтычныя прыёмы, дайце ім азначэнне (эпітэт, адухаўленне, увасабленне, параўнанне), паспрабуйце растлумачыць іх ролю ў стварэнні вобраза ручая. Як яны ўплываюць на настрой верша?
6. Складзіце пейзажную замалёўку на тэму верша. Выкарыстайце, па магчымасці, наступныя эпітэты: *срэбразвонны, паспешлівы, гаманкі, бесклапотны*.
7. Праслухайце ў запісе песню кампазітара М. Чуркіна «Ручэй» на словы гэтага верша. Параўнайце ўражанні ад верша і песні.

ТАРАС ХАДКЕВІЧ

# Крынічка

*(Урывак)*

Чалавек сядзеў на краі кручы[1] над Дзвіной. Круча тут абрывалася стромкай карычневай сцяной і толькі ўнізе, пры самай рацэ, заканчвалася пакатым шаўкавіста-зялёным схілам. І там, унізе, ля купкі раскідзістага вербалозу, булькатала крынічка. З кручы яна здавалася люстэркам, намнога святлейшым, чым вада ў Дзвіне. Але люстэрка тое, калі прыгледзецца ўважліва, не было застылае. Яно жыло, варушылася, пералівалася цераз ніжэйшы край, і імклівыя струменьчыкі праклалі ў траве і прыбярэжным пяску раўчукі да Дзвіны...

Крынічку Петрык ведаў здаўна. Колькі ён папапіў вады з яе, бегаючы ўлетку з хлапчукамі па ўзбярэжжы! Пад вербалозам быў убіты ў зямлю альховы калок і на яго надзеты карэц[2], зроблены з бяросты старым пастухом Нічыпарам. Але прыемней было піць не з карца, а прылёгшы грудзьмі на край крынічкі. П'еш крыштальнай чысціні ваду і бачыш, як глыбока на дне варушацца жвір і каменьчыкі, нібы нехта нябачны гуляе з імі, і чуеш, як плюскоча крынічка, быццам яна размаўляе з табой. Вада ж сцюдзёная, смачная, нап'ешся і адчуваеш, як у цябе прыбавілася бадзёрасці і сілы.

---

[1] *Кру́ча* — абрывісты, круты бераг ракі.

[2] *Карэ́ц* — самаробны (з кары дрэва) кубак, конаўка для піцця вады.

Стары Нічыпар казаў хлопчыкам, што памятае гэтую крынічку змалку. Яна амаль не змянілася за доўгія гады яго жыцця — такая ж, як і даўней, празрыстая і гаманлівая. Вясновай яснай раніцай, казаў ён, можна ўбачыць, як нізка пырхаюць, кружацца над ёй птушкі, любуючыся сабой, як у люстэрку. І кружацца, і спяваюць, прыхарошваючыся. А калі які злы паляўнічы-браканьер параніць у лесе беланогага прыгажуна лася, дык лось прыходзіць сюды, п'е з крынічкі, і рана неўзабаве загойваецца. Казаў яшчэ дзед Нічыпар, нібыта ў летнюю месячную ноч расчэсвае каля яе свае шаўкавістыя косы русалка, выйшаўшы з глыбінь Дзвіны.

Што да птушак і лася, дык тое, можа быць, і праўда. А ў русалак Петрык не верыць. Старая гэта казка. Ніякіх русалак у Дзвіне няма, ды і наогул яны — выдумка. Ці мала што можа нагаварыць дзед Нічыпар, адно зачапіся з ім ды распусці вушы!

...Бурліць, плюскоча крынічка. Вербалоз прасцірае да яе гонкія галіны. Імклівымі ручайкамі пераліваецца, сцякае з яе ў Дзвіну крыштальная вада, і магутная задумлівая рака нібы прыслухоўваецца да яе гоману, булькату. Пераліваецца, сцякае па раўчуках у траве і пяску вада, а крынічка заўсёды поўная. І калі Петрык праходзіць ці спыняецца каля яе, яму здаецца, што яна расказвае нешта нязнанае, таямнічае. І яшчэ — што яна жывіць Дзвіну, і каб не было такіх крынічак, не было б і той прыгажосці, якой дыхае светлаплынная Дзвіна з яе раскошнымі, гаманлівымі берагамі.



1. Чым адрозніваецца ўрывак празаічнага твора ад папярэдняга верша на тую ж тэму? Ці можна ў яго мове выдзеліць такія ж, як у вершы, роўныя па колькасці складоў часткі, радкі? Ці ёсць у ім сугучныя словы, рыфмы?
2. Як лепш чытаць гэты тэкст: як і верш «Ручэй», эмацыянальна, з выразным захапленнем, ці спакойна, разважліва? Абгрунтуйце свой адказ.
3. Якімі сродкамі ствараецца ў гэтым творы замалёўка крынічкі: шматлікімі паэтычнымі выразамі або пры дапамозе даволі падрабязных апісанняў, аповеду, разважанняў старога Нічыпара, Петрыка?
4. Адшукайце гэтыя сродкі мастацкага выяўлення ў тэксце. Падумайце, ці маглі б быць у вершы такія апісанні ручая або крынічкі: *Пад вербалозам быў убіты ў зямлю альховы калок і на яго надзеты карэц, зроблены з бяросты старым пастухом Нічыпарам*. Чым яны «не падыходзяць» для верша?
5. Напішыце замалёўку ці невялікае апавяданне, падобнае да гэтага твора.

ВАСІЛЬ БЫКАЎ

## Незагойная рана

Буяе над абшарамі сцюдзёны асенні вецер, змятае пад прызбы пажоўклае лісце, гайдае мокрае галлё ў садку. Гарэзным сваволнікам выскаквае ён з-за вуглоў на цесны панадворак, цярэбіць саламяную страху хлеўчука, нібы дурэючы, тузае па

Тэклінай спіне блытаныя махры яе хусткі. Ад ветру і холаду ў старой макрэюць запалыя вочы, яна раз-пораз выпростваецца і, прыставіўшы да чурбана выслізганае тапарышча, ражком хусткі выцірае слёзы. Потым яна стомлена ўздыхае і акідвае позіркам тыя некалькі паленцаў, што ўжо адсечаны ад жардзіны. Жанчына вельмі стамілася, а насекла столькі, што не хопіць і разу прапаліць у печы. Спачыўшы з хвіліну і аддыхаўшыся, яна зноў прыступае нагой на тую жардзіну і ўзмахвае вышчарбленай сякерай.

Над пустым бульбянішчам Тэклінага агарода, над недалёкім выганам і дарогай, што, узбегшы на ўзгорак, хаваецца ў шэрай далечы, марудна паўзе восеньскі адвячорак. Некуды спяшаюцца імклівыя пакудлачаныя хмары ў небе, за хатамі ў вёсцы трывожна бляе авечка, і недзе разважна гергечуць гусі.

Тэкля сячэ, адпачывае ў кароткіх перапынках і ўвесь час азірае дарогу. Відаць па ўсім, што яна кагосьці чакае, і гэтае чаканне балючым адбіткам тугі і надзеі свеціцца ў яе слязлівых вачах.

Нарэшце на пагорку з'яўляецца імклівая постаць веласіпедыста, і Тэкля па нейкіх адной ёй вядомых прыкметах пазнае ў ім калгаснага пісьманосца. Веласіпедыст набліжаецца абочынай дарогі, потым, унізе, пад пагоркам, злазіць з машыны, выводзіць яе з калдобін і зноў сядае, локцем адкінуўшы на спіну цяжкую сваю сумку.

Па меры яго набліжэння старую ўсё больш ахоплівае нецярплівасць. Яна кладзе сякеру і з незагароджанага двара выходзіць на гразкую вуліцу. Рукі яе неспакойна блукаюць па грудзях, без

патрэбы абмацваюць світку, твар зморшчыўся ў пакутлівым выразе чакання, і ў вачах — нясцерпная туга надзеі. Калі пісьманосец звярнуў з дарогі ў вуліцу, жанчына па гразі шкандыбае насустрач, нібы баючыся, што ён без увагі абміне яе.

Пісьманосец прыцішвае бег веласіпеда, але не спыняецца, а ўзняўшы на жанчыну насуплены твар зморанага чалавека, груба папракае старую.

— Ну што ты мяне пільнуеш усё? Няма ж табе нічога. Нічога няма! — крычыць ён у твар жанчыне і знікае за рогам.

Старая нібы камянее на месцы, доўга яшчэ глядзіць услед праезджаму, і ў вачах яе — боль і здзіўленне. Нейкі час яна стаіць так без слоў і без руху, аглушаная няласкай чалавека. «Нічога няма», — шэпчуць яе засмяглыя паліnялыя вусны, і жанчына паволі ўнікае ў сэнс гэтых грубых слоў. Разбітай цяжкай хадою яна вяртаецца на панадворак да сваёй сякеры, але не падымае яе, а доўга стаіць над жардзінай і ўсё пазірае ў імглістую далеч. Па яе пасівераных рудых шчоках ціха коцяцца слёзы.

Яна доўга яшчэ глядзіць на сумны пагорак, гразкую дарогу і бачыць над гэтай мясцінай цёплы ліпеньскі дзень, высокае яснае неба і густое жыта абапал дарогі. Гэта было ў той, ужо далёкі, памятны год, калі пачалася вайна. І тады яна таксама стаяла тут і з роспаччу ў сэрцы пазірала на гэты шлях, а ногі яе імкнуліся бегчы туды, за ім, адзіным сынам, яе Васем. Шпаркай хадой рухавага чалавека ён хутка аддаляўся, па самыя плечы затулены ўмалотнай высокай збажыной, не азірнуўся, аж покуль не адышоўся далёка. А яна, не адры-

ваючы ад яго позірку, несціхана галасіла, вочы засцілалі слёзы і не давалі нагледзецца апошні раз на сваю васямнаццацігадовую надзею, сваё шчасце, частку яе матчынага сэрца. Толькі пасля ён спыніўся, павярнуўся да маткі, да роднай хаты і вёскі, пастаяў так, памахаў рукой, бы навек развітваўся з усім родным, сваім маленствам, маладосцю, і потым хутка знік за пагоркам.

І знік, відаць, назаўсёды...

Шаснаццаць страшных, нясцерпных год штогадзінным болем адмералі свой лік у матчыным сэрцы. Шаснаццаць год чакання, надзей, незабыўнага трывожнага спадзявання. Часам прыходзілі пісьмы ў розных канвертах і з зусім аднолькавым зместам: радавы Сподак Васіль Іванавіч у спісах забітых і прапаўшых без вестак не значыцца. Яны бянтэжылі і абнадзейвалі, гэтыя пісьмы, але ішоў час, а надзеі не спраўджваліся. Суседзі часам казалі такое, супраць чаго з усёй матчынай сілай пратэставала сэрца, якое верыла і чакала ўдзень і ўначы. Гэтая вера трымала старую ў жыцці, вымушала на клопаты аб сабе, але ж гэтулькі год мінала дарэмна...

Тым часам марудна цямнела, далячынь спавілася шэрай смугою, у паветры заснавала надакучлівая восеньская золь[1]. Абудзіўшыся ад задумення, старая сабрала на руку нарыхтаваныя паленцы і, крануўшы закрутку сенцаў, увайшла ў хату. Тут было ўжо цёмна, ледзь свяцілася ў паўзмроку абшкрэбаная, закураная печ, стуліўся ў куце стол і дзве лаўкі — уся хатняя абстаноўка. Светлымі

---

[1] *Золь* — непагадзь, сырое, халоднае надвор’е.

квадрацінамі сінелі яшчэ два акенцы, у адным чарнела заткнутая шыба. Старая паклала ля печы дровы, прыслухалася да знаёмай цішыні пустой хаты і, не распранаючыся, апусцілася на лаўку. Так яна сядзела доўга, думала ўсё пра адно і тое ж: дзе ён, ці жывы, ці не?

Спакваля змрок зусім затуліў пакой, толькі ўсё яшчэ бялела ля парога печ ды шарэлі вокны. Тэкля ўсё сядзела не кратаючыся, склаўшы на каленях рукі і схіліўшы ў задуме галаў. Яна моцна скаланулася, калі на ганку груткнулі нечыя крокі, і, як заўсёды на ўсялякі стук, абамлела яе сэрца. «Ён!» Не маючы ўжо сілы ўскочыць і кінуцца насустрач, яна застыла ў напружаным пакутным чаканні. Нехта ўвайшоў у сенцы, зашкрэбаў рукой па сцяне, шукаючы клямку. І хутка адчыніў дзверы. «Няўжо, няўжо, няўжо?» — у нямым запытанні стукала сэрца і прагнула, каб было так. Але спадзяванні жанчыны хутка рушыліся.

— Ці тут вы, цётка? — пачуўся з парога знаёмы голас суседскай дзяўчыны Ульянкі.

Збянтэжаная неспадзяванасцю, Тэкля маўчала, не ў стане супакоіць даўні прывычны боль.

— Што ж гэта вы лямпы не паліце? А я прыйшла па запалкі, калі багаты. У нас, каб на іх ліха, гэтыя курцы за дзень усе павыцягалі. Не накупляешся на іх, дымакураў.

Тэкля моўчкі слухала і не чула дзявочай гамонкі, у галаве яе плылі маркотныя даўнія думкі. Неяк няўцямна старая намацала на прыпечку няпоўны карабок запалак, аддала дзяўчыне. Тая ўсё балбатала пра тое ды гэта, а потым, нібы адчуўшы, як далёка яе размова ад сэрца жанчыны, змоўкла і, ужо ўзяўшыся за клямку, уздыхнула:

— Не мучцеся вы ўжо. Што ж зробіш? Калі дзе жывы, дык вернецца. А калі не...

Калі не, дык трэба забыцца ўжо.

— Ці ж можна забыцца? — пакутліва адгукнулася Тэкля. — Калі б хоць ведала, што няма, дык лягчэй было б. А так вось... У заўтрашні дзянёк якраз нарадзіўся ён, перад Пакровамі. Нарадзіўся на белы свет, а шчасцейка, відаць, не суджана было. Ляжаць, можа, дзе адны костачкі — ведаць бы хоць, у якой зямельцы — ці ў сваёй, ці — крый божа — у нямецкай.

Дзяўчына няёмка пераступіла ля парога, баючыся, што старая расплачацца і немаведама як тады супакоіць яе матчына гора. Але працяглы боль ужо высушыў слёзы старой Тэклі, толькі сэрца гарэла ад нясцерпнай пакуты.

У гэты вечар яна не паліла ў грубцы і не засвяціла лямпы. Яна ўзлезла на печ, трохі яшчэ цёплую зранку, і, накрыўшыся світкай, скурчылася на ўскрайку. Яна не заснула, ды і не намагалася зрабіць гэта, а ляжала так, не заплюшчваючы вачэй, і ў змроку хаты перад ёй паўставалі даўнія, але незабыўныя малюнкі.

...Ён нарадзіўся ў гэткі ж, як сёння, ветраны восеньскі дзень — маленькі крыклівы хлопчык. Бацька толькі што перахварэў на тыф, ужо ўзняўся, хадзіў, але быў яшчэ кволы і слабы. Першы сынок стаў вялікай уцехай у гэтай крайняй у вёсцы хаціне. Абое з бацькам яны выняньчылі, выхадзілі яго, радаваліся яго першым крокам і першым словам. Ішоў неўзаметку час, і рос бялявы, ціхмяны хлопчык — ласкавы, велікалобы, жвавы. У пяць год ён ездзіў з бацькам у поле, на начлег, пасвіў гусі,

а потым, калі нарадзілася Марыська, стаў няньчыць яе. Вучыўся ён добра, на святы прыносіў маленькія школьныя прэміі: сшыткі, пенал, каляровыя алоўкі. Суседзі хвалілі сына, і часта матчына сэрца мацней білася ад радасці.

І Васілька пасля школы падаўся далей, у гарадскі тэхнікум, дзе вучыліся на настаўнікаў. Тады ж яна зведала першы боль ростані і першую чароўную радасць сустрэчы. Ён быў зусім яшчэ падлетак, а ўжо яго паважалі ў вёсцы, суседкі зайздросцілі Тэклі, мужчыны хвалілі сына, а ён усё, як і ў дзяцінстве, быў ціхмяны, сарамлівы і стрымана ласкавы з маці. Яна тады ўжо засталася адна — бацька няшмат пражыў са слабым здароўем і неяк памёр напрадвесні. У той год Васілька канчаў вучобу, пасталеў, падрос, раздаўся ў плячах. І аднойчы, на нейкае свята, у час яго кароткага гасцявання дома, адчула маці, што ўжо скончылася дзяцінства яе белагаловага хлапчука і з ім — яе, матчына, улада над сынам.

Ёй добра памятны той цёплы майскі адвячорак, калі ў паветры пахла таполяй, маладым бярозавым лісцем. Гудзелі на панадворку хрушчы, недзе ў вёсцы граў гармонік, і яна, успомніўшы, што трэба да вечарынкі накарміць сына, пайшла за хату ў агародчык гукнуць яго. Ён там чытаў нешта, але калі маці ўбачыла яго, Васіль, безуважны да кнігі, неяк устрывожана і пільна пазіраў з-пад рабіны на палымяны разліў зары. Маці пяшчотна паклікала, але ён не паварушыўся нават, усё глядзеў на захад, а потым азваўся і сказаў такое, што назаўжды разбурыла спакой у матчыным сэрцы:

— Мама, глянь: бачыш, які захад? Праўда, падобна на вялізнае пажарышча? А, бадай, і сапраўды запалае зямля. Вайна будзе, мамачка. Я пайду туды, застанецеся вы з Марыськай.

Яна моцна спалохалася, памятае, зразумеўшы страшны сэнс тых слоў, заплакала, а ён ускочыў, абняў яе і супакойваў як мог, кажучы, што, можа, яшчэ ўладкуецца ўсё паціху. Але калі яна сціхла, працяла благое прадчуванне, ён сказаў ужо сур'ёзна і цвёрда, як узмужнелы, сталы мужчына:

— Усё ж, калі што здарыцца, я пайду, мама. Прызавуць ці не, а пайду: так трэба.

Яна не разумела ўсяго, але верыла, што калі казаў ён гэта, то сапраўды так трэба было, і не адгаворвала, не ўпрошвала яго. І ўсё ж у сэрцы яе ён заставаўся маленькім добрым белагаловым хлопчыкам, якому патрэбна была яе любоў і яе клопат. Усё здавалася ёй у страшныя гады вайны, што яму недзе цяжка, што ён знемагае ад болю, ад сцюжы, ад голаду. І яна не знаходзіла сабе месца ў хаце — хацелася бегчы, знайсці яго, памагчы, прыняць частку яго цяжару на свае плечы. Але куды было бегчы і дзе шукаць?

Ішлі гады. Яны неслі роспач, радзей кароткую, як пробліск восеньскага сонца, радасць. Людзі прыходзілі з вайны, з партызан, многія былі паранены, але жывыя, за другіх прыйшлі весткі аб іх гібелі. Па іх паплакалі маці і патроху супакоіліся — страчанага не вернеш. Тэкля ж усё чакала — доўга, цярпліва, без скаргаў, а ён не ішоў, не адзываўся. Яе суцяшалі суседзі, колькі разоў угаворвала Марыська, якая ўжо выйшла замуж і жыла ў далёкай вёсцы. Зяць пры кожнай сустрэчы цярпліва запра-

шаў яе да сябе — там гадаваліся ўнукі, і яна была дужа патрэбна. Але Тэкля ўсё не магла адцурацца хаціны, дзе нарадзіўся сын і якую яна ўпарта доўгія гады берагла для яго.

У хаце пакрысе ўсталёўваецца сляпая асенняя ноч, глухая ціш, апроч Тэклі тут нікога няма. Быў некалі кот, ды і той звёўся чамусьці. Вялікае гора прыбіла ўсякі інтарэс да жыцця, зламала характар, спарахніла душу — нічога няміла цяпер старой адзінокай жанчыне.

Яна ўсё ляжыць, расплюшчыўшы вочы, думае свае невясёлыя думы і напружана ўслухоўваецца. Так ужо прывыкла за шаснаццаць год і трывог, і чаканняў — слухаць кожны шолах і кожны гук у ваколіцы.

Але ўсюды ціха, толькі шамаціць у страсе халодны вецер ды недзе на дарозе гудзе машына. Яна, відаць, набліжаецца, буксуе, пэўна, у калдобінах тых, ля пагорка. Знячэўку сінявабатае дрыготкае святло яе фар слізгае па вокнах і кладзе ў куце пад столлю вузенькую бліскучую паску. Машына гудзе бліжэй, паска паволі сунецца на закураных, патрэсканых бярвеннях, шырэе; з'яўляюцца чорныя палосы рамы, і вось ужо на сцяне — бліскучы косы адбітак Тэклінага акна з адной чорнай заткнутаю шыбай. Акно ўсё хутчэй слізгае па сцяне ў другі кут і ўрэшце знікае, асвяціўшы на момант вялізны цвік і каўнер павешанага на ім кажушка. У хаце зноў робіцца цёмна, машына з цяжкім ляскатам і гулам мінае Тэклін падворак.

Тэкля нерухома слухае, думае сваё і раптам усхопліваецца ад новай надзеі. А можа, гэта ён, можа, ён са станцыі прыехаў, стаіць цяпер ля род-

нае хаты, вось-вось увойдзе. Тэкля ўзнімае галаў, слухае і сапраўды чуе няпэўныя крокі на ганку і ціхі кароткі стук. Ён! Старая ўзнімаецца на печы, спускаецца і, сцягнуўшы за сабою ватоўку, таропка бразгоча зашчапкай. Яна расчыняе дзверы сенцаў — у твар ёй б'е вільгаць і холад восеньскай ночы, наўкола цішыня і цемра. На ганку нікога, на панадворку змрок. З хвіліну яна ўзіраецца ў ноч, слухае, і сэрца яе зноў захлынаецца ад роспачы, не хоча ніяк пагадзіцца з крушэннем надзеі. Асцярожна мацаючы ботамі гразкі дол, яна заходзіць за рог, доўга ўглядаецца ў вуліцу — нідзе нікога.

Потым яна вяртаецца і зноў ляжыць на печы з расплюшчанымі вачыма і слухае, слухае ўсю ноч. Пад ранак жанчына ўсё ж засынае і нібы ў працягу сваіх думак бачыць дзівосны сон.

Бачыць яна: нібы настае новы, заўтрашні дзень — дзень нараджэння Васількі. Яна нешта завіхаецца на панадворку і ўсё пазірае на дарогу, чакае і пэўна ведае, што сёння павінен з'явіцца ён, яе надзея. Жанчына ўсё рыхтуецца да гэтай сустрэчы, але чамусьці няма радасці на яе сэрцы ад хуткага спаткання — нешта замінае ёй, гэтай радасці. Урэшце чаканне сустрэчы і зусім знікае. Жанчына паліць у печы, ёй памагае дачушка Марыська. Яны пякуць бліны і між справай ласуюцца святочным наедкам, зусім забыўшыся ўжо пра Васільку і яго хуткае вяртанне. І раптам суседская Ульянка стукае і нешта крычыць у акно — Тэклі не чутна слоў, але яна здагадваецца, што гэта вяртаецца ён. Старая выбягае з хаты і бачыць, як на той жа дарозе, што і шаснаццаць год назад, ідзе яе сын, яе дарагі Васілька. Але ён ідзе вельмі

марудна, часта спыняецца, становіцца на калені — з ім штосьці здарылася, яму, відаць, вельмі цяжка. Маці, ахопленая нястрымным роспачным хваляваннем, наўпросткі, праз бульбянішча і гразь, у адной кофце, без хусткі бяжыць насустрач сыну. Яна ўжо ведае, што нешта страшнае, непапраўнае здарылася з яе Васількам. Жанчына, галосячы, падбягае да сына — ён, прыўзняўшыся на руках, ляжыць на дарозе, і яго малады, такі ж, як і шаснаццаць год назад, без ніводнай маршчынкі, твар спагадліва ўсміхаецца. Але што гэта? Чаму ў сына няма ні рук, ні ног, замест іх адны толькі кароткія кульцяпкі? І чаму кроў на яго пілотцы з маленькай зялёнай зорачкай? Маці, млеючы ад жаху, хапаецца за сына, прабуючы ўзняць, і галосіць, а ён спакойна так кажа: «Нічога, мама, усё благое скончылася. Цяпер жыць будзем...»

А потым яна бачыць яго ў роднай хаце, быццам ён сядзіць на покуці і ўжо не ў чырвонаармейскай форме, а ў шэрым пінжачку, які справіў перад вайной, і сур’ёзна кажа маці: «Ну і нічога, хоць я і загінуў, але зноў жывы».

Ад нясцерпных жахаў яна прачынаецца на досвітку і, знясіленая ад перажытага за ноч, нерухома ляжыць, не ведаючы, што і падумаць. Яна прыпамінае сон, удумваецца ў яго адметныя драбніцы, зноў пакутуе ад такога выразнага, свежага ў пачуццях відовішча, і чым далей, тым болей у старой мацнее ўпэўненасць, што ён вернецца. Гэтая ўпэўненасць і жаданне, каб усё здзейснілася, ужо не даюць старой чакаць у бяздзейнасці, яна ўзнімаецца, хуценька накідвае на плечы сваю світку. У хаце сцюдзёна, ужо даўно і зусім астыла печ, у вокнах

сінее свежы ранак, і Тэкля кідаецца да таго, з разбітай шыбай, каб убачыць дарогу. Але дарогі яшчэ не відно, ледзь-ледзь цямнее пад нізкім хмарным небам пусты пагорак — і ўсё. Старая сноўдае па хаце, не ведаючы, што рабіць, за што ўзяцца, а думкі яе — на той дарозе і сэрца ўсё больш ахоплівае нецярплівасць. Яна ўжо верыць, што ён недзе вяртаецца, і ўвесь час то падбягае да акна, то выходзіць на панадворак і да болю ў вачах узіраецца ў шэрую далячынь.

Калі добра развіднела, Тэкля ўжо не магла стрымаць сябе і, выйшаўшы на вуліцу, пачала ўглядацца ў дарогу. Спачатку там было пуста, потым з'явілася нейкая фурманка, на ёй сядзелі двое мужчын і кабета. Старая ўсё ўглядалася ў іх — пільна і доўга, захлынаючыся ад нецярплівасці, а яны, бесклапотна гутарачы аб нечым і перасмейваючыся, так і мінулі вёску. Потым зноў на дарозе доўга не было нікога, аж пакуль здалёк не паказалася нейкая адзінокая постаць. Яна з'явілася, паматлялася на краявідзе і недзе знікла. У Тэклі адразу адарвалася нешта ўнутры, тупа ўдарыла ў галаў здагадка: «Ён!» Яна прыгледзелася яшчэ і ўжо не магла стрымацца. Не зачыніўшы нават сенцаў, у бахілах набасаног старая хутка пайшла па дарозе. Спачатку яна абмінала гразь, пазіраючы то пад ногі, то на пагорак, потым прыбавіла кроку і ўжо не разбірала дарогі. У нізіне ля калдобін, калі знік з вачэй пагорак, яе ахапіла трывога. Здалося жанчыне, што яна позніцца, што ён упаў там і ляжыць пакалечаны, і маці, цяжка дыхаючы, кінулася подбегам.

Сэрца яе ледзь не разрывалася ад гора і напружання, пакуль яна выйшла з лагчыны. Вось-вось, здавалася, яна ўбачыць яго, як у тым сне, на дарозе, зняможанага, пакалечанага. Яна, захліпаючыся ад стомы і хвалявання, узлезла на пагорак, але дарога была пустая. Гэта было першае расчараванне, але яно не пахіснула веры жанчыны. А можа, ён далей, можа, за параснікамі ці ў Лужку, думалася ёй, і старая, не спыняючыся, бегла далей.

Над шырокімі прасцягамі, раллёй і голымі пералескамі непрыкметна зачаўся сумны восеньскі дзень, было ветрана і сцюдзёна. Нізкае неба поўнілася цяжкімі азызлымі хмарамі — яны суцэльным бясконцым статкам плылі з захаду, несучы першы зазімак.

Тэкля не спынілася ні на пагорку, ні ля параснікаў, яна не магла ўжо суцішыць хады — усё ў ёй ірвалася наперад, туды, адкуль яна чакала яго. Увесь час здавалася старой, што вось-вось яна дасягне горкі ці абміне хмызняк і ўбачыць яго, і жанчына ўсё прыбаўляла хады.

Але ён не паказаўся ні з-за горкі, ні з-за параснікаў, а сілы старой пачалі слабець. Адзін раз яна прытулілася да тэлефоннага слупа, нібы ўпершыню здзівіўшыся марнасці надзеі, зірнула назад, наперад. Як добра, падумала старая, што бацька пахаваны дома, на вясковых могілках, што ў яго дагледжаная магілка, а дзе ён? Дзе пахаваны ён? — нема крычала яе душа. Няўжо сапраўды ўсё скончана і ніколі ёй не дачакацца яго і давядзецца падацца ў чужыну да зяця?.. Але чаму пахаваны? Не можа быць, каб памёр ён, ён павінен жыць, ён ідзе гэтай дарогай, дык трэба спяшацца сустрэць

яго. І яна шкандыбала па гразі ў невядомую далеч дарогі.

Апоўдні мінула знаёмыя мясціны, вядомыя вёскі. Дарога ўсё вілася ў восеньскіх прасторах, усё з прагнасцю азірала яе маці, але яго не было нідзе. Яна ўсё ішла, але вельмі знемагла ўжо, часта адпачывала на ўзмежках, ля слупа, на камянях. Спыніцца яна не магла, не магла і вярнуцца: ёй здавалася, што жыццё яе сына — у той дарозе.

А то ёй сустрэўся трактар, ён цягнуў вялізную чырвоную малатарню, а на ёй і на трактары сядзелі некалькі хлопцаў. Старая саступіла з дарогі ўбок ад грукату і лязгу і ўважліва агледзела седакоў. Адзін, што сядзеў збоч трактарыста ў кабіне, здаўся ёй неяк вельмі падобны да яе Васількі; трактар праехаў, а яна ўсё глядзела ўслед. Хлопец у расшпіленай ватоўцы на малатарні нешта крыкнуў ёй і засмяяўся — яна не пачула яго слоў, але чамусьці аж схамянулася ад яго маладога свавольніцкага смеху.

Пад вечар яна ўжо ледзь брыла дарогай, спынялася, задыхалася ад стомы. Старэчы позірк, што так натхнёна вёў яе ўдалеч, пагас пакрысе, як пагасла і яе нясцерпная надзея сустрэць яго. І ўсё ж яна з дрыготкім сэрцам узіралася ў дарогу з-за кожнай павароткі.

Урэшце беспадстаўная вера жанчыны пачала марнець. Усё часцей вярталася думка, што дарэмныя яе надзеі, бескарысны клопат. Не прыйдзе ён сёння і ніколі, бо яго няма ўжо на белым свеце. Усё быў зман, пустыя спадзяванні, і яна прагла толькі даведацца, дзе пахаваны яе сын. Гэта было іншае пытанне, але яно апанавала маці з гэткай ж

нязмернай сілай, як і тое, што датычылася яго жыцця.

У небе ўсё гусцелі барвовыя хмары, яны не плылі цяпер, а збіраліся, тоўпіліся над прасторамі, быццам здумаўшы нешта нядобрае. Расплываўся з-за краявіду сінявата змрок, далячынь сцямнела, насупілася ў прадчуванні непагадзі. Пэўна, блізіўся вечар ці мо ад хмар цямнела да часу. На сіверным ветры замільгалі рэдкія сняжынкі.

Тэкля некуды ішла, ужо і сама не ведала, куды і па што. Усё больш апаноўвалі яе роспач і гора, яна ведала пэўна, што шчасце не спаткае яе на гэтай дарозе. Але не магла яна і вярнуцца назад — не было ўжо сілы ў яе на тое вяртанне.

Дарога прывяла старую ў нейкі лясок. Абапал шляху цесна стаялі елкі, шумелі, гулі ў ветранай высі іх верхавіны. На доле шамацела змецenae ў каляіне лісце, блішчалі лужыны рудой, мутнай вады. Тэкля ішла па дарозе, абапіраючыся на кій, ледзь пераступаючы збалелымі, натруджанымі нагамі. Аднак лес неўзабаве скончыўся, дарога пабегла ўніз да самотнай пустой лугавіны, і жанчына, схамянуўшыся, раптам спынілася.

На пагорку, збоч ад дарогі, на ўзлеску незвычайна ярка і чыста неяк у гэты халодны восеньскі вечар бялеў каменны абеліск з зоркай наверсе — звычайны вайсковы помнік тым, хто не дайшоў да Берліна. Хістаючыся ад горкіх прадчуванняў, што хлынулі ў яе душу, Тэкля сышла з дарогі і, узнімаючы нагамі некрануты пласт шапатлівага лісця, падалася да помніка.

Ён быў дагледжаны, падпраўлены і нядаўна пабелены, гэты журботны напамінак вайны. Нявялі-

кая магілка з завялай травою і высахлымі немудрагелістымі вянкамі старанна падраўняна; пагабляваныя штыкеціны агароджы афарбаваны зялёнай фарбай — як і належыць вайскоўцам. На адным баку абеліска чарнела ўмураваная ў яго дошчачка з не дужа зграбна напісанымі, але выразнымі літарамі — спісам пахаваных байцоў. У роспачы павісшы грудзьмі на агароджы, старая ўпілася ў гэтыя радкі жалобных слоў.

Не, яго не было тут. «Лейтэнант Авяр'янаў, гвардыі старшына Кузняцоў, радавыя Бондараў, Піліпенка, Чарных і іншыя». Але хто ж гэтыя іншыя, чаму не напісаны іхнія імёны? А можа, і ён тут у ліку гэтых невядомых «іншых»?

Яна ўжо не магла ісці адгэтуль, учапілася рукамі ў халодныя штыкеціны, і з глыбіні яе жарам гарэўшых грудзей вырвалася страшнае пытанне:

— Сыночак мой, дзе ж ты?

Чарнела неба ад хмар, шумеў голым веццем узлесак, стыла шэрая далячынь. Доўга яшчэ лящела на ветры тое яе запытанне, і нема крычала матчына сэрца ад нясцерпнае раны вайны.

?

1. Які момант, эпізод апавядання вас найбольш узрушыў, усхваляваў? Чым?
2. Чаму апавяданне называецца «Незагойная рана»? Пра якую рану гаворыцца ў творы? Раскрыйце пераносны сэнс гэтай назвы.
3. Асноўнае дзеянне твора ахоплівае адны суткі, але мы з яго даведваемся амаль пра ўсё жыццё старой Тэклі і яе сям'і. Якім чынам гэта дасягаецца, пры дапамозе якіх прыёмаў?

4. Якую ролю ў гэтым адыгрываюць успаміны Тэклі пра сыночка Васілька? Якім чалавекам паўстае Васілёк з гэтых успамінаў? Як падаецца яго апісанне-партрэт?
5. Як раскрываюцца душэўныя перажыванні і пакуты маці праз іншыя вобразы-персанажы апавядання — пісьманосца, суседкі Ульянкі, хлопца на малатарні? Як гэтыя маладыя людзі рэагуюць на паводзіны старой Тэклі? Ці разумеюць, ці адчуваюць яны душэўную драму маці, якая страціла сына? Абгрунтуйце сваё меркаванне, абапіраючыся на тэкст твора.
6. Як раскрываюцца перажыванні Тэклі праз замалёўкі прыроды (пейзаж), праз апісанні Тэклінай хаты і двара? Прывядзіце прыклады з тэксту.
7. Якімі словамі можна перадаць перажыванні жанчыны-маці, якая страціла сына ў час вайны: журботныя, цяжкія, горкія, балючыя, маркотныя, пакутлівыя, шчымлівыя або якія іншыя? Падбярыце найбольш адпаведныя азначэнні-сінонімы, эпітэты.
8. Вызначце элементы сюжэта ў творы: завязку, кульмінацыю і развязку.
9. Падрыхтуйцеся да пераказу прыкладна па такім плане:
   - Тэкля сячэ дровы;
   - сустрэча з пісьманосцам;
   - успаміны пра апошняе развітанне з сынам;
   - Тэкля і суседка Ульянка;
   - успаміны, сон Тэклі пра Васілька;

- нясцерпнае жаданне ўбачыць сыночка кліча маці ў дарогу;
- сустрэчы і перажыванні ў дарозе;
- каменны помнік-абеліск з імёнамі загінуўшых;
- «Сыночак мой, дзе ж ты?».

Для пераказу можна ўзяць толькі адзін з пунктаў плана, але пастарайцеся быць уважлівымі да тэксту, звяртацца да слоў аўтара, яго мастацкіх прыёмаў.

**10.** Да якога жанру можна аднесці гэты твор? (Пры неабходнасці звярніцеся да «Слоўніка».)

**11.** Для больш выразнага разумення асаблівасці апавядання як жанру параўнайце яго з вершам В. Зуёнка «З вайны сустрэлі мацяркі сыноў...».

## ВАСІЛЬ ЗУЁНАК

* * *

З вайны сустрэлі мацяркі сыноў
І выглядалі-радзілі нявестак.
А сын яе дадому не прыйшоў.
Прыйшло кароткае:
«Прапаў без вестак...»

Сябры пасумавалі, землякі,
Слязу змахнула ўпотайкі дзяўчына:
Не вернецца... Знаць, лёс яе такі...
Ды толькі сын для маці не загінуў.

Знаходзіць маці тысячы прычын,
Чаму так доўга сын яе ў дарозе,
Чаму не йдзе разгладзіць ёй маршчын
І высушыць на родным твары слёзы.

Яна між рэчаў самых дарагіх
Кашулі сына беражна хавае,
Святочным днём падоўгу каля іх
Стаіць,
гамоніць з імі,
плача і ўздыхае...

І ёй успамінаецца тады,
Як сын казаў: «Вярнуся, не загіну,
Чакай мяне... Чакай!..»
Ідуць гады,
І кожны дзень чакае маці сына.



1. Якія пачуцці і перажыванні выклікаў у вас верш? Якія яго радкі паўплывалі на вашы адносіны да мацярок, што не дачакаліся з вайны сваіх сыноў?
2. У якой танальнасці лепш чытаць гэты верш?
3. Вызначце тэму твора і яго галоўную думку.
4. Абгрунтуйце меркаванне, што празаічны твор «Незагойная рана» і верш «З вайны сустрэлі мацяркі сыноў...» раскрываюць пачуцці і перажыванні матуль, але робяць гэта пры дапамозе розных сродкаў і прыёмаў.
5. Якія радкі з верша можна выкарыстаць у якасці эпіграфа да апавядання В. Быкава «Незагойная рана»?

## Пейзаж і яго роля ў мастацкім творы

Важную ролю ў характарыстыцы дзеяння твора, настрояў, перажыванняў герояў адыгрываюць замалёўкі прыроды. У апавяданні В. Быкава «Незагойная рана» яны сустракаюцца часта — ад пачатку да канца: «Буяе над абшарамі сцюдзёны асенні вецер, змятае пад прызбы пажоўклае лісце, гайдае мокрае галлё ў садку... Над пустым бульбянішчам Тэклінага агарода, над недалёкім выганам і дарогай, што, узбегшы на ўзгорак, хаваецца ў шэрай далечы, марудна паўзе восеньскі адвячорак. Некуды спяшаюцца імклівыя пакудлачаныя хмары ў небе, за хатамі ў вёсцы трывожна бляе авечка, і недзе разважна гергечуць гусі».

Такой паўстае прырода ў пачатку твора.

«Тым часам марудна цямнела, далячынь спавілася шэрай смугою, у паветры заснавала надакучлівая восеньская золь... У небе ўсё гусцелі барвовыя хмары, яны не плылі цяпер, а збіраліся, тоўпіліся над прасторамі, быццам задумаўшы нешта нядобрае. Расплываўся з-за краявіду сіняваты змрок, далячынь сцямнела, насупілася ў прадчуваннi непагадзі».

Гэта — з сярэдзіны апавядання.

І вось заключныя мазкі карціны: «Чарнела неба ад хмар, шумеў голым веццем узлесак, стыла шэрая далячынь...»

Нават калі б мы нічога не ведалі пра змест твора, яго герояў, толькі па гэтых апісаннях прыроды, фарбах і адценнях пейзажу можна было б зрабіць выснову, што расказваецца ў ім пра падзеі нярадасныя, невясёлыя, нават вельмі цяжкія, пакутлівыя.

На такую думку нас наводзяць асобныя заўвагі, намёкі ў апісаннях прыроды: «сцюдзёны асенні вецер», «трывожна бляе авечка», «барвовыя хмары тоўпіліся, быццам задумаўшы нешта нядобрае», «далячынь насупілася ў прадчуванні непагадзі» і інш.

***Пейзаж***, або апісанне прыроды, у мастацкім творы не толькі знаёміць чытача з месцам і часам (пара года, час дня) дзеяння, але і характарызуе агульны настрой аповеду, душэўны стан героя, яго перажыванні, пачуцці, роздумы аб жыцці, у адным выпадку цяжкія, маркотныя, у іншым — радасныя, узнёслыя. Гэта залежыць ад задумы пісьменніка, ад таго, што ён хоча сказаць чытачу. Так, у адрозненне ад апавядання «Незагойная рана», дзе прырода паказваецца халоднай, няўтульнай, змрочнай, ва ўрыўку з паэмы Я. Коласа «У яго быў свет цікавы...» яна малюецца лагоднай, як бы спачувальнай, прыветнай у адносінах да Сымонкі.

Пейзаж у літаратурным мастацкім творы, як і ў карцінах жывапісу, можа мець і такую мэту — паказаць прыгажосць таго кутка зямлі, дзе жывуць героі ці сам аўтар твора, але і ў гэтым выпадку ён не з'яўляецца простым апісаннем прыроды, ён выяўляе настрой, пачуцці аўтара, яго адносіны да жыцця.



1. Што такое пейзаж у мастацкім творы?
2. Якую ролю ён адыгрывае ў паказе жыцця, характарыстыцы герояў твора?
3. Якія творы пейзажнага жывапісу вы ведаеце? Ці толькі аб жыцці прыроды расказваюць гэтыя творы нават тады, калі ў іх не паказваецца чалавек? Абгрунтуйце сваю думку.

## Пытанні да раздзела

**1.** Якія два асноўныя віды літаратурных твораў вы ведаеце?

**2.** Чым адрозніваюцца вершаваныя творы ад празаічных: па знешняй форме, па асаблівасцях мовы (у дачыненні да рытму, да вобразна-выяўленчых сродкаў), па ўздзеянні на чытача? (Яшчэ раз звярніцеся да ўступнага артыкула гэтага раздзела, успомніце прачытаныя творы.)

**3.** Якія вершаваныя паэтычныя творы вам асабліва падабаюцца? Чаму?

**4.** Назавіце вашы любімыя празаічныя творы. Чым яны зацікавілі вас, чым запомніліся?

**5.** Якія творы мастацкай літаратуры (паэтычныя ці празаічныя) бліжэй да твораў музыкі, якія — да твораў жывапісу? Паспрабуйце паказаць гэта на супастаўленнях з вядомымі вам музычнымі творамі або творамі жывапісу.



# ЗАГАДКАВАЯ КРАІНА ПАЭЗІЯ

Паэзія — самы няўлоўны сакрэт,
Які не будзе нікім рассакрэчаны...
*Пімен Панчанка*

Пасля гэтых слоў П. Панчанкі, узятых у якасці эпіграфа, натуральна, не можа не ўзнікнуць пытанне: для чаго ж тады шукаць разгадку таямніц паэзіі? Навошта гэтыя цяжкія і разам з тым марныя намаганні?

Аднак сэнс, напэўна, ёсць! І вельмі сур'ёзны! Бо колькі існуе чалавецтва і развіваецца мастацтва слова (і гэта не адно тысячагоддзе!), людзі шукаюць разгадку тайнаў паэзіі. Шукаюць яе, калі задумваюцца над тым, чаму так хапае за душу добрая песня, чаму так прываблівае, узбуджае хораша і дасціпна сказанае слова. Пра паэзію шмат пісалі і працягваюць пісаць даследчыкі літаратуры, крытыкі, самі паэты.

Атрымліваецца, як у той казцы пра зачараваны скарб. Увесь свой век герой настойліва шукае скарб. Сам не знаходзіць — працягваюць пошукі яго дзеці, унукі, праўнукі, потым і іх дзеці. Але ўсё шукаюць, шукаюць... Чаму? Ды таму, відаць, што з гэтым звязана нешта асабістае, вельмі важнае для іх — надзеі і мары аб лепшым, прыгажэйшым жыцці, жаданне чагосьці нязвыклага, прывабнага і сапраўды трошкі таемнага, загадкавага.

Гэтак жа і з паэзіяй. Яе сакрэты сапраўды вельмі няпростыя, аднак яна нібы тая далёкая зорка ці прыгожая экзатычная краіна, што ўяўляецца нам у снах ці марах, кліча да сябе, прываблівае ўсіх, хто нераўнадушны да прыгожага, узвышанага.

І для тых, хто хоча спазнаць яе, паэзія ўсё ж прыадкрывае свае тайны. Праўда, пры гэтым яна яшчэ болей заварожвае сваімі загадкамі (у тым і заключаецца сэнс выказвання П. Панчанкі). Хто хоць раз дакрануўся сэрцам да паэзіі, той ужо ніколі не пазбавіцца цягі да прыгажосці, заключанай у паэтычным слове.

Вось як вобразна пра яе гаварыў наш выдатны паэт М. Танк:

...Паэзія — гэта адвечная цяга
Вяршынь да нябёс,
А траваў і дрэваў —
Да сонца.
Паэзія — гэта вясёлкавы мост
Ад сэрца людскога
Да мары...

Іншымі словамі, паэзія — гэта тая сіла, што надае высокі сэнс жыццю, робіць яго змястоўным і прывабным, абуджае ў чалавеку нястрымнае памкненне да хараства, прыгажосці, да гармоніі са светам.

Паэзія з'яўляецца невычэрпнай крыніцай духоўнага хараства нашага народа. Менавіта паэзія прамаўляе нашы запаветныя мары і спадзяванні, вучыць праўдзе і чалавечнасці.

Толькі ёй пад сілу ўзняць душу народа і ўсё грамадства над будзённасцю.

Час здольны змяніць свет, высушыць рэкі і занесці пяском гарады. Але, як адзначаюць самі паэты, крыніца паэзіі нязменна будзе бруіць з ча-

лавечай душы, з самага сэрца народа. Гэта крыніца непадуладная часу.

Пра паэзію напісана шмат вершаў. Прыслухаемся да тых думак, якія выказваюць самі паэты.

ЛЕАНІД ГАЛУБОВІЧ

## Паэзія

Ты — боль, паэзія. Ты — быль.
Твае суровыя законы
Не для забаў, не для гульбы —
А пошук ісціны да скону.

Ты — рай, паэзія. Ты — рой
Адвечных дум, дзе мы згараем.
І толькі геніі парой
Жылі часова гэтым раем.

Ты — жаль, паэзія. Ты — жар.
Я па тваім хаджу вуголлі.
Чыя не прагнула душа
Твайго зняволення і волі?

Ты — сум, паэзія. Ты — суд.
І мрояў нашых і здзяйсненняў.
Хай душы шчырыя нясуць
Высокі лад тваіх памкненняў!..

Ты — боль, паэзія. Ты — бой.
Ты — праўда непрыступнай вежы.
Я — праведнік і грэшнік твой[1].
Пусці мяне ў тваё бязмежжа!..

---

[1] *Пра́веднік і грэ́шнік твой* — той, хто кіруецца высокімі думкамі паэзіі і часам ідзе насуперак ім, хоць і не па ўласным жаданні.



1. Якія пачуцці і думкі ўзнікаюць у вас пры знаёмстве з гэтым вершам?
2. Чаму паэзія — гэта *боль, быль, рай, жаль, жар, сум, суд, бой* і г. д.?
3. Якія азначэнні паэзіі здаюцца вам вынікам не толькі цяжкіх роздумаў паэта, але і цвёрдых перакананняў і мужнасці? Прывядзіце прыклады вядомых вам твораў, дзе гэтыя адзнакі паэзіі выступаюць асабліва наглядна.
4. Раскрыйце сэнс выразаў: *Чыя не прагнула душа твайго зняволення і волі? Я — праведнік і грэшнік твой.*
5. Звярніце ўвагу на такую асаблівасць верша, як унутраныя рыфмы — сугучча кароткіх аднаскладовых слоў: *боль — быль, рай — рой, жаль — жар, сум — суд, боль — бой.*
   Якую інтанацыю (спакойную, разважлівую ці, наадварот, напружаную, узбуджаную) уносяць у верш гэтыя пары слоў? Якімі асаблівасцямі зместу верша выклікана такая інтанацыя?
6. Чаму ў вершы шмат розных азначэнняў паэзіі, супастаўленняў яе з рознымі з'явамі жыцця?
   Пра што гэта сведчыць: пра тое, што змест паэзіі вельмі разнастайны і яго нельга вызначыць адным-двума словамі? Або пра тое, што сама паэзія любіць такія розныя, часта кантрасныя па сэнсе вобразы-параўнанні? Ці тое і другое разам?

ВІКТАР ШНІП

## Паэзія

Яна з’явілася, як прывід, сярод ночы.
Сказала позіркам: «Ідзі за мной...»
Услед, нібыта раб яе, пакрочыў
Па горадзе, залітым цішынёй.
Пад раніцу мы выйшлі ў поле.
— Куды вядзеш, скажы? Што хочаш дам,
Ды толькі волю не аддам ніколі!
— Яе мне сёння ўжо аддаў ты сам...
Я кляў яе і ёй маліўся шчыра.
Уцёкшы ад яе, шукаў ізноў.
— Нашто мяне ў палон свой заманіла?
— Цябе ніхто не гнаў. Ты сам прыйшоў.

?

**1.** У невялікім па памерах творы аўтар здолеў перадаць стан героя, які трапляе ў палон да Паэзіі. Якія пачуцці перажывае герой? Ці спрабуе ён пазбавіцца гэтага палону?

**2.** Назавіце ў вершы вобразы, створаныя пры дапамозе параўнання і супрацьпастаўлення. Якой паўстае Паэзія? Якім вы ўяўляеце героя вершаванага твора? Пры адказе выкарыстайце радкі з тэксту.

**3.** Як вы разумееце словы Паэзіі пра волю: *Яе мне сёння ўжо аддаў ты сам*?

**4.** З якой інтанацыяй трэба чытаць гэты верш (бадзёрай, узнёслай, удумліва-разважлівай ці якой іншай)?

**5.** На прыкладзе гэтага верша паразважайце, ці лёгка быць паэтам.

## Пра вершаскладанне

Найважнейшай адзнакай верша з’яўляецца ***рытм***. Рытмічнае гучанне вершаванай мовы дасягаецца рознымі спосабамі. Перш за ўсё раўнамерным чаргаваннем націскных і ненаціскных складоў або паўтарэннем асобных груп складоў, сярод якіх абавязкова ёсць адзін націскны, а пры ім — адзін або два ненаціскныя. Такія групы складоў называюцца ***стопамі***. Напрыклад, возьмем радок з твора Я. Коласа «У яго быў свет цікавы...»:

Ло́віць сэ́рцам спе́ў прыго́жы...

_́ _ _́ _ _́ _ _́ _

Як бачым, у гэтым радку націскі падаюць на кожны няцотны склад (першы, трэці, пяты, сёмы) і такім чынам утвараюць чатыры двухскладовыя стапы.

_́ _ | _́ _ | _́ _ | _́ _

Двухскладовая стапа з націскам на першым складзе называецца ***харэем***. Яна тут паўтараецца чатыры разы, таму ***вершаваны памер*** верша вызначаецца як чатырохстопны харэй.

Стопы ў вершах бываюць двухскладовыя (харэй, ямб) і трохскладовыя (дактыль, амфібрахій, анапест). На схеме яны выглядаюць так:

| | |
|---|---|
| харэй | _́ _ |
| ямб | _ _́ |
| дактыль | _́ _ _ |
| амфібрахій | _ _́ _ |
| анапест | _ _ _́ |

Усе гэтыя стопы і вершаваныя памеры прыведзены і тлумачацца ў «Кароткім слоўніку літаратуразнаўчых тэрмінаў». Звярніцеся да «Слоўніка» і ўважліва перачытайце названыя там вершы. Паспрабуйце перадаць іх рытмічныя асаблівасці ў схемах радкоў.

Памер верша, як ужо мы адзначалі, залежыць не толькі ад стапы, але і ад колькасці стоп у радку. Даўжыня радка моцна ўплывае на гучанне верша, яго рытм. Параўнаем два вершы:

Паміж пу́стак, бало́т белару́скай зямлі́...
*Я. Купала. «Курган»*

Схема радка:

— — —́ | — — —́ | — — —́ | — — —́

Стапа анапеста паўтараецца чатыры разы, гэта значыць, што перад намі чатырохстопны анапест. А вось у вершы Я. Коласа «Ручэй» — двухстопны анапест:

Між але́шын, кусто́ў...

— — —́ | — — —́ |

У першым і ў другім вершы анапест, але гучанне радкоў вельмі рознае.

Рытм у вершы ствараецца не толькі чаргаваннем стоп і іх колькасцю ў радку, але і паўтарэннем саміх радкоў, што асабліва заўважаецца дзякуючы ***рыфме*** — сугучнасці канчаткаў:

Наш мілы дзядзька, наш Антон**і**,
Ў дзіцячым часта быў палон**е**...

Рытм верша ствараецца таксама паўтарэннем ***строф*** — роўных частак верша з аднолькавай колькасцю радкоў, аб’яднаных аднатыпнай рыфмоўкай:

На ўсходзе неба **грае**
Пераліўным блескам.
Сыпле золата над **гаем**
І над пералескам.

Чуць-чуць дрогне, **праліецца**
Чырвань на усходзе —
Гэта неба **ўсміхнецца**
Людзям і прыродзе...
*Я. Колас. «Усход сонца»*

1. Што такое рытм у вершы? Якімі сродкамі ён ствараецца?
2. Што такое стапа ў вершы?
3. Якія вершаваныя памеры вы ведаеце? Прывядзіце прыклады.
4. Як вызначаюцца вершаваныя памеры? Паспрабуйце гэта зрабіць самі на прыкладах вершаў з вашага дапаможніка.
5. Што называецца рыфмай?
6. Што такое страфа ў вершы? Чым яна нагадвае абзац у празаічным творы?
7. Суаднясіце назвы вершаваных памераў з іх схемамі — харэй, ямб:

— —́

—́ —

МАКСІМ БАГДАНОВІЧ

## Маёвая песня

Музыка перш за ўсё...
*Поль Верлен*[1]

Па-над белым пухам вішняў,
Быццам сіні аганёк,
Б'ецца, ўецца шпаркі, лёгкі
Сінякрылы матылёк.

Навакол усё паветра
Ў струнах сонца залатых,
Ён дрыжачымі крыламі
Звоніць ледзьве чутна ў іх.

І ліецца хваляй песня —
Ціхі, ясны гімн вясне.
Ці не сэрца напявае,
Навявае яго мне?

Ці не вецер гэта звонкі
Ў тонкіх зёлках шапаціць?
Або мо сухі, высокі
Ля ракі чарот шуміць?

Не паняць таго ніколі,
Не разведаць, не спазнаць:
Не даюць мне думаць зыкі,
Што ляцяць, дрыжаць, звіняць.

[1] Поль Верле́н (1844—1896) — выдатны французскі паэт.

Песня рвецца і ліецца
На раздольны, вольны свет.
Але хто яе пачуе?
Можа, толькі сам паэт.



1. Якія пачуцці выклікаў у вас гэты верш? Прачытайце твор яшчэ раз, услухайцеся ў яго гучанне, пастарайцеся ўлавіць яго агульны настрой, заўважыць тыя словы і выразы, што перадаюць гукі прыроды.
2. Знайдзіце ў вершы паэтычныя азначэнні — эпітэты. Растлумачце, якое ўражанне яны ствараюць, якую карціну малююць. Паспрабуйце перадаць гэтае ўражанне сваімі словамі.
3. Адшукайце ў вершы маляўнічыя выразы, пры дапамозе якіх ствараецца вобраз прыроды. Прыслухайцеся да гучання наступных радкоў:

   Ці не вецер гэта звонкі
   Ў тонкіх зёлках шапаціць?
   Або мо сухі, высокі
   Ля ракі чарот шуміць?

   Ці не чуецца ў іх ціхае шапаценне ветру, што перадаецца праз паўтор (гукапіс) зычных гукаў (тут — ***ц, ч, з, с, ш, х***)?
4. Звярніце ўвагу, як мякка, меладычна гучаць радкі:

   Ці не сэрца напявае,
   Навявае яго мне?

   З дапамогай паўтарэння якіх гукаў дасягаецца такая меладычнасць?

5. Якую ролю ў вершы адыгрываюць дзеясловы? У якім часе яны паказваюць дзеянне і як гэта ўплывае на ўспрыманне вобраза прыроды? Чым адрозніваецца мастацкі пейзаж ад апісанняў прыроды ў падручніку па прыродазнаўстве?
6. Праслухайце ў запісе песню кампазітара А. Туранкова на словы гэтага верша і перадайце сваё ўражанне ад музычнага твора.
7. Вызначце, якім памерам напісаны верш.
8. Абгрунтуйце меркаванне, што верш раскрывае яшчэ адну невычэрпную крыніцу паэзіі — зачараванне прыгажосцю прыроды, гармоніяй яе фарбаў і гукаў.

ДАНУТА БІЧЭЛЬ

## Роднае слова

Пад казачным дубам над Нёманам сінім
хлапец прызнаваўся ў каханні дзяўчыне.
І рэхам той шэпт адгукаўся між гаю:
— Кахаю... кахаю... кахаю... кахаю...

Я чула пяшчотнае, шчырасці поўнае,
маё, беларускае, роднае, кроўнае...
такое сваё і такое чароўнае...
такое ласкавае, цёплае, чыстае,
як сонца, агністае, як Нёман, празрыстае,
бы казка, быліна, бы песня, жаданае,
дагэтуль яшчэ у жыцці не спазнанае,
вясновае слова ад шчырага сэрца...
Яно празвінела над хвалямі ў рэчцы.

Вятрыска шаптаў яго з лісцем між гаю —
кахаю, кахаю... кахаю, кахаю...
Шапталі яго сенажаць і дуброва —
пачутае сэрцам, а некаму нова,
адзінае, дзіўнае, светлае слова...
Кахаю... Люблю...
Беларускаму краю
бясконца я слова «люблю» паўтараю.
Калоссем жытнёвым, зялёнай дуброве
кажу гэта слова на матчынай мове.



1. Якім настроем прасякнуты радкі верша?
2. Назавіце паэтычныя азначэнні (эпітэты), праз якія аўтар выяўляе свае адносіны да роднага слова. Зачытайце ўголас гэтыя радкі. Падумайце, якую інтанацыю стварае такое шматлікае ўжыванне розных эпітэтаў і паўтораў у вершы (спакойна-апавядальную, усхваляваную, замілаваную, урачыстую ці якую іншую).
3. Вызначце тэму верша. Звярніце ўвагу на тое, як па-асабліваму, праз адносіны чалавека да роднай мовы, раскрываецца гэта тэма ў вершы.
4. Услухайцеся і скажыце, якія словы рыфмуюцца, як уплывае на гучанне верша такая рыфма.
5. Як уплывае на гучанне верша паўтарэнне галосных гукаў [о], [а] у словах, якія рыфмуюцца?
6. Падрыхтуйце сваім класам мантаж на тэму «Радзіма мая дарагая» з дэкламацыяй вершаў і праслухваннем музычных запісаў песень.

РЫГОР БАРАДУЛІН

## Мы — беларусы

Мы больш сваёй ахвярнасцю вядомы,
Мы, беларусы,
Мы — народ такі.
Ахвотна забываем, што мы,
Хто мы.
Згадаюць
Нашай памяці вякі!

Мы сціпласцю сваёй здаўна вядомы,
Самiх сябе хваліць нам не з рукі.
Хай слабакі
Аж падаюць ад стомы,
На плечы ўзяўшы
Пыхі[1] мех цяжкі.

Мы ўсім сваёй гасціннасцю вядомы,
Надзейныя сябры і дружбакі.
І госць, і падарожны ў нас,
Як дома.
А злым і травы колюцца ў бакі.

Гатовы ўсё аддаць —
І тым багаты,
Мы, беларусы,
Мы — народ такі.
Што з краю небяспекі нашы хаты,
Пра гэта
Не забудуць чужакі!

---

[1] *Пы́ха* — фанабэрыстасць, ганарлівасць.

? 1. Вызначце галоўнае пачуццё, якім прасякнуты верш. Што вас у ім захапляе і натхняе?
2. Якія рысы вылучае аўтар у характары беларусаў?
3. Раскрыйце змест першай і другой строф.
4. Якую інтанацыю (заклапочаную, трывожную, спакойную, упэўненую ці якую іншую) надае твору такі характар размовы, калі спачатку адзначаецца пэўная рыса характару беларусаў, затым яна пацвярджаецца разважаннямі паэта? Паразважайце і вы ўслед за паэтам, прывядзіце прыклады тых якасцей нашага народа, пра якія гаворыць аўтар.

АНАТОЛЬ ВЯРЦІНСКІ

## Рэквіем па кожным чацвёртым

Думаў я, пройдуць зімы і вёсны,
Сціхне ў грудзях маіх боль невыносны...
*З паэмы «Голас сэрца» П. Броўкі*

### Уступ

Вы бачылі лес,
дзе прагал скразны?
Скажыце, вы бачылі бор той,
дзе кожнай другой няма сасны
ці сама меней — чацвёртай?
Тое ж было і з народам маім.
Сякера ваеннай навалы[1]
прайшлася бязлітасна па ім,
і — прагалы, прагалы.

[1] *Нава́ла* — нашэсце ворагаў.

Яны і сёння не зараслі,
свецяцца прасторай мёртвай...
Вы бачылі лес,
дзе прагал скразны?
Скажыце, вы бачылі бор той?

### Частка першая

Зямля мая бой прымала
ад стара і да мала,
ад стогадовага Талаша
да Казея — малыша.
І падаў, распасцёрты,
кожны чацвёрты.

Часта згаралі знічкі[1] тады.
Быў небасхіл чорны.
А на зямлі стылі сляды —
кожны чацвёрты.

Мір асвятліў нас сваім святлом.
Грымелі ўрачыста акорды.
Толькі не быў за святочным сталом
кожны чацвёрты.

Доўга не трацілі ўдовы надзей,
доўга чакалі маці дзяцей.
Не верылі ўсё, што мёртвы
кожны чацвёрты.

Помнім болі і страты свае.
Памяць шуміць, як чароты.
О, як нам вас не стае —
кожны чацвёрты!

---

[1] *Зні́чкі* — зоркі, якія «згараюць», знікаюць у небе. Кажуць, што калі памірае чалавек, у небе знікае яго зорка.

### Частка другая

Кожны чацвёрты быў мёртвы —
мір і спакой ім вечны!
Кожны трэці быў змораны,
скалечаны і знявечаны.

Кожны другі на целе
меў раны, апёкі ці шрамы.
І ўсе мы, усе мы мелі
на душы сваёй раны.

Зеўралі[1] ямы, траншэі,
зеўралі печы ў друзе[2] —
ранай адной страшэннай
на целе маёй Беларусі.

### Частка трэцяя

Лічым: чацвёрты кожны.
А можа, кожны трэці?
Голадам падкошаныя,
паміралі дзеці.

Яшчэ мы не ўлічылі
тых, што лячылі раны,
раны не залячылі,
рана паміралі.

Колькі прапала без вестак,
без пахаванняў, памінак!

---

[1] *Зе́ўралі* — былі бачнымі, адкрытымі. Зе́ўра — адтуліна, яма, прорва.

[2] *Друз* — кучы бітага каменю, цэглы.

А колькі потым дзетак
узарваліся на мінах.

Лічым: кожны чацвёрты.
А той рахунак прыблізны,
а той рахунак няцвёрды,
а ўрон яшчэ больш вялізны.

## Эпілог[1]

## Урок спражэння

Не забываецца той урон,
не зарастаюць прагалы...
«Дзеці, вы вывучылі ўрок?
Дзеці, вы праспрагалі?»
Я іду,
ты ідзеш,
а ён не ідзе —
ён мёртвы.

Я пяю,
ты пяеш,
маўчыць кожны чацвёрты.
Мы ідзём,
ідзеце вы.
Грунт пад нагамі цвёрды.
Яны не ходзяць — не жывы
кожны чацвёрты.

Любім мы,
любіце вы.

---

[1] *Эпiло́г* — заключная частка, у якой паведамляецца пра тое, што адбывалася пасля асноўнага дзеяння.

Колькі травы,
ліствы,
сінявы! —
Хоць сэрца насцеж разгортвай.
А каб яшчэ ды быў жывы
кожны чацвёрты!



1. Якія пачуцці ўзніклі ў вас пры чытанні твора? Чым ён вас уразіў?
2. Як бы вы ахарактарызавалі яго змест і гучанне: сумнае, балючае, журботнае, жаласлівае, пакутлівае, прыгнятаючае, трагічнае, тужлівае, цяжкое, шчымлівае, урачыста-жалобнае ці якое іншае?
3. Знайдзіце паўторы і рытарычныя пытанні *(Вы бачылі лес? Вы бачылі бор?)* і растлумачце іх ролю ў вершы.
4. Адзначце асаблівасці зместу і формы твора, якія характэрны для рэквіема. (Пры неабходнасці звярніцеся да «Слоўніка».)
5. Растлумачце словы паэта: *Зямля мая бой прымала ад стара і да мала, ад стогадовага Талаша да Казея — малыша*. Хто такія Талаш і Казей? Якіх яшчэ герояў вайны з фашызмам вы ведаеце?
6. Якія пачуцці выклікае ў вас заключная частка твора «Эпілог», пададзеная ў форме «ўрока спражэння»? Ці згодны вы з меркаваннем, што ў гэтай частцы нашы балючыя перажыванні набываюць асаблівую вастрыню дзякуючы прыёму кантрасту: *«я іду»*, *«я пяю»*, *«а ён не ідзе — ён мёртвы»*? Абгрунтуйце свой адказ.

7. З якой інтанацыяй трэба чытаць твор, каб перадаць яго змест? Падрыхтуйцеся да выразнага чытання самі або размяркуйце яго па частках: пяць частак — пяць чытальнікаў.
8. Праслухайце ў запісе музычны твор «Рэквіем» Д. Кабалеўскага ў выкананні дзіцячага хору або вакальна-сімфанічную паэму беларускага кампазітара Г. Вагнера «Вечна жывыя». Параўнайце ўражанне ад музычных твораў і твора паэтычнага: які з іх уздзейнічае на вас найбольш моцна?
9. Да чаго заклікаюць гэтыя творы?

НІЛ ГІЛЕВІЧ

## Маці

Я ўзыходжу на двор,
Я кажу ёй: «Са святам!» —
І цалую знаёмыя родныя вусны,
І бяру пад руку,
І іду з ёй у хату,
Дзе ад прыпечка б'е
Дух гарачы капусны.

Я гляджу ў яе вочы,
Што свецяцца шчасцем,
Гладжу рукі сухія,
Прапахлыя зеллем,
І хілюся да сэрца...
А трэба б упасці
Перад ёю — нядужнай, сівой —
На калені...

Вочы маці!
У доўгія зімнія ночы
Вы над намі
Вясёлымі зоркамі ззялі,
Вы ў нясцерпнай дрымоце
Зліпаліся, вочы,
І ўсё ж усміхаліся нам,
Забаўлялі...

Рукі маці!
Вы ў працы не зналі прынукі,
Вы насілі штогод
Мазалі́, як бабіны[1],
Вы аж нылі увечары,
Мілыя рукі,
Спавіваючы нас
Перад сном галубіным.

Сэрца маці!
Наш боль быў тваім,
Не іначай,
Сорам наш
Ты насіла вялізарным горам,
Кропля ж кожная
Радасці светлай дзіцячай
Напаўняла цябе,
Разлівалася морам...

А цяпер ёй —
Адно б на сынка наглядзецца...

---

[1] *Ад расліны боб* — адно вялікае зерне.

Жаль, і горыч, і боль
Мне душу працінае:
Як жа позна,
Як позна — любімыя дзеці —
Мы няўдзячнасць сваю
Разумець пачынаем...



1. Якім пачуццём прасякнуты твор? Чым вас кранае споведзь сына?
2. Назавіце выкарыстаныя аўтарам мастацкія сродкі, якія дапамагаюць перадаць пачуцці да маці?
3. Сфармулюйце тэму верша.
4. Вызначце мастацкую ролю шматкроп'я ў канцы кожнай страфы.
5. Ахарактарызуйце галоўную гераіню твора.
6. Як вы разумееце наступныя радкі:

   Як жа позна,
   Як позна — любімыя дзеці —
   Мы няўдзячнасць сваю
   Разумець пачынаем...

7. Ці часта вы выказваеце свае пачуцці самаму дарагому чалавеку?

ВАСІЛЬ ЗУЁНАК

## Я са шляхоў далёкіх...

Я са шляхоў далёкіх і цяжкіх
Дамоў гасцінцаў прывязу такіх:
З паклонам бацьку —
Мужнасць і адвагу;
Братам — па-брацку:

Да палётаў прагу;
На завушніцы для малой сястрычкі —
Дзве зіхатлівыя
Смяшынкі-знічкі;
Ласкавай жонцы —
Зорак на каралі;
Сынам — сто сонцаў
Неадкрытых
І сто даляў...
І кожны будзе ў захапленні, мусіць...
...Дзень добры, мама,
вось і я,
вярнуўся...

?

**1.** Якія пачуцці хвалююць аўтара верша?
**2.** Якой уяўляе сваю сустрэчу з роднымі людзьмі герой вершаванага твора? Якія падарункі прывязе ён сваім блізкім? Чым абумоўлены такі выбар?
**3.** Як раскрываюцца адносіны героя да сваёй сям'і праз яго жаданне падараваць ім усю прыгажосць свету?
**4.** Які сэнс прыхаваны ў радках:

...Дзень добры, мама,
вось і я,
вярнуўся...

**5.** Выкажыце свае адносіны да слоў Р. Барадуліна: «І калі б была воля мая на тое — пачаў бы я азбуку менавіта з літары М: як і ўсё на зямлі, усё ў нас пачынаецца з маці. Усё ад маці, усё з-пад матчынага сэрца... Маці адна, маці незаменная... Маці адна, як і Радзіма».

## Падтэкст у паэтычным творы

Сакрэты ў паэзіі розныя і часта нечаканыя. Перад вамі два вершы: «Маці» Н. Гілевіча і «Я са шляхоў далёкіх...» В. Зуёнка. Ці ёсць у іх штосьці агульнае ў тэме, у галоўнай думцы?

Некаторыя скажуць, што гэта творы зусім розныя, нават у чымсьці супрацьпастаўляюцца адзін аднаму. І сапраўды... Першы з іх — гэта хвалюючы маналог пра маці як самага дарагога чалавека, пра бязмежную любоў да яе, сыноўнюю ўдзячнасць, хоць і запознена выказаную. А другі — спакойны аповед пра тое, як сын вярнуўся з далёкага падарожжа, як ён шчодра «адорваў» гасцінцамі бацьку, братоў, сястрычку, жонку, сыноў. І толькі пасля ўсяго, так коратка, як бы няўзнак, павітаўся з маці.

Але хто так падумаў — памыліўся. Другі верш таксама пра маці. З такімі ж сардэчнымі, шчырымі і хвалюючымі думкамі і пачуццямі. Толькі гэтыя пачуцці выказаны інакш — у апошнім сказе верша. Дакладней, яны тут не проста выказаны, а як бы стоены паміж словамі, прыхаваны за імі. Мы іх угадваем у інтанацыі, у паўзах паміж словамі, бо падрыхтаваны да гэтага ўсім папярэднім зместам верша.

Верш В. Зуёнка «Я са шляхоў далёкіх...» выразна падзяляецца на дзве часткі. У першай (яна займае амаль увесь тэкст, за выключэннем апошніх трох радкоў) герой гаворыць пра гасцінцы родным і блізкім. Тон размовы тут радасны, але як бы несур’ёзны: кожнаму герой дорыць незвычай-

ныя падарункі. Бацька хацеў, каб сын быў смелы і мужны, — сын прывёз яму «мужнасць і адвагу», братам — «да палётаў прагу», сястрыцы — «смяшынкі znічкі», жонцы — «зорак на каралі», сынам — «сто сонцаў неадкрытых!..».

Але вось заключная частка верша — сустрэча з маці. Герой быццам разгубіўся, да слёз узрушыўся, і ўжо зусім без ранейшай вясёласці, сцішаным, перарывістым голасам кажа:

...Дзень добры, мама,<br>
вось і я,<br>
вярнуўся...

У гэтых некалькіх словах чуецца вельмі многае: і шчымлівая радасць сустрэчы, і невыказная пяшчота да маці, што перапаўняе сэрца сына, і ўсведамленне таго, што найлепшы падарунак маці — гэта ён сам, яе сын, які шчасліва вярнуўся «са шляхоў далёкіх і цяжкіх». Апошні сказ верша невыпадкова дзеліцца на тры радкі (вядома, не толькі ў напісанні, але і ў вымаўленні, пры чытанні) вельмі змястоўнымі паўзамі.

І вось тут раскрываецца яшчэ адзін сакрэт паэзіі — незвычайная сцісласць і разам з тым змястоўнасць яе твораў, шматзначнасць кожнага слова, кожнага гука, нават паўзы ў вершы. Усё тут можа набываць асаблівае значэнне: не толькі думка, што заключана ў словах, але і тое, што «ўтойваецца» за імі, што не выказваецца, а падразумяваецца. Так узнікае падтэкст, і спрактыкаваны чытач паэзіі адразу яго адчувае і ўспрымае.

Творы паэзіі надзвычай багатыя рознымі вобразнымі выразамі — параўнаннямі, метафарамі, паэтычнымі фігурамі. Гэта робіць іх мову вельмі шматзначнай, патрабуе пры аналізе асаблівай увагі да кожнай умоўнасці, падрабязнасці.

І асабліва ўсё гэта важна, калі мы чытаем такі твор уголас, хочам перадаць сваім слухачам усе адценні яго зместу. Не толькі тыя, што вымаўляюцца словамі, але і тыя, што схаваныя за словамі. Яны перадаюцца пры чытанні з дапамогай адпаведнага тону, інтанацыі (вясёлай, сумнай, узбуджанай або сцішанай), выразу вачэй або твару (вясёлага, жартаўлівага або сур'ёзнага, гнеўнага ці абыякавага, раўнадушнага), а гэта значыць і пры дапамозе адпаведнай мімікі, а таксама адпаведных рухаў галавой, рукамі — жэстаў (жэстыкуляцыі). Такім чынам, спосаб паказу жыццёвай з'явы, калі важныя думкі і пачуцці не выказваюцца непасрэдна, адкрыта, а як бы стоены за іншымі словамі, угадваюцца па інтанацыі, намёку, і ёсць ***падтэкст***.



1. Яшчэ раз прачытайце вершы, прысвечаныя маці. Ведаючы «сакрэты» аднаго і другога верша, паразважайце над пытаннем, як па-рознаму можа раскрывацца ў паэзіі адна і тая ж тэма.
2. Прыгадайце творы, у якіх падтэкст выконвае важную мастацкую ролю.
3. Назавіце вершы, прысвечаныя маці, якія вы чыталі і якія вам вельмі спадабаліся.

ЯКУБ КОЛАС

## Дзядзька-кухар

*(Урывак з паэмы «Новая зямля»)*

Наш дзядзька, мілы наш Антоні,
Ў дзіцячым часта быў палоне;
Вось так гуртом яго абсядуць
І час работы яго крадуць;
Насі «катла», кажы ім казкі,
Ідзі на поплаў з імі ў краскі,
Давай адказы на пытанні,
Тлумач ты ім усё дазвання:
Адкуль, з чаго дзе што бярэцца,
Вось гэта, тое як завецца
І чаму так, чаму не гэтак?
Прыхілен дзядзька быў да дзетак.
Ён быў настаўнікам, суддзёю,
Калі, бывала, між сабою
Паспорапь дзеткі ці паб'юцца,
Дык да каго тады звярнуцца,
Як не да дзядзькі, да Антося?
Ох, слаўна з дзядзькам ім жылося!
Яшчэ замецьце, што з малымі
Ён размаўляў, як са старымі,
І з імі радзіўся, спрачаўся —
Як роўны з роўнымі трымаўся!
Калі ж хто часам з ім не зладзіць,
То дзядзька толькі вус пагладзіць,
Але не скажа ён нічога,
Бо ведаў, чым даняць малога, —
Гаворыць з тым, з кім дзядзька ў згодзе.
— Калі такі ён, ну, то годзе! —

І дзядзька змоўкне, пачакае
Кісет дастане і закурыць
І вочы чутачку прыжмурыць,
Як бы і ў памяці не мае
Таго, што з хлопцам пасварыўся.
— А як авёс наш урадзіўся?
Схадзіць бы ў Ліпава пабачыць! —
Ўжо знаюць дзеці, што то значыць
Гаворка дзядзькава такая,
Куды ён вуды закідае:
У Ліпава пайсці з ім! Божа!
І хто ўстаяць прад гэтым зможа?
Ды гэта ж — свята, ягамосці[1]!
Набок тут норавы і злосці!
І мяккім робіцца паганы —
Хоць ты яго кладзі да раны.
Адно вазьмі яго з сабою,
Усюды пойдзе за табою
І ўсё забудзе, ўсё даруе,
На дзядзьку больш не засярдуе.
А чым жа Ліпава так міла?
Чым так дзяцей яно маніла?
І што за Ліпава такое?
А гэта — поле маладое
Сярод лясоў, як скінуць вокам;
На тым абшары на шырокім,
Раскошна нівы красавалі,
А ў іх мільёны красак ззялі,
Як бы на небе тыя зоркі.

---

[1] *Ягамо́сці* — яго, ваша міласць (форма звароту да каго-небудзь).

Лужкі, дарожкі і пагоркі,
І купкі хвоек маладыя,
Дзе матылёчкі залатыя
На сонцы крыльцамі блішчалі,
Жучкі і конікі трашчалі
І ў стройны звон свой зык злівалі.
Былі там пасекі. Штогоду
Тут сотні блізшага народу
Дзялянкі лесу карчавалі
І на трацяк[1] іх засявалі —
Капу[2] да скарбу[3], дзве дадому...
Ну, як тут вытрываць малому,
Таму, хто з дзядзькам пасварыўся?
Як бачыш з дзядзькам ён гадзіўся.
А пойдзеш ў Ліпава лясамі,
Напэўна стрэнешся з ласямі,
І зайца ўгледзіш, і вавёрку,
І норы воўчыя на ўзгорку...
Ну, ўсякіх дзіў там ёсць багата!
А дзядзька ўсё табе пакажа.
Цікавасць ўсю тваю развяжа...
О, дзядзька спосабаў меў многа
Даняць працiўніка малога!
Пайсці ў грыбы ці ў тую ж рыбу,
Або паехаць у сялібу,
Ці ў млын малоць на хлеб збажынку —
Ўсё гэта кваліла хлапчынку,
Цягнула крэпенька, бывала,
І, як рукою, злосць знімала.

---

[1] *Трацяќ* — трэцяя частка чаго-небудзь (ураджаю, сенакосу).

[2] *Капа́* — тут: старая мера лічэння — 60 штук.

[3] *Скарб* — тут: дзяржаўная казна.

І дзядзька майстар быў на штукі[1]
І быў механік на ўсе рукі:
І дудку скруціць вам, і стрэлку
І нарысуе нават елку, —
Такую выштукуе цацку;
А ў Свержань пойдзе — купіць пляцку[2]...
Дык і не дзіва, што любілі,
Што на руках яго насілі.
А жывучы каля зямлянкі,
Паміж лясоў, сярод палянкі,
Яшчэ крапчэй яны здружыліс,
Адзін к другім цясней хіліліс.
— Ану, давай, брат, запрабуем,
Хоць на цікавасць пакаштуем,
Які тут сок на новым месце?
Мо з хлебам можна яго есці?
— А дзядзечка! мой залаценькі!
Пастаў нам соку, дарагенькі!
— Вазьмі, вазьмі мяне з сабою! —
Тут каля дзядзькі чарадою,
Як чэрві, дзеці мітусяцца.
А дзядзька моўчкі стаў збірацца:
Дастаў сякерку і свярдзёлак,
Пад паху сунуў ён аполак
На латакі[3] і на падстаўкі
Ды вынуў два гаршкі з-пад лаўкі.
— Ну, хто са мною йдзе? — пытае.
— Я!

---

[1] *Шту́кі* — тут: жарты, прыдумкі.

[2] *Пля́цка* — пляскатая булачка ў выглядзе аладкі, спечаная з пшанічнай мукі.

[3] *Лата́к* — адкрыты жалабок для сцёкаў.

— Я!
— І я! — крычыць малая
Ў канцы дзяўчынка Міхаліна...
Ідуць у лес, крычаць, гукаюць,
Як вучні, вырваўшыся з школы,
І ўсе давольны і вясёлы —
А дзядзька ўперадзе тралюе
І галаву ўгару ўскідае,
Бярозу добрую шукае,
З салодкім сокам, баравую,
Дзе б бобам кропелькі сачыліс.
Знайшлі бярэзіну, спыніліс.
Залысіў дзядзька дрэва злёгку
(Сякерка востра, кара крохка),
Зрабіў заруб, латак прыправіў,
А пад латак гаршчок паставіў.
І соку кропелькі, як слёзы,
Як град, пасыпаліс з бярозы,
Аж шкода нейк было дзярвякі:
Здаваліс ранай тыя знакі,
Адкуль паліўся сок халодны
І пакідаў свой комель[1] родны.
Я помню дзень той. Вечарэла,
Зайшло ўжо сонейка, цямнела,
Агоньчык дзеці раскладалі,
Паленцы, трэсачкі збіралі,
І дзядзька тут жа, распрануўшыс,
Сядзеў на кукішках, сагнуўшыс.
Прад ім стаяў гаршчок, і міска,
І кошык з бульбай; тут жа блізка

[1] *Ко́мель* (камель) — ніжняя частка дрэва.

Відзён і збан быў паліваны,
Да палавіны ў дол ўкапаны,
Кружочкам шчыльненька накрыты...
— Алеська! скокні, брат, вазьмі ты
У хатцы тарачку на печы!
Ну, варушыся ж ты, старэчы! —
Наўкол пляменнікі сядзелі,
На дзядзьку пільна ўсе глядзелі,
Як ён, рукавы закасаўшы,
Па тарцы шоргаў, шапку зняўшы.
І кожны лёгка б дагадаўся,
Што тут сакрэт якісь хаваўся,
Памеркаваўшы, як цікава
Была для хлопцаў гэта справа
І як іх дзядзька завіхаўся.
А хто б яшчэ мог болей цяміць,
Таму б адразу прыйшло ў памяць,
Што дзядзька бульбу драў на клёцкі,
Каб згатаваць не па-жаноцку.
Бо што жанкі? раз што панята,
Ноль — слова нашага ім брата;
Як іх на розум тут ні ставяць,
Яны ж сваё ўсё права правяць
І робяць так, як і рабілі,
Калі пяшком пад стол хадзілі.
Але вось ён пакажа носа,
Стварэнне вы доўгавалоса,
Калі ён тут пагаспадарыць
І сам ды з сокам клёцкі зварыць!
Вось будзе штука вам, дык штука!
На тое ж спроба і навука.
А сок быў свежы, такі хвацкі,
Такі салодкі, забіяцкі!

Ён быў галоўнаю віною
Таго, што позняю парою
Сядзелі дзеці чарадою,
І з дзядзькі вочак не спушчалі,
І стравы важнае чакалі.
— Эх, — цмокнуў дзядзька, — наямося! —
Зірнулі хлопцы на Антося,
І сліну ўсе яны глынулі,
Паветра носам зацягнулі...
Глядзелі хлопцы, як на дзіва,
Як дзядзька, цеста замяшаўшы,
Качаў галушкі, міску ўзяўшы.
А чыгунок, бы пан пузаты,
Кіпіць, пыхціць, шуміць заўзята,
Бо не з вадою ён, а з сокам.
Ідзе тут справа ненарокам;
Дзяржыся, браце! І чуць толькі
Ўзнялося булбатачак колькі,
Дык дзядзька зараз стаў пакрышку
Ў чыгунчык клёцкі кідаць з лыжкі;
Укіне лыжку, памяшае
Ды зноў другую набірае.
А хлопцы нават паўставалі,
Ў чыгунчык вочы паўстаўлялі,
Глядзяць, не моргнуць яны вокам:
Эх, мусіць, смачны клёцкі з сокам!
— Ну, дзядзька, можа, і гатовы? —
Не сцерпеў Костусь, мовіў слова.
— Які ты, хлопча, нецярпячка,
Няхай цябе затопча качка! —
Гаворыць дзядзька на хлапчынку. —
Няхай паварацца часінку,
Каб сокам добра праняліся,
Тады, брат, — эх! адно дзяржыся! —

І дзядзька цмокнуў выразліва,
І хлопцы зноў ждуць церпяліва,
А дзядзька, стоячы, паволі
Памешваў клёцкі. — Ну, даволі! —
Сказаў Антось, і ўсе ўздыхнулі,
Як бы гару з плячэй сапхнулі,
І бліжай к дзядзьку падступіліс.
— Глядзі, мо ўжо пераварыліс, —
Алесь зазначыў палахліва.
— Ну, — Костусь кажа, — ото дзіва!
Не бойся: дзядзька лепей знае...
І стаў на клёцку дзядзька дзьмухаць:
Пакаштаваць каб было можна,
І ў рот падносіць асцярожна.
Замерлі хлопцы, ані зыку:
Мінута важна і вяліка;
Глядзяць на дзядзьку і чакаюць
І дзядзьку поглядам пытаюць:
«Ну як? ці смачны? ці салодкі?»
У зубы клёцку, бы ў ляшчоткі[1],
Заціснуў дзядзька і губамі
Варушыць борзда, як, часамі,
Трусок ці зайчык над капустай,
Каб лепш дазнацца смаку-густу.
Пацмакаў дзядзька і ўсміхнуўся,
Зірнуў на хлопцаў, адвярнуўся
І тут, нічога не сказаўшы,
Як плюне дзядзька, пажаваўшы!
Трах у чыгунчык ён нагою!

---

[1] *Ляшчо́ткі* — раздвоеная з аднаго канца дошчачка для заціску чаго-небудзь.

І так абцёрся ён рукою,
Што губы й нос чырвоны сталі
І нават вусы затрашчалі.
А хлопцы проста збілісь з тропу
І ў нейкім страсе і ў захопу
На дзядзьку-кухара глядзелі,
Як бы яны аслупянелі.
Быў смешны дзядзька той часінай
З пустою лыжкаю, з тычынай,
Якою трэскі ён варочаў,
А тут Алесь як зарагоча!
За ім адзін, другі паехаў.
Такіх было тут жартаў, смехаў,
Што ўсіх трасло і калаціла
І дзядзьку смехам захваціла.
— Ну, дзядзька, як на смак, прызнайся?
— Паскудства, брат, і не пытайся!



**1.** Што вам спадабалася ў прачытаным урыўку «Дзядзька-кухар» Я. Коласа?
**2.** Якія радкі твора выклікалі ўсмешку?
**3.** Чым вам спадабаўся дзядзька-штукар? Ці часта вы сустракаеце ў жыцці такія адносіны паміж дарослымі і дзецьмі?
**4.** Ад чыйго імя вядзецца ў творы апавяданне: *Я помню дзень той. Вечарэла...* Хто гэты чалавек? Ці не адзін з тых, хто тады быў разам з дзядзькам Антосем, і пасля, праз шмат гадоў, успамінаў мінулае?
**5.** Як характарызуюць дзядзьку Антося або іншых герояў твора «смешныя», гумарыстычныя выказванні або апісанні? Для гэтага прачытайце ў «Слоўніку», што такое іронія і гумар.

**6.** Ці можна сцвярджаць, што аўтар стварае камічнае ў творы пры дапамозе наступных спосабаў і сродкаў: ужывае смешныя выразы, знарочыста няправільнае тлумачэнне нейкіх з'яў, неадпаведныя паводзіны героя, калі герой хоча выглядаць лепш, чым ёсць на самай справе, або знарок робіць наадварот? Прывядзіце прыклады.

**7.** Якімі з пералічаных спосабаў і сродкаў стварэння камічнага ў творы карыстаецца аўтар, калі паказвае дзядзьку Антося ў розныя моманты яго кухарства і, нарэшце, вынік яго старанняў: *Паскудства, брат, і не пытайся!*

**8.** Складзіце план твора. (У якасці загалоўкаў могуць выступаць радкі з тэксту.) Звярніце ўвагу на тое, якімі могуць быць гэтыя загалоўкі, і прапануйце свае. Напрыклад:
- першая, у якой дзядзька Антось характарызуецца як умелы выхавацель і любімец дзяцей: *Ён быў настаўнікам, суддзёю...*;
- другая, дзе паказана, як паводзіць сябе дзядзька Антось з пляменнікамі-неслухамі: *Калі ж хто часам з ім не зладзіць...*;
- трэцяя, дзе апісваецца прырода: *І што за Ліпава такое*?..;
- чацвёртая — пра розныя ўмельствы дзядзькі Антося: *І дзядзька майстар быў на штукі...*;
- пятая — апісанне падрыхтоўкі да гатавання клёцак: *І як іх дзядзька завіхаўся...*;
- шостая — пра чаканне смачнай яды: *Эх, — цмокнуў дзядзька, — наямося!*;
- сёмая — што сталася з клёцкамі: *Паскудства, брат, і не пытайся!*.

Выкарыстайце план твора для пераказу.

## Выразнае чытанне паэтычных твораў

Выразнае чытанне мае важнае значэнне для ўспрымання і разумення мастацкага твора, адчування прыгажосці яго формы, вобразнай мовы. Літаратура вывучаецца ў школе не толькі для таго, каб засвоіць пэўны жыццёвы змест, але і каб навучыцца разумець і ўспрымаць мастацтва слова, дакладна і прыгожа выказваць свае думкі і пачуцці.

Выразнае чытанне важнае для ўспрымання і разумення розных твораў — і празаічных, і паэтычных. Але асабліва — паэтычных, якія па сваіх якасцях (рытмічнасць, насычанасць мовы тропамі, гукавымі паўторамі і г. д.) з даўніх часоў і ствараліся найперш для прамаўлення ўголас, для слухання ў вуснай перадачы. Менавіта пры выразным чытанні паэтычны твор найпаўней выяўляе свае вартасці.

Выразнае чытанне мае асаблівае значэнне і для твораў, у якіх перадаецца размова дзейных асоб, ужываецца дыялог. Выказванні герояў, персанажаў часта маюць скрыты сэнс, пэўную эмацыянальную афарбоўку (задушэўную, урачыстую, журботную, камічную і г. д.), якую трэба перадаць чытачу або слухачу.

Маючы ўсё гэта на ўвазе, трэба запомніць галоўныя патрабаванні, якія неабходна ўлічваць пры падрыхтоўцы да выразнага чытання:

- некалькі разоў прачытаць твор, разабрацца ў тым, што і як пісьменнік хацеў выказаць у ім, як ён характарызуе сваіх герояў, выяўляе адносіны да іх або як выказвае ўласныя адносіны да жыцця, свае думкі і настроі;

• звярнуць асаблівую ўвагу на інтанацыю, тэмп чытання, на тое, дзе трэба расстаўляць лагічныя націскі, дзе захоўваць паўзы (у вершаваных творах не толькі пры знаках прыпынку, але і ў канцы вершаваных радкоў);

• нельга забываць і пра такія прыёмы выразнасці, як міміка, жэсты, пастава, адпаведныя зместу твора, яго настрою, характарыстыцы герояў-персанажаў.



1. Якое значэнне мае выразнае чытанне для разумення і ўспрымання мастацкіх твораў?
2. Якія асаблівасці паэтычных твораў вымагаюць большай увагі пры падрыхтоўцы да выразнага чытання?
3. Назавіце галоўныя патрабаванні, якія неабходна выконваць пры падрыхтоўцы да выразнага чытання твора?
4. Узгадайце дадатковыя прыёмы выразнасці чытання?

## Пытанні да раздзела

1. Вызначце асноўныя тэмы твораў, змешчаных у раздзеле «Загадкавая краіна Паэзія». У чым яны блізкія? Якія перажыванні, думкі, настроі выклікаюць творы гэтага раздзела?

2. Пазнаёмцеся з рэпрадукцыяй карціны М. А. Савіцкага «Партызанская мадонна» (гл. форзац). Што яднае гэты твор жывапісу з паэтычным творам А. Вярцінскага «Рэквіем па кожным чацвёртым»?

**3.** Раскрыйце сэнс верша Л. Галубовіча «Паэзія» па яго частках — строфах.

**4.** Прыгадайце твор В. Шніпа «Паэзія» і паразважайце пра тое, якое значэнне мае паэзія ў нашым жыцці, чым яна так прываблівае, захапляе нас.

**5.** Чым тлумачыцца здольнасць паэтычнага твора ў невялікай форме раскрываць вельмі значны і глыбокі змест?

**6.** Што такое падтэкст у паэтычных творах?

**7.** Якімі сродкамі і спосабамі дасягаецца рытмічнасць верша?

**8.** Што такое вершаваны памер?

**9.** Што такое рыфма, страфа?

**10.** Як звязаны паэтычныя творы з іншымі відамі мастацтва?

Паспрабуйце напісаць верш, напрыклад, на тэму «Зіма» або «Першы снег», ужываючы такія рыфмаваныя словы:

| | |
|---|---|
| ... бег | ... наваколле |
| ... старанна | ... мар |
| ... раны | ... дні |
| ... снег | ... скруха |
| ... абшар | ... вуха |
| ... голле | ... цішыні |

Першы радок можа быць такім: «Зіма скавала рэчак бег...» — або іншым.



# ЦІКАВАЕ І ЗАХАПЛЯЮЧАЕ Ў ЗВЫЧАЙНЫМ, ПАЎСЯДЗЁННЫМ

Літаратура даследуе чалавека,
жыццё, час.
*Іван Мележ*

Вы ўжо ведаеце, што паэтычныя творы адрозніваюцца не толькі сваёй вершаванай формай, але і зместам, чытаюцца, ды і ствараюцца, пад асаблівы настрой, калі чалавекам валодаюць моцныя пачуцці, перажыванні, гэтак жа як пад настрой (не толькі радасны, але і журботны) мы слухаем музыку, песню або спяваем самі.

У празаічных творах трохі інакш. Тут мы сутыкаемся часцей з жыццём паўсядзённым. Героі гэтых твораў занятыя звыклымі справамі, сваімі клопатамі, сустракаюцца, абменьваюцца думкамі, уражаннямі, спрачаюцца. Бывае, вядома, уступаюць і ў вострую барацьбу, здзяйсняюць подзвігі. Але ў цэлым — гэта літаратура, збліжаная са звычайным жыццём і побытам людзей. Яна, здаецца, тым і адрозніваецца ад паэзіі, што паказвае, апісвае жыццё ў яго «натуральным» выглядзе.

Але проза таксама мае свае мастацкія сакрэты. Гэта толькі так здаецца, што ў празаічных творах аўтар, нібы падглядзеўшы, як паводзілі сябе людзі

ў тым ці іншым выпадку, перадаў убачанае сваімі словамі, звычайнай (нерытмічнай) мовай, апісаў нейкі эпізод, як бы «сфатаграфаваў» гэты кавалачак жыцця.

На самай справе ўсё не так проста. Нават у творах, дзе размова ідзе пра людзей, што сапраўды жылі і ўдзельнічалі ў апісаных падзеях. І не толькі таму, што пісьменнік пры гэтым не заўсёды мог прысутнічаць. Нават калі б і прысутнічаў, быў там, то наўрад ці змог ён запомніць кожны рух, кожны жэст героя, ды не аднаго, а многіх, ці мог дакладна ведаць, пра што думаў герой, якія пачуцці перажываў.

Усё гэта можна ўзнавіць толькі пры дапамозе вымыслу, фантазіі.

Але галоўнае нават не ў гэтым. Мастацкі твор не пішацца толькі для таго, каб расказаць займальную гісторыю або паведаміць пра нейкі выпадак з жыцця. За кожным мастацкім сюжэтам ці вобразам крыецца глыбокі роздум пісьменніка аб жыцці, жаданне прапанаваць і чытачу задумацца над нейкімі жыццёвымі пытаннямі: «Вось бачыш, што адбылося ці адбываецца, а чаму так паводзіць сябе чалавек, чаму дапусціў такі ўчынак, чаму сказаў такія словы?»

Аўтарскі вымысел мае важнае значэнне для пазнання і разумення жыцця. Як у народзе кажуць: «Казка хлусіць, а чалавек думаць мусіць». Калі пісьменнік «выдумляе», «фантазіруе», гэта зусім не азначае, што ён гаворыць няпраўду. Не, ён якраз і робіць гэта дзеля таго, каб сказаць самую важную праўду, каб мы задумаліся над тым, што робіцца ў жыцці і чаму так робіцца.

У мастацкім творы ні адно слова, ні адзін сказ або штрых не з'яўляюцца выпадковымі. Яны заўсёды маюць пэўны сэнс. Напрыклад, так пачынаецца апавяданне Я. Коласа «Васіль Чурыла»: «Лес шумеў неяк вельмі нудна». Адзін толькі невялікі сказ, а ён ужо адразу настройвае нас на тое, што размова пойдзе, відаць, пра нешта нядобрае, пра падзеі цяжкія, драматычныя. Так яно і ёсць у апавяданні.

Мастацкая проза — гэта не проста займальнае чытанне. Пісьменнік як бы знарок скіроўвае нашу ўвагу на такія з'явы і факты, аб якіх мы не вельмі задумваліся, каб паказаць, што за імі хаваецца нешта істотнае, важнае для чалавека. У празаічных творах асаблівае значэнне мае пазнанне жыцця.

Для таго яны і пішуцца, каб наша думка засяродзілася на пэўных фактах, падзеях, учынках, размовах, паводзінах людзей, каб разам з пісьменнікам разабрацца ў іх. І не проста адзначыць для сябе, што гэта вось добра, а гэта — кепска, а разважліва ўнікнуць у сэнс таго, што адбываецца ці адбылося, і ўжо на аснове гэтых роздумаў, назіранняў, уражанняў прыйсці да пэўнай высновы. Найлепшыя празаічныя творы — гэта тыя, што выклікаюць у нашай свядомасці глыбокі роздум, прымушаюць хвалявацца за лёс герояў, успрымаць іх учынкі, удачы і няўдачы, як свае.



**1.** У чым адрозненне празаічных твораў ад паэтычных?

**2.** Якое значэнне маюць вымысел, фантазія ў паказе жыцця ў празаічных творах?

**3.** Што дае нам чытанне празаічных твораў у пазнанні жыцця?

ЗМІТРОК БЯДУЛЯ

# На Каляды к сыну

Хмаркі насіліся над лесам.

Розныя па колеры і фасоне, яны часта ахаплялі вялікую частку неба і тварылі багатыя малюнкі к таемным казкам сталетняга лесу.

Удзень былі яны светла-пурпурныя, а ўночы залаціліся месяцам.

Чаго-чаго ў іх не было!

Цэлыя гарады з дзіўнымі замчышчамі, горы, выспы, азёры, агнявыя звяры, працэсіі святых у белых вопратках, незлічоныя легіёны ваякаў на конях...

Унізе лес гаварыў свае адвечныя гутаркі... Часам ён маліўся ціха-ціха, і толькі нейкі гук, нібы вокліч далёкага звона, данасіўся з чорнай глыбіні лясной далі...

Часам бываў ён немы, гэтак мёртва немы і спакойны, як бы прыслухоўваўся да нейкіх таемных надземных спеваў.

На хмаркі і на лес часта любіла пазіраць старая ўдава Тэкля, жонка нябожчыка Цыпрука, палясоўшчыка[1] пана Шчубальскага.

Жыла Тэкля адна ў старой хатцы на пагорку, ля лесу, хадзіла на падзённую, бокам-скокам, туды-сюды, і неяк гадавалася.

Пан не выганяў яе з гэтай разваленай хаты, хаця пасля смерці Цыпрука ён наняў новага палясоўшчыка, але таму пабудаваў і новую хату.

[1] *Палясо́ўшчык* — ляснік.

Тэкля любіла хадзіць па суседзях — вельмі гутарлівая баба была, але і любіла сядзець адна на прызбе[1] і думаць сваю думку.

Яна любіла пазіраць на стары лес і на сівыя хмаркі доўга-доўга, і старыя вочы прыкрываў смутак: успаміны старадаўнія, як цені, лезлі ў яе душу, праляцеўшыя годы маляваліся ёй ясна, жыва, быццам перад вачыма бачыць яна ўсё... Надта шкадаваць пройдзены час няма чаго — помніць яшчэ і цяпер пабоі і лаянкі п'янага Цыпрука свайго.

Затое адну пацеху мае яна, якая гоіць раны, адна надзея — гэта ядыны сын яе, Лаўрук. Во хто сядзіць у яе грудзях, як верабей у цёплым гняздзе.

Любіла яна сядзець на прызбе, пазіраць старымі вачыма на цёмны лес, на адвечныя хмаркі.

Усё жыццё яна была загнана ўсімі, і калі нават і бывалі хвілі радасці, то вочы не пакідалі выразу вечнага смутку.

Думала яна аб сне сваім, які жыве ў вялікім горадзе, думала і цешылася...

Жыве ён сабе там панам, як людзі кажуць...

Лаўручок яе, быўшы яшчэ хлопчыкам гадоў дзесяці, спадабаўся вельмі пану Шчубальскаму за прыгожы від і спрытны розум. Бяздзетны пан забраў яго к сабе, адзяваў па-панску і, падвучыўшы крыху, аддаў пасля ў горад вучыцца.

У лістах да пана часамі ўспамінаў ён сваіх бацькоў. З радасці і ўцехі яны проста не ведалі, што рабіць...

---

[1] *Пры́зба* — невысокі, звычайна земляны насып уздоўж сцяны хаты, зроблены для ўцяплення памяшкання.

Жартачкі, гэткага ўдалага сына маюць! Першы раз, як ён на Каляды прыехаў з горада да пана, дык бацькі яго зараз жа прыляцелі на панскі двор і доўга адстайвалі ў кухні, пакуль сынок з'явіўся к ім. Шчасцю іх канца не было, як угледзелі яго ў чорных суконных вопратках з бліскучымі гузікамі — якраз асэсар[1]! Праўда, калі маці кінулася да яго абымаць і цалаваць, дык ён засаромеўся крыху і адсунуўся ўбок...

— Апанеў! — кажа потым маці. — І далікатным зрабіўся, і гаворыць па-панску!..

— Эт! — казаў бацька. — Думаеш што, ды і ён панам будзе! Глядзі, як ён ужо смяецца з нашай гутаркі ды з нас. Гэта мне не надта падабаецца...

Маці не звяртала ўвагі на гэта. Слепа радавалася, фанабэрылася перад суседзямі. Скора паны зусім выехалі адгэтуль. З таго часу яны ўжо болей не бачылі свайго Лаўручка...

Тым часам Лаўрук вучыўся далей, як скончыў гімназію, пан выправіў яго на адукацыю ва ўніверсітэт.

Бацькам сваім ён ніколі нічога не пісаў, але пан, аддаўшы ў арэнду двор, усё ж такі сам прыязджаў штогод даведацца і расказваў ім, што Лаўрук вучыцца ў адвакаты.

Цешылася маці: «Во будзе падмога на старасць!»

Цыпрук на гэта ёй часта гаварыў:

— Эт, дурная ты авечка. Яго падмогу сарока хвастом замяце. Чакай ад яго пад старасць пацехі, як ад рабой сучкі яек!

---

[1] *Асэ́сар* — судовая службовая асоба, засядацель.

— Замаўчы ўжо! Стары, як малы!

— А ты, брат, баба, зусім дурная авечка! Ці ты не бачыш, што твой Лаўручок зусім чужым зрабіўся для нас з таго часу, як папаў пад панскую апеку. Нешта не цешыць ён мяне!..

Цыпрук памёр.

Старая Тэкля асталася адна, і тады яшчэ болей запанавала ў душы яе цяга да сына. Гэта быў увесь яе скарб. Матчына сэрца адкрыла ўсе таемнікі свайго кахання.

Заўсёды, калі была яна адна, думала аб сыне. Суседкам гаварыла, што сынок такі і гэтакі, хваліла яго.

Смачна ёй была сухая скарынка хлеба, а без хлеба таксама было добра...

«Эт, — думала яна, — дык што ж там... абы толькі хацела, дык у Лаўручка свайго вунь як зажыла!.. Абы толькі захацела!..»

— Эх, Тэкля, Тэкля, — гаварылі ёй часта суседкі, — паехала б да сына ў горад! Ці табе гэтак і век свой дажываць! Ты ж адна, як корч той на пасецы!..

— Не бяда! — адказвала яна. — Абы толькі захацела! Мой Лаўручок гэткі багаты, як людзі кажуць, што, бадай, багацей за самога пана Шчубальскага! Абы толькі захацела!

Прайшло яшчэ пара гадоў. Зрабілася Тэкля сухой, нізенькай, згорбленай бабулькай, зморшчанай, як той грыб.

— Вось дурная! — казалі людзі. — Мае гэткага багатага сына, а сама бадзяецца невядома як і дзе!

Падышлі Каляды. Увесь абшар быў пакрыты снегам... Вёскі занесены гурбамі, быццам казачныя замчышчы... А лес зрабіўся сівым і паважным.

— Апошнія Каляды: зусім ужо я слабенькая... Не хацелася ёй адной астацца ў пустцы каля лесу і пад выццём ваўкоў куццю[1] ладзіць.

І давай, быццам гарачыя вуголлі, закрытыя попелам, выгортаць з сэрца наверх свае захаваныя жаданні, сваю глыбокую веру ў даражэнькага сына.

«Давай, — думае, — дабяруся ўжо да яго... бадай, ці дацягну да вясны... Шмат дакучаць я яму не буду, бо дзе яму там клапаціцца аба мне і шкада ж яго...»

— Пайду да сына! — разнесла яна назаўтра па ўсёй ваколіцы і гэтак намалола ім рознай гутаркі, што проста ўсіх суседзяў зайздрасць прабрала: жартачкі, гэткага сына мае! Ён там у судах цэлы асэсар, паперы піша і ўвесь свет проста дагары нагамі круціць.

Ускінула Тэкля хатулачку[2] на плечы, пару лапцей на запас узяла, развіталася з бабамі і пусцілася ў дарогу. Да горада было міль шэсць.

Выбралася раніцай на снежнае поле.

— Кажуць, ён там ажаніўся з багатай паненкай. Напэўна, унукі-жэўжыкі ёсць. — На зморшчаным твары ззяла шчаслівая ўсмешка.

Яна адвярнула таўстую хустку ад вачэй, каб разглядзець, ці шмат ужо дарогі прайшла.

— Уга! — і не думала. Ногі самі нясуць мяне, як бы трыццаць гадоў таму назад, і марозу не баюся!..

---

[1] *Куцця́* — урачыстая вячэра напярэдадні Каляд.

[2] *Хату́лачка* — невялікі клунак рэчаў, звязаных у хустку, якія звычайна носяць за спінай.

І яшчэ з большым імпэтам няслі яе старыя ногі да роднага сына на Каляды...

І шчасце яе расло... Вось дзе жаданне сэрца яе споўніцца!.. вось калі зажывець яна, як сыр у смятане!

— Глупства, што часамі нябожчык Цыпрук гаварыў... Як гэта ён мяне не прыме? Я ж яго матка!.. Я ж яго гадавала і карміла... Ён жа — уся пацеха мая.

Кончыўся дзень. Тэкля начавала ў незнаёмай вёсцы. Добрыя людзі накармілі яе і абагрэлі. Яна ўсім расказвала, што ідзе на Каляды да сына, — і гэткім тонам, гэткай шчаслівай гутаркай, ажно сяляне з нейкай асобай павагай пазіралі на яе ды пачалі прасіць, каб яна там у сына за іх заступы прасіла ў судах...

Ранюсенька яна зноў кранулася ў дарогу. Скрыпеў снег пад нагамі. Белыя абшары палёў драмалі пад супакоем нямой цішы...

Рэдка-рэдка калі дзе на хвоі закаркае варона ды, падымаючыся ўверх, страсяне з галін вялікія камы снегу...

Рэдка-рэдка калі фурманка пакажацца з лесу. Сярмяжнік занукае на кабылку сваю на розныя лады, упрэцца ў аглоблю, натужыцца і — ні з месца. Воз з бярвеннем цяжкі.

Рэдка-рэдка калі званочак зазвоніць, і панскія санкі віхрам пранясуцца па нямым белым гасцінцы...

Тэкля ідзе ды ідзе...

Млеюць старыя ногі... Атопкі[1] як калоды зрабіліся, цяжкія і цвёрдыя. Нічога — горад блізка.

---

[1] *Ато́пкі* — старыя зношаныя чаравікі, боты.

Ужо здалёку відаць вежы цэркваў і касцёлаў, якія золатам у небе адліваюцца... Вось і муры featureнафасонныя... Вось і гоман горада даходзіць да яе вушэй... Скора ўжо спраўдзіцца яе апошняе жаданне... У старых вачах бліснуў радасны аганёк...

— Нічога, у сына адпачну. Старыя косці выпрастаю!..

Вось пачаліся цёмныя вуліцы шумнага, як бы ашалелага горада... Тут ужо Тэкля збілася з толку. Не ведала, куды павярнуцца, у каго дапытвацца. Людзі спяшаюць, пірґаюць. Рамізнік[1] чуць не пераехаў яе. Страшна...

Адважылася яна папытацца аднаго, другога, дзе тут яе сын жыве? Ён тут «аблакатам»... Лаўруком завецца.

Хто пажартаваў ды паглядзеў на яе, як на дурную... Хто адвярнуўся ды пайшоў сваёй дарогай, а хто з жалю торкаў ёй у руку капеечку... Гэткім чынам нехта давёў яе да гарадавога[2].

Той пачаў распытвацца і, ніякага толку не дабіўшыся, павёў яе ў вучастак. Там яна пераначавала, галодная і змёрзлая. Назаўтра, даведаўшыся, хто гэта яе сын, адвялі да яго.

Стукалася, стукалася яна ў дзверы, пакуль нехта адчыніў, высунуўся напалову. Паглядзеў на яе і крыкнуў:

— Ідзі, ідзі! Канца няма жабракам гэтым!

[1] *Рамі́знік* — фурман нанятага экіпажа-карэты ці вазка.

[2] *Гарадавы́* — ніжні чын гарадской паліцыі ў царскай Расіі.

— Пусцеце... я да сына свайго іду, да Лаўрука!

— Да Лаўрука! да сына?! да Лаўрэнція Кіпрыянавіча?!

— Ага! ага! Я маці яго.

Той змерыў яе з ног да галавы, пакуль яна расказвала, што яна з вёскі да Лаўрука на Каляды прыйшла, і з усмешкай пусціў у кухню.

Тут сабраліся слугі і давай шушукацца і распытвацца.

Тым часам адчыніліся дзверы з другой стараны ды ўвайшоў малады пан у чорным сурдуце[1]...

— Лаўручок мой! Сынок! — Як непрытомная кінулася да яго Тэкля. — Роднен...

Ён раптам пачырванеў, паглядзеў на слуг ды хрыпла крыкнуў:

— Чаму вы пускаеце ў пакой розных жабрачак шалёных?! Ідзі! Ідзі! — звярнуўся ён да яе глуха, адрывіста. — Ідзі, старушка! Я цябе... не знаю...

— А сынок мой, а Лаўручок ты мой! Маткі сваёй не пазнаеш?! Гэта ж...

Ён бразнуў дзвярамі і пайшоў у пакоі... Той самы лёкай выправадзіў яе за дзверы...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Як зышла з маляваных сходаў, як апынулася на шумным тратуары каля варот, яна сама не памятала. Ачухалася толькі тады, калі той самы лёкай яшчэ раз выйшаў да яе і торкнуў ёй у скручаныя ад холаду пальцы нейкія паперкі...

---

[1] *Сурду́т* — мужчынская двухбортная вопратка з доўгімі поламі, якая цесна аблягае цела.

— Ад пана!..

Яна нават не чула, як з акалелых пальцаў выпаў гасцінец роднага, доўгажаданага сына. Некалькі трохрублёвых паперак прыліплі да макраватага тратуара.



1. Якія пачуцці абудзіла ў вашай душы апавяданне З. Бядулі? Як пісьменнік сам ставіцца да падзеі, пра якую расказвае?
2. Як паказана жыццё старой Тэклі ў апавяданні? Якой надзеяй жыла і цешыла сябе жанчына-маці?
3. Чаму з асуджэннем успрымаў бацька тое, што сын *смяецца з нашай гутаркі*?
4. Чаму Тэкля так не хацела верыць перасцярогам Цыпрука і суседзяў? На што яна спадзявалася?
5. Знайдзіце ў апавяданні апісанне таго, як паводзіў сябе Лаўрук пры першай сустрэчы з бацькамі. Параўнайце з заключным эпізодам твора. Ці была нечаканай такая развязка апавядання?
6. Як вы думаеце, ці мог быць Лаўрук абаронцам простых людзей у судзе? Абгрунтуйце свой адказ.
7. Як сустрэў горад Тэклю? Ці ёсць у апісанні горада прадчуванні таго, што сустрэча з сынам будзе такой горкай? Прывядзіце ўрыўкі з тэксту для пацвярджэння сваіх думак.
8. Як раскрываюцца настроі і перажыванні Тэклі праз пейзаж, малюнкі прыроды? Знайдзіце адпаведныя цытаты.
9. Назавіце самы драматычны момант твора — яго кульмінацыю.

**10.** Зрабіце інсцэніроўку па змесце апавядання «На Каляды к сыну». (Драматычных сцэнак можа быць дзве. Адна — у вёсцы, на прызбе каля Цыпруковай хаты, яна перадае размову Тэклі з суседкамі пра сына. Другая — у горадзе, у доме сына — цяпер ужо адваката Лаўрэнція Кіпрыянавіча. Вызначце дзейных асоб гэтых сцэнак, іх выгляд, адзенне, выказванні (рэплікі), паводзіны.)

## Мастацкая дэталь

У апавядальных, празаічных творах важнае значэнне маюць не толькі шырокія апісанні падзей, паводзін, учынкаў герояў, але і шматлікія «падрабязнасці», асобныя, на першы погляд дробныя, штрыхі ў характарыстыцы герояў, заўвагі, жэсты, словы, рэплікі.

Напрыклад, у апавяданні З. Бядулі «На Каляды к сыну» праз такія асобныя заўвагі, штрыхі вельмі выразна паказваецца, як мяняюцца адносіны да сваіх бацькоў сялянскага сына Лаўручка, якога абласкаў і прытуліў да сябе пан Шчубальскі і які, нарэшце, зусім адцураўся бацькоў.

У першым выпадку, калі маці пры сустрэчы з Лаўручком у доме Шчубальскага кінулася яго абдымаць, ён «засаромеўся... і адсунуўся ўбок».

У другі раз, калі зусім старая, ледзь жывая Тэкля прыйшла (таксама на Каляды) у госці да сына, які стаў ужо адвакатам Лаўрэнціем Кіпрыянавічам, ён, убачыўшы маці, «раптам пачырванеў, паглядзеў на слуг ды хрыпла крыкнуў:

— Чаму вы пускаеце ў пакой розных жабрачак шалёных?!»

Апавяданне заканчваецца таксама вельмі характэрнымі заўвагамі пра тое, як Тэклю выправадзілі з дому сына, як ад яго імя лёкай «торкнуў ёй у скручаныя ад холаду пальцы нейкія паперкі».

«Яна нават не чула, як з акалелых пальцаў выпаў гасцінец роднага, доўгажаданага сына. Некалькі трохрублёвых паперак прыліплі да макраватага тратуара». Гэтыя кароценькія заўвагі маюць глыбокі сэнс. З аднаго боку, яны да канца раскрываюць крывадушнасць сына, у якога на нейкі момант як бы «загаварыла сумленне», і ён зрабіў намаганне згладзіць сваю віну, адкупіцца за здрадніцтва. А з другога — праз заўвагу пісьменнік паказвае, як была ашаломлена маці паводзінамі сына, што не звярнула нават увагі на тыя «паперкі».

Такія канкрэтныя і разам з тым вельмі змястоўныя заўвагі, штрыхі называюць ***мастацкімі дэталямі***.

Як у паэзіі яркія моўныя вобразы (метафары, адухаўленні, эпітэты, розныя эмацыянальныя звароты, паўторы), так у прозе дакладныя, трапныя заўвагі — мастацкія дэталі — адыгрываюць надзвычай важную ролю ў раскрыцці зместу, характарыстыцы персанажаў. Па адной такой дэталі можна меркаваць аб характары героя, яго схільнасцях, псіхалогіі, маральных якасцях.

Вядома, не кожная падрабязнасць зместу мастацкага твора мае такі важны, глыбокі сэнс, аднак, чытаючы празаічны твор, патрэбна быць вельмі ўважлівым не толькі да развіцця галоўных падзей, але і да «прыватнасцей». Яны могуць паведаміць

нам вельмі многа, сур'ёзна дапамагчы ў разуменні таго, што хацеў сказаць пісьменнік, у правільнай ацэнцы характараў.

Такіх змястоўных падрабязнасцей, характэрных штрыхоў шмат у творы «Сірочы хлеб» Я. Брыля. Звярніце на гэта ўвагу пры чытанні.



1. Што такое мастацкая дэталь? Якую ролю яна выконвае ў празаічных творах?
2. Прывядзіце прыклады мастацкіх дэталей у творах, з якімі вы пазнаёміліся на ўроках або самастойна.

ЯНКА БРЫЛЬ

## Сірочы хлеб

*(Скарочана)*

...Данік, як і кожны з малых, меў не адну, а некалькі мянушак — то Сівы, то Гусак, то Манька... Сівым яго прazвалі за валасы, асабліва светлыя ўлетку, калі яны выгаралі на сонцы. Гусаком — таму, што калісьці, яшчэ пазалетась увосень, хлопцу нагнаў страху стары Міронаў гусак. «Манькай» у іхняй вёсцы называюць левую руку, а Данік хацеў чамусьці быць ляўшою і ўсё страшыў, крычаў: «Вось як дам табе з манькі!..» На кожную з гэтых мянушак можна было адказаць любому з сяброў таксама мянушкай, а то і пабіцца. Зрэшты, не ўсе мянушкі аднолькава прыжываюцца. З трох першых мянушак, з якімі Данік уступаў у жыццё, да хлопца прыліпла толькі адна — Сівы, і за яе Данік амаль не злаваўся.

Была, аднак, яшчэ і чацвёртая мянушка... Жабраком называлі яго толькі Палуянавы хлопцы, Шурка і Павел. І сам стары Палуян не раз крычаў цераз плот на Данікаву маці: «Жабрачка ты! Я цябе з адной кішэні магу купіць з усёй тваёй паршывай гаспадаркай!..»

У Палуяна — многа поля і кожны год служыць парабак, а ў Зосі, Данікавай мамы, нават каня свайго няма. Да таго ж яшчэ Зося — удава, а Марка Палуян — начальнік на ўсю Галынку — солтыс[1].

— Не чапайся ты з імі, няхай іх, — вучыла Зося свайго хлопца. — Не чапай, у іх бацька.

Данік быў сірата. Бацьку яго забілі на вайне з польскімі панамі, у дваццатым годзе. Хлопчык яшчэ зусім няшмат разумеў у тым, хто такія паны і чаму яго тата не хацеў іх пусціць сюды, у Заходнюю Беларусь. Данік ведаў адно — тата быў вельмі вясёлы і добры. Нібы праз сон, успамінаецца: у шэрым шынялі, з чырвонай зоркай на шапцы, тата казытаўся вусамі і рагатаў, падкідаючы Даніка на руках... Мама кажа, што бацька, калі наша армія гнала паноў на захад, толькі «вады напіцца» забег. Пайшоў, а назад не вярнуўся... Не вярнуўся дадому і татаў брат, дзядзька Пятрусь. Ды ён жывы — недзе за граніцай, у Савецкім Саюзе.

---

[1] *Со́лтыс* — стараста. Дзеянне твора адбываецца ў былой Заходняй Беларусі, частцы нашай Радзімы, якая ў 1921 годзе паводле Рыжскага дагавора паміж Савецкай Расіяй і Польшчай была аддадзена пад уладу Польшчы. Заходняя Беларусь праіснавала ў такім становішчы да верасня 1939 года, калі яна была далучана да Савецкай Беларусі.

Ёсць у Даніка і другі дзядзька, мамін старэйшы брат, але ён — у суседняй вёсцы, Мікулічах, і яму не заўсёды паскардзішся — трэба абараняцца самому.

Неяк на пашы солтысаў Шурка першы палез да Сівага — перабраў усе яго мянушкі, а ўжо калі дайшоў да апошняй, Данік не вытрымаў і сцебануў салтысёнка пугай. Шурка разроўся і пабег ад свіней да чарады кароў, дзе быў іх Павел. Той, ужо здаровы бэйбус, заўсёды біўся кіем па галаве. Убачыўшы, што ад кароў бягуць абодва Палуянчыкі, Данік пабег у вёску. Яны яго, можа, і не дагналі б, але Павел папаў яму сухой грудкай у патыліцу, і Данік заплакаў.

Быццам адразу зразумеў, што ворагі — восьвось, мама яшчэ не чуе яго, а самому ўжо забівае дух...

Каля Мікітавых гулялі, бо гэта было ў нядзелю.

— Ага яго! — крыкнуў на Даніка здаравенны Сымонішын Васіль і затупаў «на страх» вялізнымі ботамі.

Рагочучы, ён злавіў хлопчыка, і пакуль малы вырываўся, старэйшы салтысёнак, Павел, падбег і трэснуў яму кіем па галаве.

— Прыдурак ты! — загрымеў на Васіля другі дзяцюк, Мікола Кужалевіч. Меншы і маладзейшы за Васіля, Мікола штурхануў гэтага здаравілу ў грудзі і замахнуўся: — Табе б вось самому па сківіцах! Каму ты памагаеш, асталоп?! А ты, кулацкая гніда! Вось я табе!..

Павел і так ужо адышоўся, а цяпер — пабег, агрызаючыся, дахаты.

Мікола адвёў Даніка пад плот і пасадзіў на траве.

— Нічога. Ты, брат, не плач, — гаварыў ён, прыгнуўшыся. — Вырасцеш — мы ім пакажам. Твой бацька быў герой, і ты не плач.

Дужай мужчынскай рукою, якой так даўно не было на светлай галаве Даніка, Мікола правёў па «сівых» валасах малога, намацаў гуз ад кія і, заплюшчыўшы вочы, праз зубы ціха вылаяўся.

— Пайдзі да студні... — пачаў ён і нечакана змоўк.

Сівы глядзеў яму ў вочы вялікімі, поўнымі слёз вачыма.

— Пайдзі да студні, выцягні вады і прымачы...

— Грай польку! — пачулася за спіной у Міколы. Гэта быў голас таго ж Васіля.

Мікола пакінуў хлопца каля плота і вярнуўся ў круг.

— Грай, Сцяпан, — сказаў ён гарманісту, — ды толькі не для яго. Дурня трэба, хлопцы, правучыць.

— Правільна, Мікола! Байкот яму сёння! — пачуліся галасы. — Не ідзіце з ім гуляць, дзяўчаты! Не бойцеся, не зачэпіць!

— Ды што вы, хлопцы! — апраўдваўся Васіль.

— Няўжо вы думаеце, што я хацеў, каб ён яго ўдарыў? І не думаў, каб мне вось з гэтага месца не сысці!

— І не сыходзь, — сказаў Мікола, — пастой ды падумай, чаго табе і трэба хацець, чаго — не.

Данік не пайшоў да студні. Ён толькі стаў каля плота і пазіраў на Міколу — ужо з захапленнем у заплаканых вачах.

Маме нехта наказаў, і вось яна прыбегла. Ужо іграў гармонік і моладзь гуляла польку, з тупатам

уздымаючы пыл. Данік ужо не плакаў, а яна ўзяла яго, як малога, на рукі і, хоць ніхто не чуў яе, спачатку люта кляла Палуянчыкаў, а потым да хлопца:

— Ціха ты, ціха, сынок. Не чапай ты іх, я ж гаварыла, няхай іх свая кашуля не чапае. Ціха...

І ён заплакаў зноў — усё ж такі дзіця.

Назаўтра ўранні, яшчэ раса пяклася холадам, Сівы ўжо ехаў верхам на парсюку — зноў на балота. Падганяў Белага парэпанымі[1] пяткамі пад бакі і зноў смяяўся.

## II

Свайго поля было ў іх няшмат: для такой жняі, як Данікава мама, няма дзе і разгарнуцца. Зося хадзіла ў зажон[2]. Жала чужое, думала пра сваё... А пад восень зрабіла тое, пра што думала, — купіла свайму хлопцу боцікі. Першыя ад роду.

Прынесла іх увечары з мястэчка — чорненькія, бліскучыя, з чырвонымі падэшвамі... І абцасы, і ранты[3] блішчаць, бы насмолены!.. Выйшла, праўда, няладна: бот да бота былі прычэплены дратвай, і са спеху Данік не дратву парваў, а прарваў у адной халяве дзірачку. Мамінага «чымборыка» на гэты раз Сівы нават і не пачуў.

Усю ноч не далі яму заснуць гэтыя новыя боты. Яны віселі, як спакуса, на жэрдцы над палком,

---

[1] *Парэ́паныя* — агрубелыя і патрэсканыя.

[2] *Хадзі́ла ў зажо́н* — тут: наймалася да чужых людзей жаць жыта за невялікую плату.

[3] *Ра́нты* — вузкія палоскі скуры па краях абутку, да якіх прышываюцца адначасова падэшва і верх абутку.

на якім хлопец спаў, і, каб не дзірачка ў халяве, гэтак добра было б думаць, што ён ужо вырас вялікі, што ўжо вельмі хутка, праз тры толькі дні, ён пойдзе ў першы клас!..

Школа стаяла наводшыбе ад вёскі, на ўзгорку. Сама старая і ў акружэнні старых бяроз, што засланялі яе ад зімовых вятроў. Заманілі Даніка і гэтыя высокія бярозы, і прыгожыя дарожкі вакол школы. Не раз вясною ён глядзеў, як дзеці, што ўжо вучыліся, праскрабалі гэтыя дарожкі ў мураве, пасыпалі іх жвірам і абсаджвалі касачамі. А ў сярэдзіну школы, дзе вучацца, так дагэтуль яму і не ўдалося прабрацца.

Настаўнік, якога ў вёсцы называлі пан Цаба, Даніку не вельмі падабаўся.

Неяк улетку яны, пастушкі, спаткалі яго на пашы. Ішоў ён з-пад рэчкі з трыма вудамі, са збанком і з нейкай торбай за плячыма. Школьнікі, а з імі меншыя хлопцы, паскідалі шапкі, і адзін перад адным, як гусі, загаманілі: «Дзень добры! Дзень добры!..» Спыталіся нават, ці хутка ўжо ў школу.

— Яшчэ будзе тры нядзелькі, ды тады ў чвартэк[1], — сказаў настаўнік.

Потым пан Цаба паглядзеў на Даніка і спытаўся па-беларуску:

— А чый гэта такі Іванка, га?

— Ён не Іванка, ён Данік, — адказалі старэйшыя хлопцы. — Ён Зосін, а прозвішча іхняе Малец. У яго толькі маці, ён сірата.

---

[1] *Чва́ртэк* — чацвер.

— Дык, значыцца, ты — пан Даніла Малец, — засмяяўся настаўнік. — Ты таксама прыйдзеш вучыцца? Ходзь ту, не буй сен[1]. — Ён узяў хлопца за плячук і падцягнуў бліжэй да сябе. — А які ж ты, пане Малец, сівы, мурзаты, нястрыжаны!..

Пастушкі засмяяліся. Тады і з'явілася яшчэ адна мянушка: «Пан Даніла Малец адмарозіў палец». А Даніку было зусім не смешна.

— Ну, дык хочаш вучыцца?

Адказаць настаўніку трэба, ды і ў школу хочацца, і хлопец цераз сілу выціснуў:

— Ыгы.

— Не ыгы, а хачу. А рыбу вудзіш?

— Хачу.

Дзеці зноў засмяяліся. А чаго? І пэўна ж, хочацца з вудай на рэчку, але рэчка далёка за пашай, на лузе, і не заўсёды можна туды пайсці.

У руцэ пана Цабы пагойдваўся жоўты збанок, падвязаны за шыйку вяровачкай. Сівы цікнуў у яго раз, другі раз і, нічога не ўбачыўшы, спытаўся:

— Што там?

— Рыба, — адказаў настаўнік. — Не пашанцавала мне сёння, пане Даніла Малец, аднаго толькі акунька адшукаў.

— А чаму ж у торбе поўна?

— У торбе? Там сон руўнеж рыбы[2].

— А вы ж кажаце — толькі адну злавілі.

— Ну адну. А гэтыя купіў.

— Дзе купілі?

---

[1] Ідзі сюды, не бойся.

[2] Там ёсць таксама рыбы.

— Дзе? У склепе, ктуры называ сен Немэн[1]. Ха, ха, ха!.. Не, злавіў усе, пане Малец, толькі адну нясу жывую.

— А чаму вы лжаце?

— А што, ты ніколі не лжэш?

— Ыгы.

— Бачыў ты яго — ыгы. Ну што ж, пане Малец, я табе за гэта ксёнжку дам, калі прыйдзеш у школу. З цацкамі.

На развітанне хлопцы зноў паздымалі шапкі і, адзін перад адным, загаманілі: «До відзэня! До відзэня!..» А Данік стаяў разгублены, не ведаючы — верыць ці не верыць?.. І неяк прыкра было, невядома чаму...

Цяпер ён успамінае пра гэта, і зноў вяртаецца думка: верыць пану ці не?.. А боты — чорныя, бліскучыя боцікі — вісяць на жэрдцы, над самай галавой, і, гледзячы на іх, ніяк не заснеш... Праз тры дні ў школу!.. Пасля пачнуцца халады і можна будзе абуцца!.. А можа, мама дазволіць і ў першы дзень?..

## III

Пан Цаба не ашукаў — як толькі Данік прыйшоў у школу, ён даў і яму кніжку з цацкамі і неяк смешна назваў яе — «элемэнтаж»[2].

Літары даліся хлопцу няцяжка. Толькі з дзвюма з іх Данік, як і ўсе іншыя навічкі, меў многа клопату. Нейкае «*а* з хвосцікам» і «*э* з хвосцікам»;

---

[1] У краме, якая называецца Нёман.

[2] Буквар.

першае трэба вымаўляць, як «не то *а*, не то *он*», а другое — «не то *э*, не то *эн*»... Так муштраваў іх настаўнік. І вымаўляць удавалася толькі яму. Малыя неўзабаве выршылі, што тут уся справа ў носе — які ў каго нос. У пана Цабы нос быў доўгі, чырвоны, і настаўнік гугніў у яго неяк вельмі ж адмыслова. А ў іх яно так не выходзіла гладка — ні «он», ні «эн»...

Пасля пачалі складаць з літар словы: «ма-ма», «та-та», «А-нэ-ля»... Мама і тата — таксама як і ў нас. Анэля — гэта імя дзяўчынкі. Такой дзяўчынкі ва ўсёй Галынцы не было, і таму Данік назваў Анэляй іхнюю пярэстую, вельмі ж пацешную цялушку.

Неяк зімою, прыйшоўшы са школы, Данік адразу ўзяўся за ўрокі, як ён рабіў цяпер, ужо не пасучы, заўсёды. Мамы не было дома. Ён сам дастаў з печы капусту, з паліцы — хлеб, пад'еў, прыбраў са стала і разгарнуў «элемэнтаж».

Пачаў чытаць вершык, які трэба было вывучыць на памяць. У вершыку польскі хлопец Янэк хваліўся сваёй маме, што ён наловіць многа рыбы. А потым:

Ловіл Янэк до полудня,
Маёнц пружнон храпкэн...[1]

На гэтай «храпкэн» Сівы і засеў. Што гэта за «храпка»? Думаў, думаў — дарэмна. Успамінаў, успамінаў... Не, настаўнік не гаварыў ім нічога пра гэтае слова. У мамы не спытаешся: яна пай-

[1] Вудзіў Янэк да паўдня, маючы дарэмную ахвоту.

шла з кудзеляй. Ды, зрэшты, колькі ў яе ні пытайся, толькі і будзе адказу: «А багі яго ведаюць! Адчапіся. Што я табе — пані ці настаўніца? Бабуля твая, нябожчыца, пакаёўкай у пана была: тая табе адказала б!..»

Раптам Данік успомніў, у каго сёння маці з кудзеляй, і ўсё яму стала ясна. Ну, калі не адразу цяпер, дык хутка будзе ясна, — вось толькі ён пойдзе туды, да Кужалевічаў, ды пакажа гэтую «храпкэн» сябру свайму — Міколу...

Данік хуценька апрануўся і пабег да Кужалевічаў.

Аднак і Мікола не змог яму нічога адказаць. Паклаўшы на лаву свой малаток і бот (Мікола яшчэ і шавец!), ён узяў Данікаў «элемэнтаж» і пачаў думаць уголас:

— Конская мыза — храпа. Калі гразь замерзне нагалік, без снегу, — таксама гаворым храпа... Але гэтая «храпка» тут, брат, не падыходзіць... А ў што ты, калі рыбу вудзіш, угортваеш сваіх печкуроў? У анучку. Можа, яна і па-польску трапка, га?

Сівы шмаргануў носам і на момант задумаўся. У іх толькі Іван Цярэшкавых рыбу ў анучку ўгортвае. Але ў яго і плоткі бываюць, акуні.

Данік рабіў інакш. Ён выпіваў з бутэлькі малако, а тады, як толькі зловіць рыбку, — туды яе, у бутэльку. Аднаго за адным упіхаў цераз рыльца слізкіх, халаднаватых печкуроў, часта мяняў ім ваду, а яны ўсё чамусьці пазяхалі. Сыпаў ім крошкі хлеба, і здавалася, рыбкі ядуць... Жуюць, жуюць, пакуль, нарэшце, не падохнуць...

— Ды не, дзядзька Мікола, — сказаў ён, — храпка — гэта не ануча. Анучка па-панску — шматка. Мы ёю ў школе дошку выціраем.

— Ну, дык я, брат, не ведаю. Я, брат, у іхнюю школу і дня нават не хадзіў.

— А што ж настаўнік? — азвалася з-за прасніцы Данікава мама. — Што ж яму — толькі грошыкі аграбаць?

Стары Кужалевіч, дзядзька Рыгор, ляжаў на печы, лапцямі на хату. Здавалася — спіць, адно ж паварушыўся і кажа:

— А пакіньце вы з гэтым настаўнікам! Які ён паляк! Ён жа з Бярозаўкі. Ведаю я і бацьку яго, і самога. З багатай хаты, нічога не скажаш. У Нясвіжы вучыўся, па-руску. А цяпер вось у панскую скуру палез. Ужо, бачыш, і паню сабе падхапіў, ажаніўся. Сястра, кажуць, нейкага паліцыянта. Угрунтаваўся добра. А нашага брата, калі каторы і вучоны, настаўнікам, нябось, не паставяць. Ды не кожны і захоча, як гэты Цаба. Храпка, шмапка... Калецтва адно! Хутчэй бы на іх які парадак рабіўся. То пан паліцэйскі, то пан саквестратар[1], то пан які-небудзь Цаба — усе на нашу мужыцкую шыю...

Данік глядзеў на Міколу. Сябар яго ўстаў, падышоў да паліцы і зняў з яе нейкую кнігу.

— Гэта Купала, — сказаў ён. — Той самы, што і пра Машэку напісаў. Памятаеш? — падмаргнуў ён Даніку. — І пра мяне ён напісаў, — гартаў кнігу Мікола. — Глядзі вось, верш «Я шавец-маладзец». І пра цябе напісаў. Пра цябе і пра маму тваю. Вось паглядзім. Ага! Ну, слухай.

Гэта была размова беднай маці-сялянкі з хлопцам сваім, які пасвіў чужыя каровы.

---

[1] *Саквестра́тар* (секвестратар) — зборшчык падаткаў.

У хлопца было тое, чаго ў Даніка ніколі не будзе, — бацька і браты. Было і тое, чаго ў Даніка яшчэ няма, — служба ў чужых людзей. Было, аднак, і галоўнае, што радніла Сівага з тым пастушком, — горкая доля.

Мікола чытаў, стоячы сярод хаты:

— Як у служкі сходзяць леты —
Ў пастуха,
Пытай, маці, птушкі гэтай —
Канюха.
Запытайся гэтай хмары —
Гэтых слёз;
Гэтай кветкі на папары —
Гэтых лоз;
Гэтай грушы сярод поля
І балот:
Яны ўсе аб маёй долі
Вядуць шчот.

Ну, і галоўнае, што ты, браце Даніла, запамятай назаўсёды:

Не плач, маці, і не злуйся
На жыццё,
Як я ў сілачку ўбяруся,
Змагу ўсё.

Вось так, брат, і запісана. Зразумела?

У адказ Данік змог вымавіць толькі сваё «ыгы». За яго адказала маці.

— Як жа хораша, Божачка, — уздыхнула яна. — Чула, Алена, га? — спыталася ў Міколавай маці, якая таксама не прала, а слухала.

— Ну што, Данік, — сказаў Мікола, — хочаш вось так навучыцца чытаць?

— Ыгы!..

— Калі «ыгы», дык ідзі цяпер і вучы сваю храпку, а ўвечары прыходзь.

І вось быў вечар, у які яшчэ адзін заходнебеларускі пастушок з мужыцкай прагнасцю на ўсё жыццё запамінаў трыццаць дзве літары ўжо не чужое граматы. І была пасля вечара ноч, у якую ў старой, занесенай снегам хаціне доўга не мог заснуць маленькі чалавек.

## IV

...Данік ужо ў трэцім класе. Першыя школьныя радасці даўно прайшлі. Праўда, вучыцца «папанску» з кожным годам як быццам лягчэй. Ужо і сам пан Цаба гаворыць з імі толькі па-польску. Вось і цяпер ён тлумачыць ім нешта, але Сівы не чуе, бо задумаўся.

Ад невясёлых думак ён абмакнуў у чарніла тупы канец алоўка і напісаў на парце: *Д. Малец*. Па-беларуску, вядома. Настаўнік заўважыў гэта і паставіў «грамацея» ў куток, дзе яшчэ, напэўна, стаяў неаднойчы і тата...

Пакуль Данік стаяў на каленях, гасцінцам з мястэчка брыла па адліжным снезе Акуліна. У старых салдацкіх валёнках, засопшыся, яна несла з пошты вялікі пакунак. Вось яна мільганула ў акне... у другім...

— Кніжкі! Кніжкі нясе! — загаманілі дзеці. Акуліна ўнесла пакунак, напусціла з двара холаду, навалакла шлапакамі снегу.

— Ух, панок! — уздыхнула яна, папраўляючы хустку. — Хай іх нечага ліха! Наце вам і запіску яшчэ.

— А ты не лайся, дурніца. Ідзь прэч!

Акуліна згорбілася і пайшла.

— Ну вось, — сказаў настаўнік. — Вось вам і тое, чаго так хацелася вашым бацькам. Тутай сон бялорускє элемэнтажэ «Зорка». Хто з вас умее ўжо чытаць па іх?

Данік азірнуўся. Ды і азірацца не трэба, — і так чуваць, як загаманіў, узняў рукі ўвесь клас:

— Я! Я! І я!..

— Праве ўшысцы[1], — загугніў пан Цаба. — Ну што ж, пшынаймней[2], не тшэба мне будзе лішне заўрацаць[3] сабе галаву.

Ён памаўчаў.

— А хто ж вас навучыў? — спытаўся.

Аказалася — каго бацька, каго нават маці, каго старэйшы брат, а трох — Яна Бусліка, Уладзімежа Чарадойлу і Шымона Мамоньчыка, як назваў іх настаўнік, — навучыў Данель Малец.

— Ты? — спытаўся пан Цаба. — Ану, устань!

Данік устаў і павярнуўся да класа.

— А хто цябе навучыў? Ну, чаго ты ўнурыўся?

Сівы маўчаў, толькі глядзеў на пана спадылба.

— Не повеш? — зноў па-польску спытаўся пан Цаба. — Не повеш? Мысліш, я сам не вем? Ідзь знуў до свэго конта!..[4]

---

[1] *Пра́ве ўшы́сцы* — амаль усе.

[2] *Пшына́ймней* — прынамсі.

[3] *Заўра́цаць* — марочыць.

[4] Не скажаш? Думаеш, я сам не ведаю? Ідзі зноў у свой куток!

Данік павярнуўся і, па прывычцы, стаў на калені.

Ён не сказаў, не назваў свайго сапраўднага настаўніка. І не скажа. Не пану аб гэтым казаць!..

Чатыры месяцы прайшло з таго дня, калі ў іхняй Галынцы, як і ва ўсіх навакольных вёсках, быў сход, на якім сяляне дамагаліся ад паноў школы на роднай беларускай мове.

У тую нядзелю ў школе было паўнютка людзей. За сталом сядзеў пан Цаба, яшчэ два нейкія паны з мястэчка і пан паліцыянт. Не хто-небудзь іншы, а ён, Данікаў друг Мікола Кужалевіч, паказваў панам вялікі, складзены ўдвая ліст паперы. На гэтым лісце было напісана тое, што называецца незвычайным і вельмі ж, мусіць, моцным словам — ПРАТЭСТ.

— Мы, сяляне вёскі Галынка, — чытаў Мікола, — заяўляем пратэст супраць таго, каб нашы дзеці вучыліся не на роднай мове, і патрабуем адкрыць у нас беларускую школу...

Данік ведаў — не хто-небудзь іншы, а ён, Мікола, пісаў гэты пратэст. А падпісала яго ўся вёска — з канца ў канец. Нават і солтыс, Марка Палуян, падпісаў. Маўчаў, чакаў, а ўсё ж такі падпісаўся. Увесь вялікі ліст спісалі, хто алоўкам, хто чарнілам, хто прозвішча паставіў, а хто крыжыкі. Недзе там, каля самага пачатку, стаяць і маміны крывыя тры крыжы. Пад імі — рукой Міколы — напісана: «За непісьменную, па яе просьбе, падпісаўся», а яшчэ ніжэй — рукою Даніка — *Д. Малец.*

На сход, у школу, малых не пусцілі. Нават ад вокнаў Цаба адганяў. Вокны былі адчынены, і ўсё чуваць было здалёк. Зрэшты, Данік схаваўся за бярозай перад акном і самае важнае бачыў.

— Не трэба нам панская школа. Яна не маці для нашых дзяцей, а мачаха. Ды і мачахі бываюць куды лепшыя! Не трэба нам і настаўнік, што за аб'едкі з панскага стала запрадаўся панам з душою! Не хочам мы і парадкаў такіх, калі на нашага брата глядзяць як на быдла, калі кожны цябе папіхае нагою, нібы свіную ражку. Мы заяўляем пратэст!..

Так гаварыў тады Мікола. Так гаварылі і другія хлопцы і мужчыны.

Паны маўчалі. Цаба сядзеў чырвоны, як бурак, і толькі соп у сваю дзюбу. І паліцэйскі маўчаў, аберуч трымаючыся за стрэльбу, сціснутую каленьмі.

Нешта праз месяц Міколу забралі. Той самы паліцыянт, а з ім яшчэ адзін гналі яго па вёсцы ўранні, калі малыя ішлі ў школу...

Данік, разам з іншымі хлопцамі, ішоў за імі воддаль, там, дзе ішла, галосячы, цётка Алена, Міколава маці.

Цяпер, стоячы ў кутку на каленях, Данік то думае, то нават шэпча:

— Панскі падліза... Запрадаўся з душой... І Міколу прадаў...

Гэта — пра Цабу. Так гаварыла ўся вёска.

## V

Сонца, мароз і вецер. Эх, завірыў, разгуляўся!.. Так і скрабе па хрупкім снезе, так і падвільвае белымі вужакамі снежнага пылу. Гоніць яго па полі, цераз гасцінец, зноў па полі, па хмызняках і — пад саменькі лес. А сонца такое, што не зірнеш на снег!..

Ад сонца Даніку не цёпла — цёпла ад бацькавага салдацкага башлыка, ад вялікага, з чужых плячэй, паўкажушка, ад хады па глыбокай сцежцы. Ён дрэпае ззаду за мамай і глядзіць на пяткі яе лапцей. Мама шырока ступае, спяшаецца за дзядзькам Кастусём і з-пад вялікай хусткі-канаплянкі глядзіць на дзядзькавы боты.

...Дзядзька Кастусь, мамін старэйшы брат, прыйшоў да іх сёння з Мікуліч. І думае ён цяпер пра тое, як гэта раптам, знячэўку, пашанцавала ягонай сястры. Дзевер яе, брат Данікавага бацькі Пятрусь Малец, прыслаў ім грошай. З Мінска ажно, з-за граніцы. Там ён недзе жыве, відаць, як чалавек, бо — дайце раду! — адразу гэтулькі грошай прыслаў... Калі перавесці на золата гэтыя савецкія чырвонцы, дык будзе іх цэлых трыццаць рублёў — мікалаеўскім золатам. Ну, а на панскія злоты — яшчэ ў чатыры столькі больш. Як з неба гэта звалілася... І піша Пятрусь Малец, што гэта — пляменніку яго, Данілу, каб вучыўся. «Сыну брата майго Івана, які аддаў жыццё за савецкую ўладу» — так і піша — у заказным пісьме... Як яно пойдзе цяпер сястры пры грошах?.. На добры лад, дык трэба было б хоць паўморга[1] зямлі абзадачыць або каня якога нарэшце купіць. Ды што тут зробіш, калі дзевер загадвае хлопца вучыць?..

Сама Мальчыха, дык тая проста аслупянела ад шчасця. Учора, як прынеслі з пошты пісьмо і павестку, загаварыла ўся вёска. І «з таго мэнту», як кажа Зося, думкі ў яе галаве блытаюцца адна за адну, а іх раз-поразу прадзімае вялікая радасць.

---

[1] *Морг* — старая мера зямлі, прыкладна паўгектара.

Грошай раптам будзе столькі, што і ў галаве не тоўпіцца. Дагэтуль Зося насіла ўвесь свой капітал у хустачцы, туга зацiснуўшы вузлом і медзякі, і паперкі. Калі нават якая-небудзь пяцёрка няшчасная была за душою, дык і то думалася, што з капейкай — усюды смялей. А цяпер... Страшна было б адной і ісці па іх. Кастусь, дзякуй яму, ідзе. Паслухаў. Ён-то нябось разбярэцца ўсюды! Ды і свой сынок таксама. Бачыш, жаба, упёрся — «пайду». Трэба ж яму апрануцца што-небудзь купіць... А як жа Іван-нябожчык? — успамінае Зося, сумеўшыся. Няхай бы ён, Божачка мілы, лепш сам быў жывы, чым усе гэтыя грошы. Але што ты парадзіш?.. Сёння дык яшчэ не, а ў другую нядзельку яна закажа па ім паніхіду. Як і ўсе добрыя людзі...

Данік таксама думае.

Яму ўжо адзінаццаць. Ужо другі год хлопец сядзіць у трэцім класе. Што, хіба ён вучыцца дрэнна? Ды не! Цяпер ужо не толькі ўся школа, а ўся Галынка ведае, што ён, Зосін Данік, вучыцца лепш за ўсіх. Найбольш чытае — і беларускіх, і рускіх, і польскіх кніжак, абы дзе якую дастаў. А вось застаўся ў трэцім класе на другі год. Хто ведае — можа, і яшчэ год будзе сядзець... Такі ўжо заведзены лад у паноў: хто не адходзіць у школу да чатырнаццаці год — плаці штраф або адседжвай у каталажцы пры гміне[1]. За ўсё адседжваюць людзі — за падаткі, за штрафы, калі няма чым заплаціць. Дзеду Раману прыйшло ад сына з войска

---

[1] *Катала́жка* — месца ўтрымання асуджаных; *гмі́на* — самая дробная адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў Польшчы.

даплатное пісьмо, дык ён і за даплату гэтую прасіўся адседзець. Маме ні штрафу плаціць, ні адседжваць, вядома, не хочацца, дык вось Данік і ходзіць другую зіму ў трэці клас. Ісці ў чацвёрты, у мястэчковую школу, — і няма за што, і няма ад каго. Трэба ж і маме дапамагаць. Шэсць чужых кароў і сваю Рагулю пасе ён улетку.

А ў школу, у чацвёрты клас, так хочацца!..

Вясной, калі ён скончыў трэці, быў у іх сам «пан кіроўнік» — дырэктар мястэчковай сямігодкі.

«Пан, зразумела, — звярнуўся ён да іхняга Цабы, — лепшых вучняў накіруе да мяне, у чацвёрты клас, а гэтага, Мальца, — у першую чаргу, абавязкова».

«Пане кіроўніку, — загугніў Цаба, — ён, Данель Малец, вельмі бедны, сірата. Дарэмная гаворка».

«Ну што ж, як не, дык не», — сказаў кіроўнік.

А тут учора дзядзька Пятрусь прыслаў пісьмо і грошы. Вось табе і «не, дык не»! Абы толькі да вясны дацягнуць, а там, увосені, я табе, пане Цаба, не здрастуй, а ты мне не застуй!

Ад вялікага кажушка Даніку цяжка ў плечы і мокра за спіной. Канцы башлыка, якімі хлопец абвязаны ледзь не да носа, запацелі і падмярзаюць на ветры, ад подыху зноў растаюць і зноў падмярзаюць. Хлопец перабірае засліненае сукно гарачымі губамі і ўсё думае...

Дзядзька Пятрусь, незнаёмы Даніку брат яго бацькі, — вельмі добры, відаць, і вельмі разумны чалавек. І ён, як калісьці Мікола, гаворыць, што Данікаў тата — герой. Каб паны не забілі яго на вайне ды каб ён жыў, ён быў бы таксама разумны

і добры. А каб паноў не было і тут? Што ж, тады не было б і пана Цабы з яго школай і не сядзеў бы ў турме такі разумны, добры, смелы Мікола Кужалевіч... Ды ці адзін хіба Мікола!.. Данік успамінае, як плачуць бабы і дзеці, калі паліцыянты гоняць у пастарунак[1] каго-небудзь з хлопцаў ці мужчын... А ўсё ж спяваюць у Галынцы песні супраць паноў, усё ж чакаюць прыходу таварышаў...

Тут на думку хлопцу ўзыходзіць, што школа ў мястэчку — таксама панская, як і ў Галынцы... «А ці добра, што я пайду туды, што я хачу вучыцца, хоць і па-польску? Што ж я — хачу панам Цабам зрабіцца?.. Ды дзядзька ж піша, каб я вучыўся! — успамінае ён з палёгкай. — У школе буду вучыцца па-польску, а дома — па-свойму. І буду шмат чытаць, буду такі разумны, як тата, як дзядзька Пятрусь, як Мікола!..»

Вецер вірыць і дзьме па-ранейшаму.

Мама, зноў прыпыніўшыся, азіраецца і пытае:

— Ідзеш, Даніла?

— Ды што ты ўсё: ідзеш, ідзеш? Ну, іду...

І вочы Сівага, здаецца, яшчэ больш паблісваюць з-пад пакрытага інеем башлыка.

## VI

Выхавацелька чацвёртага класа — пані Мар'я, або кіроўнічыха, як называюць яе вучні, — увайшла пасля пераменкі ў клас з вялікім пачкам чырванабокіх яблыкаў.

---

[1] *Пастару́нак* — мясцовае аддзяленне паліцыі ў Заходняй Беларусі да 1939 года.

— Лісты кляновыя прынеслі? — спыталася яна.

— Прынеслі! Во якія! Во! — загаманілі вучні.

— А-ёй, навошта гэтак шмат? Я ж казала — па два-тры, не больш.

Пані Мар'я гаворыць па-польску чыста, не так калечана, як пан Цаба.

— Але нічога, дзеці, — кажа яна. — Зробім так: кожная парта атрымае адзін яблык, паложыць некалькі лістоў, а на іх зверху — яблык. Праўда, на кляновыя лісты яблыкі не падаюць, бо на клёнах яны не растуць, але гэта таксама нічога: гэта вельмі нагадвае восень, яе хараство. Дык пачынаем, дзеці. Не спяшайцеся. І кожны няхай памятае: хто нарысуе лепш — з'есць яблык, а хто палянуецца — будзе есці лісты.

Сказала і засмяялася, а клас — за ёю. Якая яна добрая, вясёлая! Зусім не такая, як муж яе, пан кіроўнік, — нейкі маўклівы і нават страшнаваты. Дзяўчаткі, дык тыя гавораць «наша пані Мар'я», як быццам яны любяць яе больш за хлопцаў. І ўсё падлашчваюцца, усё шчабечуць: «проша пані» ды «проша пані»!..

Як толькі ў класе ўсталявалася цішыня, пані Мар'я села за стол і дастала з шуфляды класны журнал. І вось гартае яго і нешта запісвае.

А Данік, які сядзіць на першай парце, насупраць стала, малюе, а сам усё глядзіць на кіроўнічыху, — то крадком цікне спадылба, а то, калі яна не бачыць гэтага, пазірае адкрыта.

Сёння дваццатае верасня. А Даніку здаецца, што толькі ўчора поп адслужыў ім у царкве малебен на добры пачатак школьнага года. Вучыцца весела, час ідзе хутка. Чаму ж, аднак, сёння яму не рысуецца?

Неяк аднойчы ў выхадны дзень я ішоў па вуліцы і на рагу нос у нос сутыкнуўся з Эмай.

— Ой! — спалохана ўсклікнула яна.

Я моўчкі пачаў яе абыходзіць, але яна раптам схапіла мяне за руку.

— Слухай, Антон, чаго ты мяне цураешся? Што я табе зрабіла, Пантона-Мантона-Дэмантона? Я ж не вінавата, што настаўніца заўважыла, як ты кінуў шарык. Я ж нікому нічога не сказала... Капітан зграі, дзе твае разбойнікі, што ты ходзіш заўсёды адзін?

Я абыякава паглядзеў на Эму. Але ж хіба можна было не заўважыць яе — круглатварую, прыгожую, з доўгай касою, што была перакінута наперад цераз плячо. І ўсё ж пагарда перамагла. Я адвярнуўся і амаль подбегам пашыбаваў па вуліцы. Аглянуўся, яна пакрыўджана ўсміхнулася і нейкі час стаяла на месцы, пазіраючы сабе пад ногі.

У школе ў выхадныя дні для вучняў старэйшых класаў наладжвалі вечары мастацкай самадзейнасці і танцы пад баян. На такіх вечарах звычайна бывалі дзяжурныя настаўнікі. Да танцаў я не ахвотнік. Але на гэты раз я рашыў схадзіць, паглядзець, як вучні танцуюць. Мне раптам палегчала, я павесялеў, настрой мой палепшаў.

Старанна адпрасаваў свой новы касцюм у клетку, надзеў гальштук пад белую шаўковую кашулю, наваксаваў туфлі. Прыбраўшыся, я доўга круціўся перад люстэркам. З непрывычкі мне было сорамна ў маім новым адзенні, тым больш што я апрануў і нядаўна купленае новае паліто. Некалькі разоў я спыняўся, наважваючыся вярнуцца дадому, але нейкая сіла цягнула да школы.

Прыйшоўшы ў школу, здаў у гардэроб сваё паліто і ціхенька пашыбаваў па калідоры. У калідоры было шмат вучняў — найбольш дзяўчынак. Дзверы ў адным класе былі расчынены, там ігралі на баяне. Я падышоў да дзвярэй і пачаў глядзець, як вучні вучацца танцаваць. І раптам убачыў Эму. Яна сядзела поплеч са старшай піянерважатай і пра нешта з ёю гаварыла. Павярнулася, убачыла мяне і пырснула смехам. Пэўна, ёй кінулася ў вочы маё новае адзенне. І як гэта я забыўся, што магу сустрэць тут гэтую Мэры Кэт? Я ж за ўвесь дзень пасля той сустрэчы ні разу пра яе і не падумаў. А ёй, пэўна, здаецца, што гэта я для яе так прыбраўся. Не дачакаецца! Я з ёю не толькі сябраваць, а і зусім знацца не хачу. У яе сваё жыццё, у мяне — сваё. Я пагаварыў трохі з аднакласнікамі і пайшоў дадому.

## IV

Кожная пара года па-свойму прывабная, прыгожая. Я люблю вясну, калі з трэскам ломіцца на рацэ лёд і гаманкія поўныя воды нясуць крыгі. Растае снег, бягуць ручайкі, спяваюць жаўрукі. Апранаюцца ў зеляніну хмызнякі, зямля, атуленая цяплом, чакае блізкай навальніцы. І вось ужо правуркатаў у небе гром, зацвіла вярба — можна рабіць дудкі. На паплавах ходзіць цыбаты бусел. Недзе ў затоках сонна крэкчуць жабы. Цёпла, прыгожа, прыемна. Некуды кліча, вабіць цябе жыццё, і ўздымаюцца грудзі ад глыбокага дыхання. А ў галаве — колькі думак, колькі мар! Але вось дні пацяплелі, выкаласілася жыта, вывеліся маладыя шпакі, густа зацвіў чабор на пясчаных узгорках,

трава на заліўных лугах паднялася ў пояс, бульба зацвіла, запахла ўсюды сырадоем, цёплай зямлёй, гуркамі. Колькі багацця адразу і зацвіло, і забуяла на зямлі!

Я хаджу па ляску. Мне трэба зрэзаць вудзільна. З нажом-складанчыкам у руцэ я падыходжу да бярозкі, доўга аглядаю яе.

Іду сабе далей. Да наступнай бярозкі.

Я люблю таксама восень з яе першымі яснымі днямі, дажджом, з першымі замаразкамі і маразамі. А зіма! А першы снег! А іней на дрэвах і лёд на рацэ! І конь, запрэжаны ў сані, што імчыцца некуды далёка па дарозе!

Я сяджу дома пасля школы і чытаю кнігу. На двары першы сняжок і першы дужы марозік. Ісці нікуды не хочацца. Раптам пад акном мільганула постаць Янкі Маркаўцова — майго аднакласніка.

Я спакойна сяджу за сталом, чакаючы, калі ён зойдзе ў хату. Рыпяць дзверы. За перагародкай чуваць Янкаў голас:

— Добры дзень, цётачка! — Гэта ён з маёй маці вітаецца.

— Добры дзень, Янка, — кажа маці.

— Антон дома?

— Дома. Кнігу чытае. Заходзь.

Янка ўвальваецца да мяне, цяжка дыхаючы.

— Я зараз такое дзіва бачыў, што і не паверыш. Хадзем, пакуль не позна. Там столькі народу сабралася — як не з усяго калгаса. Я табе нічога не раскажу, гэта трэба пабачыць.

— А ты скажы.

— Не, — махае рукамі Янка. — Такое не раскажаш! Хутчэй апранайся, бо яшчэ спознімся.

Я паслухмяна кладу кнігу, апранаюся, і мы выходзім з хаты.

Янка вядзе мяне за вёску, да рэчкі. На ўзгорку мы прыпыняемся. Адсюль ужо відаць рэчку і вялікае балонне[1], усё залітае вадою. Пад узгоркам стаіць немалы натоўп мужчын і кабет, а перад імі, па чыстым лёдзе, катаецца на коньках чалавек, апрануты ў вязаны цёмна-сіні фізкультурны касцюм, на галаве ў яго шарсцяны берэт. Ды як катаецца! Такога я яшчэ і не бачыў. Па крузе. То перадам імчыцца, то спіной, то раптам як пачне кружыцца, што толькі берэт мільгае, а тады разгоніцца і імчыць на адной назе.

— Хто ж гэта такі? — пытаюся я ў Янкі.

— Адгадай, — адказвае. — Век не адгадаеш. Збеглі мы з узгорка да балоння, і тут я ўтрапеў: каталася Эма Пшанічная. Прыгожая, зграбная, дужая, яна ўпэўнена насілася па лёдзе на зайздрасць мне і ўсім. Кабеты перашэптваліся і ківалі галовамі: вось дык аграномава дачка!

Я ўспомніў апошнюю сустрэчу з ёю на вуліцы, і мне стала ясна, што дарэмна я радаваўся сваёй перамозе над ёю.

## V

Гэтую ноч я амаль не спаў. Зайздрасць не давала мне спакою. Што за такая вучаніца ў нас? Калі яна паспела навучыцца так здорава бегаць на коньках? Успамінаючы яе, я ўсё больш адчуваў незразумелую для сябе трывогу. Нешта новае, хвалю-

---

[1] *Бало́нне* — нізкі заліўны луг каля ракі.

ючае падступалася да мяне. Я злаваўся на яе і чамусьці радаваўся гэтай сваёй злосці. Радасць запаўняла мяне ўсё больш і больш. І раптам мне падумалася: а што калі я куплю канькі і навучуся катацца так, як гэтая Эма? Вучыцца буду дзенебудзь на далёкай крыніцы, каб ніхто не бачыў. Пакуль пойдзе снег — часу хопіць. А тады адразу здзіўлю ўсіх...

Гэтая думка захапіла мяне. Ды як! Ужо раніцою я пачаў прасіць у бацькі грошы на чаравікі і канькі. Бацька ніколі і ні ў чым мне не адмаўляў.

— Канькі? — толькі і перапытаў ён. — Добра. Даўно трэба было табе навучыцца на каньках хадзіць. Заўтра я еду ў райцэнтр і прывязу табе канькі.

І вось яны перада мною — новыя чаравікі з прыкручанымі нажавікамі. Я пазіраю на іх і дзіўлюся: як гэта я, жывучы ля ракі, не меў канькоў? Але на лёдзе мой настрой мяняецца.

Я іду да самай далёкай крыніцы, дастаю з-пад палы чаравікі з канькамі і пачынаю пераабувацца. Потым ступаю на лёд. І не магу ўстояць: мае ногі коўзаюцца — адна ўлева, другая ўправа, і мяне як хто збівае на дол. Мне робіцца сумна: дарэмна я ўсё гэта надумаў. Не дагнаць мне яе. Я падымаюся і адразу ж падаю яшчэ раз. Але блізка нікога няма, і я настойліва пачынаю трэніравацца і ўсё падаю на лёд і бокам, і спінаю, і жыватом. Урэшце к канцу дня мне ўдаецца ўсё ж праехацца на каньках добрыя гоні... Я весялею.

У нас вечарамі бывае вельмі прыгожа. Успыхвае электрычнасць у вокнах хат, запальваецца ліхтар на вуліцы ля крамы. Цісне мароз, дрэвы стаяць

у інеі. У калгасным клубе пачынаецца кіно. Папыхвае паравік у школьнай майстэрні. Толькі мяне няма ні ў кіно, ні ў школе, ні ў клубнай більярднай. Я ў гэты час нясуся па рэчцы на коньках. Лёд спявае пад маімі нагамі. Мне горача. Твар аж палае ад гарачыні. Над рэчкай, у глыбіні неба, гарацць вялікія і малыя зоры. Па берагах у цемені мільгаюць лазовыя кусты. Я адзін. Штуршок за штуршком па знаёмай дарозе.

Нікога няма на рацэ. Цемень, лёд, вецер ды я! Адзін адным. Што там цяпер робіць гэтая Эма? Пэўна, у кіно пайшла, а можа, дома ўрокі вучыць. І зусім не ведае, што я тут адзін на рэчцы. І не трэба, каб ведала. Мне добра. А Эма хай сабе сядзіць там адна. Хай думае, што яна лепшая за мяне. Мне ўсё роўна. Мне добра вось так, аднаму, успамінаць пра яе. Зорны халодны вечар. Трашчыць мароз. А я катаюся і ўсё думаю, думаю. Дарэмна я тады не загаварыў з ёю. З ёй можна, бадай, і пасябраваць. Але ж калі б пасябраваў, дык хіба быў бы я цяпер вечарам адзін на рэчцы? Прэч, прэч такія думкі...

У вёсцы тухнуць агні. Позна, а я ўсё яшчэ катаюся. Мне добра, прыемна, і здаецца мне, што я чую лепей. Вунь загрымела далёка наперадзе, аж гул пайшоў — гэта лёд трэснуў. А вось зацахліла, залескатала — далёка на чыгунцы поезд ідзе. Прайшоў, і сціхла, толькі сабакі ў вёсках брэшуць. Цішыня. Зоры, як жывыя, пераміргваюцца ў небе. Мне пачынае падабацца мая адзінота. А наперадзе? Што чакае мяне наперадзе? Нарэшце я рашуча зварочваю на балонне, пад'язджаю да берага. У кустах скідваю чаравікі з канькамі, насоўваю валёнкі і

іду ў вёску. Канькі нясу пад палой, каб ніхто не ўбачыў, калі сустрэнецца. Наперадзе ў мяне — прыемны, здаровы сон.

## VI

Ну ж і дзянькі пачаліся! Гэта ж не жартачкі — навучыцца катацца на коньках так, як Эма! Без усякіх падказаў. Першы дзень я быў і нос павесіў. У мяне балелі і бакі, і спіна, і ногі. А тут яшчэ я некалькі разоў выцяўся аб лёд і каленкамі, і бокам. Ішоў дадому і думаў, што я самы нешчаслівы на свеце чалавек. Дома, павячэраўшы, адразу ўпаў на ложак і заснуў як забіты. Мне снілася рэчка, сіні лёд. Ён быў вельмі слізкі. Я падаў, стагнаў ад болю, але не прачынаўся. Назаўтра ісці з канькамі на рэчку мне не хацелася. Але ж перад вачыма ўвесь час стаяла Эма. І вось пасля ўрокаў я зноў пачаў збірацца. Апрануў лыжны касцюм, пінжак, схаваў чаравікі з канькамі пад палу і падаўся на рэчку. Ішоў без ніякага жадання, як па прымусу. Хацеў нават вярнуцца з паўдарогі, але перадумаў: яшчэ сёння паспрабую. У кустах скінуў валёнкі, абуўся ў чаравікі, скінуў пінжак. І пачалося тое самае. Адзін раз праеду, адзін раз павалюся. Аднак жа ў гэты дзень выходзіла ўсё лепей. Я трохі стаяў на каньках, хоць і змарыўся так, што пот цуркам ліўся па твары. Вечарам я ўжо катаўся. Праўда — дрэнна, але ж гэта быў толькі другі дзень! Цяпер я ўжо не сумняваўся, што і адзін навучуся хадзіць на каньках. Тут патрэбна толькі вытрымка, настойлівасць. Калі мне было цяжка, я садзіўся адпачываць і ўяўляў сабе той дзень, калі праеду перад Эмай на каньках. Я ўяўляў, як будуць дзівіцца

знаёмыя і сябры, якой разгубленай будзе Эма. Гэта надавала мне сілы і заахвочвала мяне. І я зноў пачынаў катацца.

Але раптам мяне ахапіў непакой: а як хто-небудзь убачыць ды ўсім раскажа? Мяне кідала нават у холад ад гэтай думкі. Праўда, месца глухое і далёка ад дарогі...

Рукі і ногі мае ад няспынных трэніровак наліваліся сілай. Я адчуваў, як з кожным днём усё больш тужэюць мускулы, а рухі робяцца больш разважлівыя і дакладныя. Чым лепш удавалася мне коўзанне, тым весялейшы я рабіўся. І настаўнік, і вучні пачалі пазіраць на мяне, як мне здавалася, са здзіўленнем.

Першы ўстрывожыў мяне мой сябар Янка Маркаўцоў. Неяк на перапынку ён запытаўся:

— Слухай, Антон, чаго гэта ты ходзіш кожны дзень на раку? Што ты там робіш?

А за Янкам і іншыя пачалі чапляцца:

— Што гэта ў цябе за паходы такія?

Тут ужо я не на жарт спалохаўся: а што, як высачаць ды да часу пра ўсё дазнаюцца? Пра тое, што вучуся катацца, ведалі толькі бацька ды маці — і больш ніхто.

Каб не рызыкаваць, я змяніў распарадак дня. Урокі пачаў рыхтаваць адразу пасля школы, а вечарам, як толькі пачне цямнець, — на лёд. І вось імчу, любуючыся зманлівым разлівам электрычных агнёў у цемені. І такое тады ўсё добрае ўспамінаецца. Успамінаецца Кіці з рамана Льва Талстога «Анна Карэніна». Як яна здорава каталася на каньках! Успамінаюцца школа, настаўнікі, Эма. Аднойчы я нават канькамі на лёдзе выпісаў гэтае імя.

Добра было б прамчацца ўдваіх па лёдзе навыперадкі. Ды для гэтага мне яшчэ трэба трэніравацца ды трэніравацца! Але чаму я павінен вучыцца адзін? І ўсё больш і больш пачало з'яўляцца ў мяне жаданне: выйсці на каньках удзень на балонне, калі там будзе катацца Эма Пшанічная.

## VII

У наступны дзень я бяру канькі і бягу на лёд. Эма ўжо там — пра гэта мне сказаў Янка Маркаўцоў, якому я яшчэ ўчора адкрыў свой сакрэт. Ясны зімовы дзень. Чысты лёд аж зіхаціць на сонцы. Зграбная яе постаць у вязаным касцюме мільгае перада мною. Вось Эма робіць круг. Вось робіць васьмёрку. Раптам імчыцца на адной назе, потым кружыцца на месцы. І зноў — імклівы бег.

Ужо няма на беразе натоўпу, як гэта было спачатку. Канечне, я быў бы рады, каб былі на беразе людзі. Няхай бы падзівіліся, як я катаюся. Але ж гэта не так ужо важна. Важна, што я навучыўся. А слава — яна прыйдзе пасля, калі толькі ёй трэба будзе прыйсці.

Каля лёду я скідваю валёнкі, аддаю іх Янку, а сам абуваю чаравікі з канькамі.

Эма спыняецца і пазірае на нас. Я падхопліваюся і, на здзіўленне Янкі, смела імчуся па лёдзе. Я раблю спачатку круг — зусім такі, як яна. Потым васьмёрку. Потым імчуся на адной назе. Усё гэта выходзіць у мяне проста. Не горш, мусіць, чым у яе. Потым я імчуся наўпрост — аж пад самы далёкі бераг. Яна не вытрымлівае і зрываецца ўслед за мною. Але ж хіба ёй дагнаць мяне!

Столькі дзён і вечароў быў я на лёдзе. Усю восень і пачатак зімы!

Пад берагам я раблю яшчэ адзін круг і спыняюся. Яна — расчырванелая, здзіўленая — пад'язджае да мяне.

— Антон, — з усмешкай пытае яна, — калі гэта ты навучыўся катацца на каньках?

— А вось і навучыўся, — не без гонару кажу я. — Не толькі ж табе адной катацца, Мэры Кэт. Дарэчы, Мэры Кэт — гэта гераіня з якога рамана? Нешта я ніяк не прыпомню.

— Ні з якога, — адказвае яна. — Я сама выдумала.

Мы пайшлі разам — плячо ў плячо.

— Антон, — раптам запыталася Эма, — а ты чуеш, як гудзе лёд пад нашымі нагамі?

— Чую, Эма, толькі вельмі невыразна, — адказаў я.

— А як цяпер на шляху аўтамашына гудзе — чуеш?

— Не, гэтага не чую, Эма.

— Пантона-Мантона-Дэмантона! Ты не крыўдуеш на мяне, што я так пытаюся? Давай не будзем сварыцца, а будзем дружыць.

Ну што было сказаць на гэта? Нейкая новая радасць запаўняла мяне. Дзень пачаў здавацца прыгажэйшым.

— Давай дружыць, — падумаўшы, згадзіўся я...

...Я чую. ...Я чую, як шуміць вецер, як размаўляюць вясною ручаі, як крычаць кнігаўкі, што прыляцелі на паплавы і лугі. Я чую шэпт першых лісцяў, гарачы, добразычлівы шэпт аб тым, што вось як прыгожа вакол... Калі і як такое са мною

здарылася — я і сам сказаць не магу. Але ж здарылася! За доўгія месяцы ўпартай вучобы і працы! Нічога як быццам не адбылося асаблівага, і раптам усё ўварвалася ў вушы.

Нібы мяне закружыла ў радаснай прыгажосці жыцця.



1. Якое ўражанне пакідае апавяданне?
2. Чым апавяданне адрозніваецца ад іншых прачытаных вамі празаічных твораў па тэме і па настроі? Якія пачуцці яно выклікае? У чым яно збліжаецца з паэтычнымі творамі?
3. Ахарактарызуйце Антона і яго перажыванні пасля знаёмства з Эмай. Звярніце ўвагу на канцоўку апавядання і асабліва на апошні сказ.
4. Знайдзіце ў апавяданні партрэт Эмы. Як гэты партрэт уплывае на ваша ўспрыманне гераіні? Як аўтар характарызуе Эму праз успрыманне Антона?
5. Як у сапраўднасці Антон ставіўся да Эмы? Якія пачуцці перажываў ён? Якія змены адбыліся ў паводзінах Антона пасля знаёмства з Эмай?
6. У апавяданні аўтар карыстаецца рознымі прыёмамі паказу жыцця і характарыстыкі герояў — аповед, апісанне, дыялог. Прывядзіце прыклады і раскрыйце іх ролю ў творы.
7. Параўнайце апавяданне «Мэры Кэт» з рэпрадукцыяй карціны М. К. Казакевіч «Юнацтва» па агульным уражанні, настроі, сюжэце (гл. уклейку). Што яднае і адрознівае гэтыя творы мастацтва?

## Пытанні да раздзела

**1.** У чым галоўнае адрозненне зместу, тэматыкі празаічных твораў ад паэтычных, вершаваных? Якія жыццёвыя з'явы часцей за ўсё прыцягваюць увагу пісьменніка-празаіка?

**2.** Якую ролю ў мастацкіх творах адыгрывае фантазія пісьменніка, мастацкі вымысел?

**3.** Успомніце, што такое мастацкая дэталь. Прывядзіце прыклады яе ўжывання ў адным з прачытаных твораў.

**4.** Назавіце спосабы і прыёмы паказу жыцця і характарыстыкі персанажаў у мастацкіх творах. Прывядзіце прыклады аповеду.

**5.** Якую ролю адыгрываюць у мастацкім творы пейзаж, партрэт героя? Пацвердзіце свой адказ прыкладамі.

**6.** Якую ролю выконвае дыялог у характарыстыцы персанажаў?



# ПАЭЗІЯ Ў ПРОЗЕ І ПРОЗА Ў ПАЭЗІІ

Вы пазнаёміліся з двума рознымі відамі літаратурных твораў. І, здавалася б, ужо можаце арыентавацца ў вялікім кніжным моры, якое называецца «Мастацкая літаратура»: адна яе частка — паэзія, вершы, а другая — проза.

Аднак у літаратуры, як і ў жыцці, не ўсё так проста. Паміж гэтымі двума відамі мастацкай творчасці няма рэзкага размежавання. У літаратуры можна сустрэць нямала твораў, напісаных празаічнай мовай, але з выразнымі адзнакамі паэзіі — павышанай эмацыянальнасцю, багаццем яркіх выказванняў, выразаў, узнёслай настроенасцю размовы. Дарэчы, такія якасці можна наглядаць і ў творах, змешчаных у падручніку, — «Музыка» М. Багдановіча, «Сірочы хлеб» Я. Брыля, «Мэры Кэт» М. Лупсякова. Асобныя іх старонкі напісаны вельмі пранікнёна, задушэўна. Пра такія творы гавораць: паэтычная (або лірычная) проза.

Для прыкладу, у апавяданні Я. Коласа «Дзеравеншчына» аўтар паказвае перажыванні галоўнага героя Міхалкі, звязаныя з яго сумам па вёсцы: «Найгорай было яму вясною і летам, калі сіняе

неба ласкава звесіцца над зямлёй, як маці над калыскаю, дзе ляжыць яе любае дзіцятка. А гэтыя хмурынкі! Хто іх ведае: адкуль яны выпаўзаюць і куды ідуць яны так згодненька, такія мілыя ды прыветныя. От узяў бы ды сеў на іх і паплыў бы разам з імі, каб толькі далей быць адгэтуль. Сонейка так хорашанька заглядае ў вокны. У садку шчабечуць птушкі. Верабейчыкі з вясёлым чырыканнем снуюць у паветры».

Гэтыя радкі апавядання — сапраўдная паэзія! І гучаць яны, як вершы, хоць і напісаны празаічнай мовай. Каб у гэтым пераканацца, можна супаставіць прыведзены ўрывак, напрыклад, з вершам таго ж паэта «Раніца вясною»:

Ціха ў полі, ціха ў лесе,
Ані шэпне вецярок,
Толькі дзесь у паднябессі
Льецца звонкі галасок.
Як бы срэбраны званочак,
Роніць ўніз за трэллю трэль,
Аж заслухаўся гаёчак,
Не варушыцца і ель...
Тонкіх хмарак валаконцы
Сталі хораша ў радок,
Як бы ўюць яны для сонца
З тых валоканцаў вянок.

Паэзія і проза ў мастацкай літаратуры цесна звязаны, узаемадзейнічаюць адна з адной. У выніку такога ўзаемадзеяння з’яўляецца нават асобная разнавіднасць твораў. Гэта — ***свабодны верш***. Знешне ён падобны да звычайнага верша: невялікі па аб’ёме, друкуецца ў слупок, кароткімі радкамі, хоць і не мае строгага рытму, не карыстаецца рыфмай, па мове больш блізкі да прозы. Аднак

гэта, несумненна, верш. З вершамі яго звязвае глыбокі, часцей філасофскі, роздум аўтара аб розных з'явах жыцця. Мова такіх вершаў лаканічная, афарыстычная (*афарызм* — кароткае і разам з тым вельмі змястоўнае выказванне, якое нясе глыбокае абагульненне), часта з падтэкстам.

Тое, што ў літаратуры з'яўляюцца творы, якія спалучаюць у сабе якасці паэзіі і прозы, — з'ява натуральная. Літаратура развіваецца, становіцца ўсё больш разнастайнай па змесце і форме, здольнай задавальняць самыя розныя густы і духоўныя патрэбы чытачоў.

?

1. Ці заўсёды паэзія выступае толькі ў форме вершаваных твораў? Якія характэрныя адзнакі паэзіі, акрамя вершаванай формы твораў, вы можаце назваць?
2. У якіх творах, празаічных ці паэтычных, мова больш эмацыянальная, насычаная рознымі мастацкімі зваротамі, фігурамі, тропамі, гучыць узнёсла, музычна, усхвалявана?
3. Якія ўласцівасці свабоднага верша вы можаце назваць?

ЯКУБ КОЛАС

## Думкі ў дарозе

*(Скарочана)*

Грыміць па карэннях цялежка, мігацяцца стракатыя верставыя слупы, мігаюцца, пахіліўшыся, абросшым мохам хваёвыя крыжы паабапал дарогі; бягуць лясы, гаі, мяняюцца палі, грамадзяцца горы, рассцілаюцца шырокія лугі, блішчаць азёры, срэб-

рам пераліваюцца рэкі, золатам рассыпаюцца пяскі, глыбокімі зялёнымі ямамі раскідаюцца балоты...

І куды ты нясеш мяне, няведамая дарога?

А неба! Далёкае, няведамае, сіняе неба! Тысячы, мільёны гадоў пазіраеш ты, без болю, без трывогі, пазіраеш на ўсіх роўна: на чалавека, на звера, на птушку, на самую меншую мушку, на жывых і нежывых, на нашу бедную зямлю, на зямлю, залітую крывёю і горкімі слязьмі сіраты-народа.

Далёкае неба, сіняе неба! Чаму не дасі адказу на нашу пакуту, на нашы надзеі, на нашы блуканні? Чаму не асушыш нашы горкія слёзы? Не супакоіш хворую душу і сэрца? <...>

Далёкае неба! Сіняе неба! Што ёсць на свеце дзіўнейшае, як ты? Высокае сонца, белыя хмаркі, як пух, плывуць і плывуць адна за адною, родзяцца, прападаюць, сплываюцца ў цёмную хмару, звісаюць над полем і лесам, блішчуць маланкамі, трасуцца громам, разліваюцца чыстымі халоднымі кроплямі і шчыра льюцца на зямлю.

Далёкае неба! Сіняе неба! Як ціха на небе ўночы! Срэбраны месячык, то круглы, то вузкі, як серп, як хораша свеціць над чорнай цемрай, што густа засцілае белы свет! А далёкія зорачкі! Як добра ў ціхую ночку! <...>

А дарога мая чуць віднаю шэраю ніткаю ідзе ўсё далей і далей, круціцца, абвіваецца наўкруг курганоў, узбягае на горы, спускаецца ў лагчыны, прападае ў лесе пад жывою страхою высокіх хвой і ялін; трасе цялежка, падкідае па калдобінах, усё роўна як хоча яна выкінуць мяне пасярод дарогі. Зноў пайшла раўней мая дарога, зноў вачам ад-

крываюцца новыя абразы свету, іншыя галасы чуе маё вуха, іншыя думкі родзяцца ў маім сэрцы.

Куды ты нясеш мяне, няведамая дарога? <...>

*1909*



1. На якi роздум наводзiць твор? Якiя выклiкае пачуццi?
2. Прачытайце гэты празаiчны па знешняй форме твор уголас. Што, на вашу думку, яднае яго з вершаваным творам?
3. Знайдзiце клiчныя i пытальныя сказы, якiя перадаюць, як i ў вершы, эмацыянальную усхваляванасць героя.
4. Зачытайце сказы, якiя падзелены на кароткiя, прыкладна роўныя часткi, якiя па гучаннi, iнтанацыi нагадваюць вершаваныя радкi.
5. Цi можна назваць гэты твор празаiчным апавяданнем? Чым ён адрознiваецца ад тых апавяданняў, якiя вы чыталi раней? Вызначце, цi ёсць у iм сюжэт, вобразы-персанажы.
6. Назавiце найбольш цiкавыя, на ваш погляд, мастацкiя прыёмы i сродкi: метафары, эпiтэты, паэтычныя звароты, паўторы i г. д. Як яны ўплываюць на гучанне твора?
7. Вызначце вiд, жанр, тэму твора.

ЗМІТРОК БЯДУЛЯ

## Шчасце не ў золаце

Мыла дзяўчынка бялiзну кужэльную ў крынiцы. Стаяла яна на кладцы, закасаўшы рукавы з вышыўкамi, распусцiўшы валасы русыя, пеючы песнi дзявочыя.

Ехаў гасцінцам багаты паніч, ехаў, ды застанавіўся — відаць, дзяўчынка спадабалася яму. І давай ён гэткую гутарку весці:

— Я маю зямлі сем валок, стады мае багатыя, коні мае дарагія, парабкі мае адзін у адзін, як тыя дубы на ўзгорку. Пайдзі за мяне замуж, дзяўчынка!

— Ой, не пайду замуж за цябе: не трэба мне золата, серабра, не трэба багатага молайца. Я кахала аднаго — кахаць буду; цалавала аднаго — цалаваць буду. Ён у цябе парабкам служыць, па мне заўсёды тужыць...

Кланяўся пан нізка да зямлі — не памагло.

Кленчыў, як той жабрак пад акном, — не памагло.

Ой, шчасце не ў золаце, паны!



1. Над чым прымусіў вас задумацца гэты твор?
2. Што яднае твор «Шчасце не ў золаце» з апавяданнем? Пры адказе звярніце ўвагу на празаічную мову, сюжэт, герояў (дзяўчына і паніч), дыялог.
3. Якому віду мастацкай творчасці ўласцівы паэтычныя выразы: *бялізну кужэльную, валасы русыя, песні дзявочыя, стады багатыя, коні дарагія*, наяўнасць рыфмы і рытмічнае гучанне, калі асобныя выказванні можна запісаць у такім выглядзе:

   Я кахала аднаго —
   кахаць буду.
   Цалавала аднаго —
   цалаваць буду.
   Ён у цябе парабкам служыць,
   па мне заўсёды тужыць...

4. Ці можна назваць твор «Шчасце не ў золаце» вершам у прозе? Абгрунтуйце свой адказ.
5. Прачытайце яшчэ раз гэты твор так, каб адчувалася яго ўзнёсласць, яго высокая ідэя — вернасць у каханні, бо «шчасце не ў золаце».
6. Выкажыце свае адносіны да ідэі твора.

ЯНКА СІПАКОЎ

## Спяць у снарадах...

Спяць у снарадах,
Спавітыя белаю, як сама смерць,
Сталлю,
Пакручастыя віхры,
Аглушальныя грамы,
Пажары, вулканы і землетрасенні...

Спяць чалавечыя крыкі,
Спяць адкрытыя вочы,
Спяць бяссонныя месяцы,
Спяць сусветныя жахі
Ва ўпакоўцы сталёвай...

Не будзіце іх, людзі!



1. Выкажыце свае пачуцці, выкліканыя вершам.
2. Якія перажыванні і роздумы перадаў паэт у вершы?
3. Раскрыйце сэнс метафар: *Спяць у снарадах... пажары... чалавечыя крыкі...*
4. У якіх радках твора адчуваецца рытмічнасць мовы? Зачытайце гэтыя радкі.

МАКСІМ ТАНК

## Дрэвы паміраюць...

...Дрэвы паміраюць,
Калі перастаюць пазнаваць
Змены года
І не адгукаюцца рэхам;

Вада — калі забывае,
Куды ёй плыць,
І нікому не спатольвае смагі;

Зямля — калі перастае
Радзіць хлеб
І быць калыскай песняў;

Чалавек — калі страчвае здольнасць
Здзіўляцца і захапляцца
Жыццём.



1. Пра што гаворыць гэты верш? Якія думкі і пачуцці хацеў абудзіць у нас паэт?
2. Што адбываецца з жывой прыродай? З дрэвамі? — Чуйныя яны, ці не так?
   З вадою? — Служыць яна некаму, ратуе?
   З зямлёю? — Яна творыць жыццё?
   З чалавекам? — Ці можна сцвярджаць, што ён шчаслівы, таму што любіць жыццё і ўсё на зямлі?
3. Вызначце ролю падтэксту ў вершы. (Звярніцеся яшчэ раз да артыкула «Падтэкст у паэтычным творы».)
4. Ці можна сцвярджаць, што верш, нават калі ён не мае строгага рытму і рыфмы, вызначаецца гранічнай сцісласцю ў выказванні

думкі, шырокім ужываннем метафарычных (г. зн. паэтычна-ўмоўных) выразаў, часта афарыстычных, кароткіх, але глыбокіх і яркіх па форме? Абгрунтуйце гэту думку.
5. Абапіраючыся на змест і форму твора, дайце да яго каментарый, вызначце асноўныя прыкметы свабоднага верша: філасафічнасць выказванняў, гранічную сцісласць мовы, яе афарыстычнасць, выразнасць, падзел тэксту на кароткія адрэзкі-радкі без строгага рытму і рыфмы. Пацвердзіце гэта спасылкамі на тэкст.
6. Прачытайце яшчэ раз гэты твор выразна (звярніце ўвагу на тое, што яго тэкст складаецца толькі з аднаго разгорнутага сказа).
7. Параўнайце верш Я. Сіпакова «Спяць у снарадах...» з вершам М. Танка «Дрэвы паміраюць...». Чым яны падобныя?

## АЛЕСЬ РАЗАНАЎ

* * *

У парку,
ля раўчука,
ляжалі тры валуны.
Пафарбавалі іх сёлета
ў сіні колер —
і тысячагоддзі памерлі.



1. У чым выявілася арыгінальнасць гэтага твора? Ці адчулі вы кантраст першай фразы (тры радкі) і апошняга радка?
2. Чаму *тысячагоддзі памерлі*? У якія далячыні сягае думка паэта? Чаго яму шкада?

**3.** Падумайце, якую думку-ідэю выказвае аўтар у творы.

**4.** Знайдзіце радкі, у якіх за словамі крыецца нейкі схаваны, нявыказаны прама сэнс — падтэкст.

**5.** Прачытайце твор спачатку як звычайны тэкст, а потым — як верш, выдзяляючы кожны радок. У якім выпадку ён робіць на вас большае ўражанне?

## Пытанні да раздзела

**1.** Прыгадайце з прачытаных раней твораў тыя, што напісаны празаічнай мовай, але ў асобных сваіх частках вельмі эмацыянальныя, задушэўныя, узнёслыя, паэтычныя.

**2.** Што такое свабодны верш? Чым ён адрозніваецца ад звычайнага верша? Прывядзіце прыклады.



# МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА І НАВУКА

## На сумежжы з навукай

Калі мы гаворым пра літаратуру, звычайна маем на ўвазе мастацкія творы — вершы, апавяданні. Аднак літаратура ёсць і іншая. Матэрыялы, што друкуюцца ў газетах, — таксама літаратура. Прычым надзвычай важная для людзей.

Да мастацкіх твораў мы звяртаемся не кожны дзень. Але, мабыць, няма такога чалавека, які б не зазірнуў у газету, не слухаў радыё, не глядзеў перадачы тэлебачання. У кожнага ёсць такая патрэба — ведаць, што адбываецца ў свеце, чым жывуць краіна, людзі.

Гэту патрэбу задавальняе ***публіцыстыка*** — асаблівы від літаратуры, які ў паказе жыцця грунтуецца не на фантазіі, а на адлюстраванні сапраўдных, рэальных падзей і фактаў. І віды твораў у публіцыстыцы свае — артыкул, рэпартаж, нарыс, фельетон.

Такую ролю нярэдка выконвае і мастацкая літаратура, звяртаючыся ў сваіх творах да вострых праблем грамадска-палітычнага жыцця.

З другога боку, і публіцыстыка шырока выкарыстоўвае сродкі і прыёмы мастацкай літаратуры: метафары, параўнанні, эпітэты, маляўнічыя апісанні, партрэты людзей, гумар, сатыру.

Паміж мастацкай літаратурай і публіцыстыкай няма рэзкага размежавання (як паміж паэзіяй і прозай). Але розніца істотная. Мастацкія прыёмы і сродкі ў публіцыстыцы адыгрываюць дапаможную ролю. Галоўная мэта публіцыстычных твораў заключаецца не ў стварэнні мастацкіх вобразаў і карцін, а ў разглядзе і грамадскай ацэнцы жыццёвых з'яў. У гэтым публіцыстыка збліжаецца з навукай, у прыватнасці з такімі яе галінамі, як грамадазнаўства, гісторыя.

Да публіцыстычнай літаратуры паводле сваіх асаблівасцей блізкая ***дакументальная проза***. Гэта творы пра падзеі, якія сапраўды адбываліся ў жыцці, апісанні жыцця знакамітых людзей — нарысы, успаміны (мемуары), біяграфіі, аўтабіяграфіі, дзённікі, у якіх самі аўтары занатоўваюць свае думкі, уражанні, перажыванні.



**1.** Што такое публіцыстыка? Чым яна адрозніваецца ад мастацкай літаратуры?

**2.** Што такое дакументальная проза? Чым яна падобная да мастацкіх твораў і чым адрозніваецца ад іх? Якія віды дакументальных твораў вы ведаеце?

**3.** Прыгадайце, што вам даводзілася чытаць з успамінаў пра выдатных гістарычных асоб, дзеячаў навукі, культуры, мастацтва.

ЦЁТКА

## Шануйце роднае слова!

Роднае слова!

З малых дзён чуем мы цябе з матчыных вуснаў. Ты нам тлумачыш усе дзівы свету, якія дзіцячае вока бачыць навокал сябе першы раз. І табе выказваем мы свой дзіцячы жаль, крыўду, жаданне, радасць...

Што можа быць даражэй сэрцу чалавека, як у сталых гадах пачуць цябе, роднае слова, у чужой старане? Здаецца, быццам з далёкай чужыны пераносіш ты нас у родны край — родную вёску, дзе мы ўзраслі, дзе першыя думкі складалі, дзе гора і радасць першы раз спазналі...

Чаму ж, роднае слова, гэтак часта забываюць цябе людзі — нават тут, між сваімі? Чаму сыны нашага народа так лёгка адракаюцца ад матчынай гутаркі?

Кажуць: бо цёмны нашы беларусы. Але гэта няпраўда: забываюць родную мову, адракаюцца бацькоў і братоў сваіх найбольш тыя, хто дайшоў навук, выйшаў у людзі. Яны няцёмны: яны пераймаюць чужое — дзеля карысці.

У сэрцы такіх людзей загасла любоў да свайго народа і роднай мовы. Дачэсная карысць, жаданне пашаны ў чужых, смешны гонар — усё гэта заняло месца ў апусцеўшай іх душы. А за іх прыкладам і наша вясковая моладзь, наламываючы сябе, пачынае праз несвядомасць цурацца таго, што яе выдзяляе з паміж іншых народаў, пачынае глядзець на ўсё сваё, роднае, чужымі вачыма, думаючы, быццам гэта добра, калі людзі «вышэйшых станаў» так робяць...

Бедны той, хто, апрача грошай, апрача багацця, каторае пры першым няшчасці счэзне дазвання, не мае скарбаў вечных — скарбаў душы. Такі скарб, каторы ніхто і ніколі адабраць ад нас не здолее, гэта любоў да Бацькаўшчыны, да свайго народа, да роднай мовы, — гэта вялікае мілаванне чалавека — слабага, пакрыўджанага.

Яркім полымем гарыць такая любоў у душы, саграваеяе, асвятляе дарогу ў жыцці. Хто любіць свой народ, хто ў кожным бачыць брата-чалавека, той не сагнецца перад крыўдай, перад здзекам: ён бачыць навакол сябе мільёны падобных сабе, і яго думкі, яго жаданні зліваюцца з думкамі і жаданнямі вялікай людской грамады. Такі чалавек ніколі не будзе адзін — самотны і пакінуты.

Але поруч з любоўю да сваіх братоў патрэбна яшчэ нешта, што злучае людзей у суцэльны народ, — гэта родная мова.

Яна, быццам цэмент, звязвае людзей. Яна дае ім найлепшы спосаб разумець адзін аднаго, адной думкай жыць, адной долі шукаць. Хто адрокся мовы бацькоў сваіх, хто ўздзеў чужую апратку — той адышоў ад народа далёка-далёка. Ён чужы ў роднай вёсцы, у сваёй сям'і. І на яго браты глядзяць, як на чужынца...

Да нашай моладзі звяртаемся мы з гэтымі словамі. Вы маладыя, найчасцей пападаеце між чужых людзей, што вашай мовы не шануюць, «простай», «мужыцкай» завуць. З вас часта насміхаюцца, калі гаворыце па-свойму. І вы, чуючы гэта, пачынаеце саромецца матчынай мовы, свайго народа, сваёй радні. Так разрываецца тая жывая сувязь, што злучае вас з беларускім народам. Аб ім вы забываеце. Чужых багоў прымаеце: чужую гутарку, звычаі, чужое імя.

Быў у нас пясняр, што ў час спячкі народнай першы адважыўся клікаць беларусаў, каб шанавалі мову бацькоў і дзедаў сваіх. «Не кідайце мовы сваёй, каб не ўмёрлі», — пісаў Мацей Бурачок да беларусаў. І гэты вокліч збудзіў прыспаныя сэрцы. Народ прачнуўся. Ён пазнаў, хто ён. Родная мова яго — загнаная, пагарджаная — паднялася высока і стае ўжо поруч з «панскімі» мовамі. І здабывае пашану ў людзей: людзі бачаць, што мы яе шануем, што яна для нас мае вялікую цану, — ды самі пачынаюць інакш глядзець і на нас, і на яе.

На вас — моладзі — ляжыць вялікая павіннасць: развіваць далей родную мову, узбагачаць свой народ знаннем і культурай. Вы здабываеце навуку для сябе, дык дзяліцеся ёю з тымі, хто для вас цяжкай працай здабывае кусок хлеба. Толькі не кідайце роднай мовы: бо запраўды для свайго народа тады вы ўмёрлі!

Мейце сілу і адвагу дзяржацца роднага слова. Мейце смеласць усюды голасна казаць па-свойму. І, гледзячы на вас, асмеляцца і іншыя, зразумеюць, што шчырае сэрца беларускае б’ецца не толькі пад мужыцкай сярмягай, паверацць ва ўласныя сілы свае і пойдуць цвёрдай ступой да лепшай будучыні, да ясных зор шчасця народнага.

*1912*

?

**1.** Што так хвалюе аўтара артыкула «Шануйце роднае слова!», да чаго Цётка заклікае беларускую моладзь?

**2.** Ці з’яўляецца праблема, узнятая пісьменніцай у творы, актуальнай і сёння? Выкажыце свае адносіны да роднай мовы.

3. Якія прыёмы і сродкі мастацкай мовы выкарыстоўваюцца ў гэтым творы? Прывядзіце прыклады.
4. Для чаго выкарыстоўваюцца гэтыя сродкі: каб стварыць маляўнічую карціну жыцця, больш пераканаўча выказаць думку, абудзіць пачуцці ў чытачоў?
5. Ці можна аднесці гэты твор да мастацкай літаратуры? Калі не да мастацкай, то да якой?
6. Якія яшчэ творы, падобныя да гэтага, вы чыталі ў газетах або часопісах?

УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ

## Зямля пад белымі крыламі

### Нарыс[1]

*(Скарочана)*

Зараз вясна. Над усёй нашай краінай, наставіўшы белыя ветразі крылаў, плануюць буслы. Іх многія і многія тысячы — хто лічыў? На вільчыках сялянскіх хат, на дрэвах, на калонах ста-

[1] *На́рыс* — такое агульнае вызначэнне жанру гэтага твора даў аўтар. Калі больш дакладна, «Зямля пад белымі крыламі» — цыкл мастацка-этнаграфічных нарысаў пра сваю зямлю і свой народ, г. зн. шэраг твораў, якія спалучаюць у сабе адзнакі і мастацкай літаратуры, і навукі — этнаграфіі. *Этнагра́фія* — гэта народазнаўства, навука, якая вывучае паходжанне, рассяленне, жыццё і побыт, матэрыяльную (жыллё, прылады працы, прадметы хатняга ўжытку, адзенне, ежу і інш.) і духоўную (народная мастацкая творчасць, вераванні, традыцыі, абрады, звычаі, норавы, сямейны побыт) культуру народа.

рых разбураных палацаў, на слупах капліц сярод маладога зялёнага жыта. Гнёзды паўсюль.

І таму мне здаецца, што ў гэтыя — і не толькі ў гэтыя — дні зямлю нашу, Беларусь, можна назваць «зямлёю пад белымі крыламі». І не здзіўляйцеся, дзяўчаты і хлопцы, на дзіўную назву кнігі, якая трапіла да вашых рук.

Да пэўнай ступені бусел — сімвал Беларусі. Вось так і плануюць, плануюць буслы. А мне пад іхні палёт асабліва добра думаецца пра Беларусь, нашу з вамі радзіму. І для вас я і хачу, наколькі хопіць маіх ведаў і здольнасцей, расказаць пра яе.

Я аб'ездзіў на Беларусі амаль усё. Няшмат засталося нават глухіх куткоў, дзе я не пабываў бы. Таму я насмельваюся сказаць, што ведаю сваю краіну і яе людзей. І менавіта таму, дарагія дзяўчаты і хлопцы, я стану гаварыць з вамі толькі аб тым, што сам бачыў і чуў. Гэта будзе кніга, напісаная сведкам, які многае (што датычыць сучаснасці) бачыў на ўласныя вочы. І я дужа хацеў бы, каб вы мне верылі, нават калі я стану вам расказваць самыя незвычайныя рэчы. Таму што жыццё багацейшае, чым мы яго ўяўляем. Жыццё часам бывае настолькі падобнае на казку, што нельга не ўскрыкнуць: «Ды не можа гэтага быць!»

## Зямля мая беларуская

### Вёска, о родная вёска мая!

Дык вось, вёска. Яна не такая, як на Украіне або на Доне. Там не рэдкасць вёскі ў 200—300—1000 двароў. У нас 20—30 двароў — гэта ўжо вёска. Мала таго, на захадзе яшчэ й дагэтуль до-

сыць многа хутароў... Ёсць, праўда, і вялікія вёскі, двароў на 1500, такія як Рубель на Століншчыне. Але іх мала, напэўна, некалькі соцень, не больш.

За выключэннем некаторых раёнаў Палесся, беларускую хату ніколі не беляць знадворку, толькі ўнутры. Але старая беларуская вёска тым не менш, прайграючы ў весялосці знешняга выгляду перад вёскай, скажам, карпацкай або малдаўскай, мае нейкі дужа мілы, задумлівы і паэтычны каларыт, дзякуючы прысадам вялікіх дрэў на вуліцах і ў завулках, векавым дубам на сядзібах, вялізным дзічкам на былых межах, садкам і, урэшце, таму, што калі не адразу за хатамі, то хаця б на гарызонце, амаль абавязкова відаць лясы ці пералескі, што калі не тут жа, то непадалёку — рака, рачулка ці возера. Шмат зяляніны, шмат вады, шмат неба над галавою.

У нас хату часта будуюць талакою, з тоўстых і смалістых сасновых бярвенняў. Таму што лесу ўсё яшчэ многа. Па той самай прычыне амаль няма глінабітнай падлогі, а ёсць падлога з дошак. Столь, вядома, таксама дошкавая, зверху, на гары, на яе насыпаецца пілавінне, для цеплыні. Стрэхі раней былі саламяныя або, на поўдні, з чароту, які даўжэй служыць. Таму даўжэй, што, калі страху растрэплюць вятры і дажджы, чарот можна зняць і зноў перакрыць ім хату. І так два-тры разы. Але і тады часта сустракаліся «шчапяныя» дахі. Цяпер гонтавы[1] дах бывае на хаце часцей за ўсё. За ім ідзе шыфер. Чарапіца сустракаецца досыць рэдка. Дахі двухскатныя.

---

[1] *Го́нта* — дахавы матэрыял у форме невялікіх дошчачак, востра заструганых з аднаго боку і з пазам — з другога.

Хата заўсёды будуецца вокнамі на вуліцу, уваход калісь быў, у пераважнай большасці выпадкаў, з двара, а цяпер усё часцей з вуліцы. Франтон[1] часта аздабляецца разьбою. На Давыд-Гарадоччыне, напрыклад, на ўсіх хатах знак сонца і расліны вакол яго. Разьба і навокал акон і на аканіцах. Не ўсюды, але часта. Раней хату абкружала прызба, цяпер хаты, вядома, на фундаментах.

Для прыкладу апішу некалькі вёсак. Спачатку хутар. Расолы Астравецкага раёна на Гродзеншчыне.

Да бліжэйшай станцыі Гудагай некалькі кіламетраў лесам, палямі, пералескамі. Паўсюль раскіданы грады ўзгоркаў, а на іх — сіні зубчасты лес. Між градаў — палі канюшыны, залатыя лапікі стральчастага лубіну. Праз густыя зарасці чорнай вольхі бяжыць вясёлая і чысцюткая, на дзве трэці зацененая дрэвамі рачулка Лоша. «Лоша» па-літоўску — «стронга»[2]. І стронга сапраўды водзіцца тут. На беразе рэчкі прыткнуліся наводдаль адна ад адной некалькі спраўных хат са студнямі, пунямі[3] і адрынамі[4], у якіх так добра спаць на сене. Крыху далей, у звіліне Лошы, векавыя дрэвы былога фальварка. Ад дома засталіся толькі прыступкі ганка, якія вядуць у нікуды. А ля дарогі высачэзны крыж з неашкуранага, крывога дубовага ствала

---

[1] *Франто́н* — трохвугольная або цыркульная верхняя частка фасада будынка, абмежаваная схіламі даху і карнізаў.

[2] *Стро́нга* — рыба сямейства ласосевых.

[3] *Пу́ня* — вялікая халодная будыніна для захоўвання сена; адрына.

[4] *Адры́на* — тое ж, што і пуня.

з гэткай жа папярочынай. Кажуць, што крыж пастаўлены былой гаспадыняй фальварка ў памяць аб павешаным правадыры паўстання 1863—1864 гг. Каліноўскім, якога яна кахала.

Другі край рэспублікі. Паўдзённы. Лахва Лунінецкага раёна Брэсцкай вобласці. Рака з непрыгожаю назваю Смердзь ёсць, аднак, адна з найпрыгажэйшых рэчак, якія мне даводзілася бачыць у маім жыцці. Недзе кіламетраў за дзесяць да ўпадзення ў Прыпяць рака пачынае драбіцца на рукавы. Атрымоўваецца некалькі астравоў, злучаных драўлянымі мастамі. На гэтых астравах — хаты, што патанаюць у садах. Вада рукавоў цёмна-зялёная, з сонечнымі плямамі, бо над імі вербы ўтвараюць суцэльныя тунэлі. І ў гэтых тунэлях, у імгле, — цэлыя чароды чаўноў. Тут цудоўныя новыя пабудовы. У прыватнасці, школа. І нібы вакол мала вады, тут яшчэ і шмат сажалак, дзе разводзяць карпаў.

Той самы поўдзень, але Мазыршчына. Вёска Данілегі. Гэта адна з тых мясцін, дзе жыхары яшчэ носяць па нядзелях і святах старадаўнюю народную вопратку. Хаты, выцягнутыя ў два рады, так густа абраслі дрэвамі, што здаюцца пагружанымі на дно глыбокага зялёнага возера. Некаторыя з іх пабелены і знадворку. Часам — крытыя трысцём. Вокны абведзены сінім. Наваколле — дрымучыя лясы. Трапляюцца дубровы па 400—500 год. Гэта менавіта тут стаіць у атачэнні шасцісотгадовых дубоў — «дуб Крывашапкі», «цар-дуб», «дрэва вечнасці» — вось колькі ў яго назваў. Яму тысяча гадоў. Разменьвае другую тысячу. Немцы хацелі спілаваць яго і вывезці ў Германію, але партызаны

паставілі варту. Не ведаю, ці трэба было. Немцам усё адно гэта не ўдалося б. З якою тэхнікай падступіцца да дрэва таўшчынёю з вялікі пакой?!

Возера Свіцязь, апетае Міцкевічам. Вялікі, амаль правільны круг, з усіх бакоў зарослы дужа старымі дубамі. Вада тут такая, што, калі нават проста выкупацца — валасы рыпяць дні два. У наваколлі яго тры досыць тыповыя вёскі. Міратычы, што працягнуліся доўгай паласою харошых хат. Тут захавалася даўно зачыненая чатырохсотгадовая драўляная цэркаўка з тыпу «патаемных». Назнарок малая, назнарок у гушчары, каб на час навалы і вайны не знайшлі. Яна славутая цудоўнай народнай разьбою.

Варонча. Вёска амаль гарадскога тыпу. Тут некалькі прадпрыемстваў. Але і гэта — вёска-музей. Тут, над запруджанай рачулкай, у гушчары, стаяў — а можа, і цяпер стаіць — васьмісотгадовы дуб, звязаны з імем Міцкевіча. Унутры — дупло, у якім могуць паснедаць вакол стала чалавек дзесяць. Нават акенца ёсць, на другі бок. Можна высунуць галаву і глядзець проста з дрэва, як лясны дух. Наводдаль — руіны дужа даўняга касцёла і могілкі з цудоўнымі помнікамі з італьянскага мармуру. Тут пахаваны бацькі польска-беларускага паэта і фальклярыста Яна Чачота, блізкага сябра Адама Міцкевіча, а таксама — Верашчакі, сваяка Марылі Верашчакі, першага кахання паэта. Маёнтак Верашчакаў, Туганавічы, быў некалі побач. На яго месцы застаўся парк і «альтанка Марылі», некалькі ліп, пасаджаных кругам. Яны так зрасліся, што каб адна не ўпала — унутр гэтага драўлянага круга нельга было б трапіць.

Як бачыце, амаль у кожнай беларускай вёсцы ёсць што паглядзець. Толькі трэба ведаць, што глядзець.

## Просім у хату, госцейкі нашы!

Але зойдзем у хату, якой яна была яшчэ не так даўно, а часам сустракаецца і зараз. Спачатку трапляем у сенцы. Яны і зараз служаць для гаспадарчых мэт. Тут вёдры, цэбры[1] з рознай рознасцю, маслабойкі (цяпер часта сепаратар) і г. д. Дзверы насупраць вядуць у камору, дзе таксама рэчы для гаспадаркі і на паліцах розныя прыпасы. Другія дзверы вядуць у халодныя пакоі. Іх адзін ці два. Раней гаспадыня ўлетку выносіла сюды кросны, ткацкі станок, бо ў самой хаце горача. Тут жа ўлетку спалі старэйшыя (для маладых служыла і служыць адрына з сенам). Тут узімку ляжаць на аўсянай саломе яблыкі, рассыпаныя тоўстым пластам жалуды для свіней, іншыя прыпасы. Раней зрэдку, а цяпер досыць часта, у халоднай палове ёсць і грубка, так што пры выпадку (наезд гасцей ці яшчэ нешта) можна размясціць процьму людзей. У мінулым стагоддзі, калі шафаў, вядома, не было, а ў куфры (скрыні) не ўсё змяшчалася, тут стаялі і «кублы»[2] з лішнім адзеннем і іншым дабром.

У некаторых хатах да халоднай паловы была прыбудова, у якой спалі ў зусім нясцерпную спёку

---

[1] *Цэ́бар* — шырокая круглая драўляная пасудзіна з клёпак з двума вушкамі.

[2] *Ку́бел* — дзежка з вушкамі і векам, звычайна для захоўвання прадуктаў і рэчаў.

тыя, хто не хацеў ісці проста ў садок, пад дрэвы. Часам яе можна ўбачыць і зараз. Я аглядаў некалькі такіх, і «абстаноўка» іх заўсёды была аднолькавая: нізкая, дужа шырокая і доўгая «скрыня» на ножках, у ёй сяннік, набіты сенам, мякенькай аўсянай саломай ці гарахавіннем, радно, падушкі і полаг. Абавязкова. Ад камароў. Зроблены з радзіны, падобнай на марлю.

Вернемся ў сенцы. Ага, мы забылі яшчэ вось што. Лесвіцу, «драбіны», або проста бервяно з засечкамі, якое вядзе на гару, дзе вісяць шынкі і летнія каўбасы (зімнія каўбасы, залітыя салам, і само сала — у дзежках і гарлачах; у сенцах ці ў каморы).

Цяпер — у хату. Выгляд яе для кожнай мясцовасці быў розны. У даўніну бывалі хаты з комінам (цяпер комінам завецца пячны дымаход), плеценым і абмазаным глінаю конусам, пад якім на жароўні ці ў свечніку гарэла лучына, а дым ішоў комінам праз столь і страху. Бывалі хаты з вялізным, таксама абмазаным, каўпаком ля ачага, дзе ў зімнія ночы (там было цяплей) збіралася прасці і майстраваць уся сям'я. Ды і ў розных мясцовасцях хаты былі розныя. На два пакоі (трысцен і ўласна хата), на два пакоі з прыбудовамі і г. д. Але найбольш тыповы выгляд быў такі. З трысцена, дзе елі летам і, хто хацеў, спалі зімой і куды ўзімку бралі маладняк быдла, быў уваход у хату. Ля ўвахода, справа, мыцельнік, месца для мыцця посуду і кухонных рэчаў. Пасля печ. За печчу, па правай сцяне пол (нары). Пад полам складалі розныя рэчы. Але ўжо тады замест пола часта сталі шырокія ложкі, адзін з завескаю, для гаспадара.

Уздоўж астатніх дзвюх сцен ішлі шырокія лавы, часам з тканымі налаўнікамі. На іх сядзелі і ноччу маглі спаць, асабліва калі бывалі госці.

Перад лаўкамі — стол. Заўсёды дужа белы, бо яго часта скрэблі нажом. Стол і лаўкі часцей за ўсё былі з тоўстых дубовых дошак. Ля той сценкі, дзе дзверы, стаялі куфры і — узімку — гаспадыніны кросны.

З упрыгожанняў былі абразы на покуце. Бывалі сярод іх і лубачныя[1], але здараліся й дужа цікавыя. Ці старажытныя, ці наіўныя, уніяцкіх яшчэ часоў, дзе святыя былі ў беларускіх народных вопратках. Асаблівым поспехам карыстаўся святы Юры, які забівае дракона, і святы Мікола за сваё сялянскае паходжанне і за тое, што (па беларускай легендзе) аднойчы ўратаваў адзіную кабылку беднага мужыка, якая заблукала ў лесе. Не даў раздзерці ваўкам і памог ажарабіцца, а пасля прывёў гаспадару. Згодна павер'ю, калі жарабятка падрасце, то на ім паедзе той, хто дасць волю народу.

І яшчэ адно ўпрыгожанне — тканыя посцілкі (у шашачкі, у шэсць, дванаццаць і дваццаць чатыры ніты і інш.).

І, вядома ж, ручнікі. Мноства. Раней вакол абразоў і акон. Цяпер каля карцін і партрэтаў. Ручнікі ў нас на Беларусі таксама розныя, па мясцовасці, і дужа разнастайныя. Узоры іншыя, чым у суседзяў, хаця ёсць і падобныя. Галоўная розніца —

---

[1] *Лу́бачныя абразы́* — абразы, надрукаваныя з лубка́ (ліпавай дошкі, на якой даўней гравіравалася карціна для друкавання). Надрукаваныя з такой дошкі абразы вызначаліся прастатой і даступнасцю вобразаў.

менш «раслін і кветак». Арнамент часцей геаметрычны. Меней чорнага колеру. Пераважае «вясёлка», жоўты, чырвоны, сіні, блакітны і іншыя такія колеры.

Ну вось. А цяпер паколькі я кепскаваты танцор, то пайду танцаваць ад печы. Печ — гэта цеплыня. Печ — гэта здароўе застуджанаму. Печ — гэта і гарачая, смачная ежа. На поўначы печ дужа вялікая і простая, хіба што з «пячуркамі» для запалак і лучыны на распал. Затое на поўдні яна меншая і часам нагадвае архітэктурную спаруду. Дзясяткі выступаў і ніш, у якіх гліняныя збанкі, ліверы (пасудзінка з дзвюма дзірачкамі, «цякло, бы з лівера, з вачэй»). Тут ёсць дзе ўстанавіць спарыш (два гаршкі, злучаныя ручкай, каб насіць на поле абед), паставіць і «ўдаву» — гаршчок, падобны на абаранак. Печ уся распісана кветкамі, дзяўчаткамі з каромысламі і коннікамі — улюбёны матыў. Зараз у наш час печ выцясняецца плітамі і плітамі газавымі, але пакуль ёсць у многіх хатах.

Дзе печ, там і тое, што з печы.

### Хлеб і да хлеба

Беларус любіць смачна паесці.

На куццю на стол ставілася 12, 18, а то і 24 стравы. І ўсё гэта трэба пакаштаваць. Некаторыя са страў я апішу. Не сказаць, каб усё гэта заўсёды стаяла на стале, але гэта стравы нацыянальнай кухні.

Перш за ўсё страва інтэрнацыянальная. Аснова ўсяго. Хлеб. Пшанічны, як на поўдні, у нас пякуць рэдка. Беларус любіць чорны хлеб і сумуе па ім,

трапіўшы туды, дзе яго няма. Так што хлеб у нас жытні, вельмі духмяны. Пякуць яго на паду, на капусных або кляновых лісцях, а пасля, спырснуты вадою, астывае хлеб пад ручніком, напаўняючы хату найлепшым у свеце пахам. Няма нічога смачней, як адрэзаць гарачую лусту, густа пасаліць яе і з'есці.

Дарэчы, ад хлеба і вылячэнне. У незапамятныя часы беларус заўважыў, што плесня, якая ўтвараецца ў дзежцы на рошчыне летам — у гарачую пару, калі хлеб не пякуць, — загойвае нават раны, ад якіх вось-вось пачнецца гангрэна. Колькі трэба было ісці чалавецтву, пакуль яно вынайшла пеніцылін!

Улетку, калі дарагая хвіліна, елі праснакі (прэсны хлеб) і цацні. Да белага ставіліся ў даўніну крыху недаверліва, «нэндза[1] прымусіць калачы есці» (г. зн. не здолееў пракарміцца з зямлі, пайшоў у горад на заробкі — апошняя справа! — а там, ясна ж, калачы). Але пірагі заўсёды любілі. З яблыкамі і ўвогуле з садавінай, з чарніцамі, кручаны з макам (струцаль). Калі пяклі іх, то рэшткі цеста раздавалі дзецям, каб кожны спёк сабе хаця б па маленькай булачцы, сваёй. І, як паўсюль у славян, існаваў «зайцаў хлеб», што бацька прыносіць з лесу ці з дарогі.

Хлеб даставаўся цяжка. Кінуць яго быў смяротны грэх. Абраніўшы, трэба было падняць кавалак, пацалаваць і сказаць: «Даруй, Божухна». Хлеб абагаўлялі.

---

[1] *Нэ́ндза* — нельга.

на тым месцы, дзе суседзяць нашы землі, мы з табой пацалавалі святы крыж на вернасць і на дружбу.

— Добра, тэўтон, — згадзіўся Вячка. — Паехалі на тое месца. Няхай Бог памірыць нас.

— Не едзь, князь! — адразу ж закрычала некалькі вояў. — Не вер псам! Як сокала ў клетку, цябе заманяць, і складзеш галаву ў тэўтонскай цямніцы!

— Не едзь, князь Вячаслаў, — са слязамі на вачах папрасіў Халадок і схіліў калені перад Вячкам. Яго шырокая, абвітая кальчугай[1] спіна ўздрыгвала.

Вячка маўчаў, глядзеў на свой горад, на сваіх вояў. Потым спытаўся ў рыцара Данііла:

— Скажы, тэўтон, ці добры ваш Бог?

— Наш Бог добры, — з годнасцю адказаў Данііл. — За нас, рабоў сваіх, ён прыняў святыя раны.

Вочы ў Данііла былі вялікія, светлыя, з калючай іскрынкай.

Вячка паглядзеў у гэтыя вочы, загадаў Халадку:

— Няхай ойча Сцяпан вынесе з царквы святы крыж.

Прыйшоў заспаны поп Сцяпан з крыжам. Разгублена глядзеў на князя, на мечаносцаў.

— Ці можаш ты, рыцар, пацалаваць святы крыж і паклясціся святым імем, што мяне з маёй дачкой Соф'яй адразу ж адпусцяць назад пасля

---

[1] *Кальчу́га* — ваеннае абарончае адзенне, рубашка з металічных кольцаў.

таго, як на мяжы ўладанняў Рыгі і Кукейноса мы змацуем нашу дружбу і наша перамір'е? — спытаўся Вячка ў Данііла.

— Цалую крыж. Клянуся, — адказаў Данііл і пацалаваў крыж.

— Усе бачылі? Усе чулі? — гучна сказаў Вячка. — І неба таксама бачыла. І неба таксама чула. І Бог ведае пра ўсё. А вам, воі, — ён нізка пакланіўся, — дзякуй за клопат пра мяне. Усюды я быў, з сямі печаў хлеб еў, шмат што бачыў і з Божай дапамогаю думаю вярнуцца назад. Едзем.

Зрабілася так ціха, што было чутно, як вадзяныя кроплі падаюць на пясок. Гэта з дрэў, з дахаў скочвалася ранішняя раса. Вячка лёгка сеў на Печанега і, узяўшы з сабой трох вояў (першых, што трапіліся пад руку), узяўшы папа Сцяпана з крыжам, паехаў паперадзе мечаносцаў насустрач свайму лёсу. Ніхто з людзей — ні тыя, што калісьці жылі, ні тыя, што сёння жывуць, — не ведае свой лёс...

На беразе пагранічнай рачулкі злезлі з коней. Рыцар Данііл і князь Вячка апусціліся на калені. Кляліся зямлёй, вадой і крывёю. У вогнішча, якое хуценька расклалі мечаносцы, кінулі злепленыя з зямлі невялікія шары.

Перад гэтым поп Сцяпан кароценькім кордам[1] зрабіў надрэз на вялікім пальцы левай рукі ў князя і ў рыцара, кроплямі іхняй крыві расчырвоніў земляныя шары.

— Мір зямлі, вадзе і чалавечым душам, — сказаў Вячка.

---

[1] *Корд* — завостраны металічны стрыжань.

— Мір зямлі, вадзе і чалавечым душам, — паўтарыў Данііл.

І ў гэты час граф Пірмонт з перакошаным ад нянавісці тварам схапіў загадзя падрыхтаваную вялікую палатняную торбу, у якую насыпаюць коням авёс, падбег да Вячкі ззаду, ускінуў яму на галаву торбу, рэзкім рыўком паваліў князя на спіну.

— Здрада! — закрычалі кукейноскія воі і адразу ж упалі пад мячамі тэўтонаў.

— Малайчына, граф, — сказаў Пірмонту Данііл, узнімаючыся з зямлі. — Лёгка ж мы з табой упалявалі гэткага звера.

Поп Сцяпан стаяў побач. Крыж дрыжаў у ягоных руках. Вочы заліваў халодны смяротны пот.

— Клятваадступнікі! — тонкім голасам закрычаў поп. — Ты цалаваў святы крыж! Бог пакарае, страшна пакарае цябе!

Ён замахнуўся крыжам, хацеў ударыць Данііла, але рыцар спрытным рухам заламаў яму руку, сказаў:

— Дзе ты бачыш святы крыж? Гэтыя дзве жалезкі, якія ты звязаў конскім воласам?

Ён наступіў нагою на крыж, усміхнуўся:

— Вось і ўсё. І няма твайго крыжа, дзікун. Ісцінны і адзіны крыж — у Рыме. Запомні гэта назаўсёды. А зараз я, рыцар Данііл, дарую табе жыццё. Ідзі, вяртайся ў свой Кукейнос.

І тут Данііл уздрыгнуў, міжволі зрабіў крок назад — на ягоных вачах доўгія цёмныя валасы айца Сцяпана зрабіліся белымі-белымі, як студзеньскі снег.

Вячка ляжаў з торбаю на галаве. Рукі і ногі ягоныя ўжо закоўвалі ў кайданы. Потым Данііл наступіў правай нагою князю на грудзі, урачыста абвясціў:

— Кароль Кукейноса, я, рыцар Данііл, аб'яўляю цябе сваім палоннікам.

«Як я мог паверыць ім? — думаў Вячка, лежачы з торбаю на галаве на зямлі, у той час як мечаносцы, смеючыся, падсілкоўваліся. — Пэўна, стаміўся я. Рашыў трошкі перадыхнуць, сабрацца з сіламі, заключыўшы перамір'е... Дапамогі з Полацка няма...»

У ланцугах яго везлі па той самай зямлі, дзе ён нядаўна з мячом у руцэ на хутканогім войскім кані імчаўся штурмаваць Гольм і Рыгу. «Чаму тут, на гэтых берагах, шмат бурштыну[1]? — падумаў раптам зняволены князь. — Гэта слёзы людзей, якія запякліся пад ветрам і сонцам».

Зноў дзяцінства прыгадалася яму. Успамінамі пра дзяцінства ахоўваў, адгароджваў ён сваю душу ад жорсткай скрухі і знявагі палону.

Любіў ускочыць на каня і, без сядла, імчаўся ў лугі, на лясныя паляны.

Змрок стукаўся ў грудзі. Кажаны віліся над галавою. Спалоханыя зайцы і казулі ратаваліся, хто як мог. Кіпеў над галавой нябесны блакіт. Уздрыгвала зямля. Чулася бушаванне ветру ў далёкіх лясах. А ён імчаўся, імчаўся...

Ён рос і пачынаў разумець сваю зямлю, свой край, людзей гэтага краю. Працавіты, мужны, цвёрды народ бачыў ён вакол сябе. Чалавек да чала-

---

[1] *Бурштын* — акамянелая смала хвойных дрэў; янтар.

века падбіраўся тут, як каменьчык да каменьчыка. Нязломнай сцяною ўставаў полацкі люд на шляху прыблудаў-тэўтонаў, хцівых ненажэрцаў, якія чорнымі вужакамі хацелі прапаўзці на Усход па берагах Дзвіны. І калі споўнілася Вячку шаснаццаць сонцаваротаў[1], пакляўся ён у Полацку, у святой Сафіі, што да апошняга дыхання будзе бараніць сваю зямлю.

У Рызе Вячку павезлі на епіскапскае падвор'е. Выйшлі з капэлы Альберт з Генрыхам, і Альберт, наліваючыся жорсткай чырванню, закрычаў кнехтам[2]:

— Раскаваць!

Падбег да князя, сам паспрабаваў зняць з яго ланцугі, але жалеза ёсць жалеза, і давялося чакаць каваля. Тоўсты нетаропкі каваль прыйшоў з усім сваім інструментам, выцер мяккім кулаком бліскучы ад поту лоб, ні разу не глянуўшы Вячку ў твар, раскаваў яго.

Кукейноскага князя павялі ў пакоі епіскапа. Вячка расціраў знямелыя ад халоднага жалеза рукі, у якіх, здавалася, спынілася кроў. Ён быў як у нейкім сне, ішоў, дыхаў, бачыў людзей і бачыў вінтавую лесвіцу перад сабою, бачыў высокія дзверы, на якіх былі выразаны крыжы і анёлы. Ён бачыў, як нямы служка епіскапа нялоўка спатыкнуўся на парозе, ледзьве не ўпаў, і епіскап так глянуў на служку, што той пабялеў, змізарнеў ростам.

Вячка сеў на мяккі пуф. Альберт, Генрых і тлумач Фрэдэрык стаялі насупраць. Свечак не палілі, бо яркае дзённае святло шырокімі струменямі

---

[1] *Сонцаваро́т* — мера часу, роўная аднаму году.
[2] *Кнехт* — тэўтонскі наёмны воін.

ўрывалася ў пакой праз вокны, зашклёныя каляровым венецыянскім шклом. Толькі там, дзе на глухой сцяне вісела распяцце Хрыста ў цярновым вянку, было змрачнавата, бо прамені сонца не даляталі датуль, расквечвалі бліскуча нацёртую воскам дубовую падлогу.

— Рыцар ДаніІл горш за язычніка, — сказаў епіскап. — Парушыў клятву, дадзеную на святым крыжы. Наш капітул[1] пакарае яго. Мы адбяром яго лен[2], які ўручыла яму рыжская царква.

Генрых і Фрэдэрык згодна кіўнулі галовамі. Вячка маўчаў.

— Кароль Кукейноса, пэўна, стаміўся? — падышоў да Вячкі Альберт і паклікаў: — Імануіл!

На парозе з'явіўся нямы служка.

— Дзе мая дачка? — глянуў у шэра-сталёвыя вочы епіскапу Вячка. Гэта былі першыя ягоныя словы за доўгі час палону.

— Няхай манашка Эльза прывядзе князёўну, — загадаў Альберт Імануілу.

Цяпер ужо Генрых адчуў, як падступае да сэрца нясцерпнае хваляванне. Хутка павінны былі прывесці Соф'ю. Як сустрэне яна бацьку? Як гляне на яго? Што скажа?

Больш года выкарчоўваў ён, Генрых, з дзіцячай няспелай душы валуны язычніцтва, святым словам здзіраў, выпальваў з яе каросту крывіцкай мовы.

Увялі Соф'ю. Манашка Эльза і абаціса[3] Марта стаялі побач з дзяўчынкай.

---

[1] *Капіту́л* — рада, нарада кіраўнікоў царквы.

[2] *Лен* — спадчыннае зямельнае ўладанне ў эпоху феадалізму.

[3] *Абаці́са* — кіраўніца каталіцкага кляштара, манастыра.

— Дочачка мая, — парывіста ўзняўся Вячка. Соф'я паглядзела на яго, потым на абацісу Марту, потым на Генрыха.

— Я твой бацька, — падышоў да яе, пагладзіў даччыны светлыя валасы Вячка. — Хіба ты не пазнала мяне? Хіба не помніш?

Ён з такой надзеяю, з такім болем пазіраў на дачку, што ў абацісы Марты нечакана павільгатнелі вочы. Генрых нешта шапнуў Соф'і, і маленькая князёўна, гледзячы паўз бацьку ў вузкае, асветленае жоўтым сонцам акно, сказала некалькі незразумелых слоў. Голас быў роўны і сухі, быццам драўляны.

— Што яна гаворыць? — разгублена глянуў на тэўтона Вячка.

— Князёўна Соф'я сказала, што яна дачка апостальскай рымскай царквы, — растлумачыў Фрэдэрык.

— Рымскай царквы? — здзівіўся, пабляднеў Вячка і аж зрабіў крок назад. — Але ж яна мая дачка. Мая! І княгіні-нябожчыцы Звеніславы. Можа, яна хворая? Соф'я, Соф'ечка! Я прыйшоў па цябе. Успомніла мяне? Успомніла Кукейнос?

Ён схапіў бледную і тонкую даччыну руку, пагладзіў яе, потым пацалаваў. Князёўна раптам заплакала, срэбныя ручайкі слёз густа і нястрымна пакаціліся з вачэй. Яна затрымцела ўсёй сваёй істотаю, сказала:

— Татачка, вось гэтая Эльза прымушае мяне гаварыць па-іхняму... Б'е мяне...

— Я скручу табе шыю, чорная сава! — ірвануўся Вячка да Эльзы.

Манашка з абацісаю, быццам бура іх падхапіла, вылецелі з епіскапскіх пакояў.

— Выведзіце князёўну! — закрычаў служкам Альберт і нават нагамі затупаў.

Тыя спалохана схапілі пад рукі Соф'ю, зніклі за дзвярамі. У пакоі наступіла цішыня, халодная, гняўлівая.

Другую сядміцу[1] быў Вячка ў Рызе... На Вялікдзень Альберт шчодра частаваў кукейноскага князя. Праз дзень да Вячкі прыводзілі дачку, але толькі на некалькі імгненняў і адразу ж зноў забіралі ў манастыр. Часцей сустракаўся з князем Генрых. Прыходзіў, шнураваў няспынна па пакоі, гаварыў пра любоў да бліжняга, пра вялікія міласці, якімі асыпае Бог сваіх верных сыноў. Вячка маўчаў.

«Як я мог паверыць ім?» — думаў Вячка бяссоннымі начамі.

Мінуў Вялікдзень, і Альберт, павёўшы свае войска на поўдзень ад Рыгі, прыгнаў у горад натоўп змардаваных палонных прусаў[2]. Гэта былі высокія светлавалосыя людзі з прамымі буйнаватымі насамі. Іх адразу ж прымусілі працаваць на будаўніцтве гарадской сцяны. Прусы пад наглядам латнікаў епіскапа капалі ямы, білі каменне, мясілі гліну, сплаўлялі па Дзвіне плыты. Адзін з прусаў упаў са сцяны і зламаў нагу. Нагу яму вылечылі, і Аль-

---

[1] *Сядмі́ца* — тыдзень, сем дзён.

[2] *Пру́сы* — балцкае племя, заваяванае крыжакамі.

берт прыставіў пруса як служку да палоннага кукейноскага князя.

Напачатку яны не разумелі адзін аднаго — палонны палачанін і палонны прус. Маўчалі, думалі кожны сваё. Але няволя збліжае самых розных людзей, і паступова яны адкрыліся адзін аднаму, і аказалася, што ў іхніх мовах нямала падобных слоў.

— Я жыў на беразе мора, — павольна, каб Вячка яго разумеў, гаварыў прус. — Імя маё табе, князь, ведаць не трэба. Заві мяне Прусам. У мяне была жонка Данутэ і трое дзяцей. Прыйшлі псы з Рыгі, і мая сям'я, як і ўсе нашы суседзі, схавалася ў зямной пячоры, пад каранямі свяшчэннага дуба. Але рыжскія псы каля ўвахода ў пячору расклалі велізарнае вогнішча, у якое кідалі яловыя лапкі, мухаморы, шышкі, мох... Дым забіў усіх. Я нават не ўбачыў трупы маіх дзяцей і маёй жонкі. Як я хачу адпомсціць тэўтонам!

— Я таксама хачу, Прус, — даверыўся Вячка. — Давай думаць разам, што нам рабіць.

— Добра, князь, — адразу ж згадзіўся Прус. — Мы не можам справіцца з тэўтонамі сілаю. Нас двое... Мы ў палоне... Толькі розум і хітрасць могуць нам памагчы. Хітрасці ж нам трэба вучыцца ў тэўтонаў.

Пасля гэтай размовы Вячка доўга не мог заснуць. Ён быў цалкам згодзен з прусам. Так, хітрасцю бяруць тэўтоны. А яшчэ бяруць сваёй дысцыплінай, арганізаванасцю.

Князь Вячка з кожным днём усё больш цішэў. Вочы памякчэлі, сцёрся з іх металічны халодны водсвет. Аднойчы князь нават папрасіўся паслу-

хаць месу[1], і святыя песні, відно было па ўсім, уразілі яго, ашаламілі. Некалькі дзён ён хадзіў задумлівы, ціхі, толькі слабая ўсмешка набягала зрэдзь часу на твар. Яму дазволілі адлучацца на падвор'е, і ён блукаў каля шэрых каменных сцен, разглядваў шчыліны ў сценах, мох, што вырас у гэтых шчылінах. Напаткаў лужок з аксамітна-зялёнай травою, сеў на траву, апусціў у яе рукі. Потым, азірнуўшыся наўкола — ці не цікуюць чужыя вочы, па самую шыю апусціў у траву галаву, нешта доўга нюхаў, да нечага прыслухоўваўся. І калі зноў узняў твар, на вачах былі слёзы.

«Ісцінны Бог уваходзіць у скамянелую душу», — думаў Генрых, які ўвесь час крадком сачыў за князем праз вузкае акно епіскапскай чытальні. Яго радавалі змены, што адбываліся з князем Кукейноса. Князь увачавідкі рабіўся спакойным, памяркоўным, ручным.

Калі скончыліся дзве сядміцы, Вячка папрасіў паклікаць епіскапа і аб'явіў Альберту, што аддае рыжскай царкве палову сваіх уладанняў, прымае ленныя сцягі[2] і гатоў пусціць у Кукейнос дойлідаў і рыцараў Альберта, каб узвялі яны каменны храм. Адразу сабралі капітул, на якім сам епіскап уручыў Вячку ленныя сцягі, абняў яго, пацалаваў, падарыў дзесяць баявых коней і дзесяць сталёвых рыцарскіх даспехаў. Вялікая радасць была ў Рызе...

Адслужылі месу, і Вячка, развітаўшыся з дачкою, Альбертам і Генрыхам, у суправаджэнні дваццаці рыцараў епіскапа накіраваўся ў Кукейнос.

---

[1] *Ме́са* — богаслужэнне.

[2] *Ле́нныя сцягі́* — знакі ўлады.

Над Рыгай бязважка плавалі маленькія пушыстыя воблачкі.

Усю дарогу князь маўчаў, нечаму ўсміхаўся, на прывалах часта і доўга маліўся. «Няўжо гэта той самы Вячка, адважны страшны князь, пра якога нам расказвалі столькі жахаў? — дзівіліся рыцары. — Ды гэта бяскрыўдны манашак, верабей, якога выпусцілі з клеткі». Некаторыя з рыцараў пачалі пазіраць на князя з пагардаю, пачалі кпіць з яго.

Радаснымі крыкамі сустрэў Кукейнос Вячку. Амаль усе воі і гараджане высыпалі на вал. Поп Сцяпан загадаў ударыць у звон. Але твары ў кукейносцаў спахмурнелі і пацямнелі, калі яны зблізку ўбачылі свайго князя. Не, гэта быў не іхні князь! Стомлены соннавокі чалавек сядзеў на запырсканым гразёю кані, абыякава і лена глядзеў на забаролы, на пад'ёмны мост, які апускалі перад ім.

— Падмянілі нам князя, — разгублена сказаў старшы дружыннік Халадок, бачачы, як цяжка, пастарэчаму злазіць Вячка з каня. — Ён жа птушкаю вылятаў з сядла.

— А можа, тэўтоны мухаморамі атруцілі князя? — ціха і спалохана спытаўся ў стрыя Якава Мірошка. У Гарэлай Весі, чуў Мірошка, нявестка атруціла свайго свёкра — цэлы сонцаварот падлівала яму ў ежу адвар з мухамораў.

Якаў і Мірошка глядзелі праз шчыліну ў забаролах, як павольна, быццам з неахвотаю, уз'ехаў князь на мост, як не ўзняў галаву, калі яго віталі кукейносцы. Здавалася, на шыі ў князя вісіць нябачны камень-жарнавік.

Якаў прыкусіў губу, задумліва пазіраў на князя, потым сказаў:

— Не мухаморамі атруцілі нашага князя, Мірошка. Навошта тэўтонам атручваць? Яны, каб захацелі, мячамі б яго засеклі. Горам-бядой князя атруцілі.

У гэты час перад гарадскімі варотамі паказалася княгіня Дабранега ў суправаджэнні чаляднiцы[1] Куліны. Якаў спусціўся з вала, праціснуўся праз натоўп кукейносцаў бліжэй да Куліны, бо вельмі падабалася яму русакосая чалядніца. Куліна ўбачыла яго, усміхнулася, радасцю ўспыхнулі смуглыя шчокі.

— Добры дзень, княжа, добры дзень, мой гаспадар, — схілілася ў паклоне, а потым пацалавала стрэмя Дабранега. — Добра, што прыляцеў, голуб ясны, на свой двор.

Усе змоўклі, чакалі, што адкажа князь. Усе прагнулі пачуць першыя словы, якія ён прамовіць на роднай зямлі ў час вяртання. Але Вячка нічога не сказаў, марудна злез з каня, падышоў да княгіні, тройчы пацалаваў яе і разам з ёю моўчкі пайшоў у свой церам.

Кукейносцаў гэта страшэнна ўразіла і пакрыўдзіла. З усіх бакоў толькі і чулася:

— Язык праглынуў князь у Рызе!

— Хвастом тэўтонскім зрабіўся!

— Моцнай бічоўкай прывязаў Вячку Альберт да свайго сядла!

Самыя нецярплівыя і гарачыя прапаноўвалі паслаць ганцоў у Полацк і Літву, каб хутчэй прысы-

---

[1] *Чаля́дніца* — жанчына з чэлядзі, прыслугі князя.

лалі дапамогу супраць тэўтонаў, бо на князя Вячку ўжо нельга спадзявацца.

— Заснуў наш князь, — з сумам і горыччу сказаў Клімята Аднарук Мірошку, калі ўсе дзеці, якіх ён вучыў, сабраліся на хорах у царкве. — Хто б мог падумаць? Але пойдзем, дзеці, далей у навучанні.

А князь Вячка і сапраўды спаў. Спаў ужо другі дзень. Заціх, як вымер, церам, чаляднiцы і халопы хадзілі на пальчыках, жука-бурчуна, які аднекуль з Дзвіны заляцеў раптоўна ў церам, лавілі вялікай гурбою і ў рэшце рэшт злавілі, хацелі раструшчыць, але дваровы хлопчык Анісім захныкаў і панёс яго з сабою, як жывую цацку.

Дзіўныя сны сніліся князю. То стаяў ён пасярод жытнёвага поля, якое дыбілася крутымі жоўтымі хвалямі, пакрываючы князя з галавой, і толькі васількі, як халодныя сінія зорачкі, зрэдку мільгалі ў гарачай жаўцізне. То ўзбіраўся на высокую старую ліпу, і чым вышэй залазіў, тым усё болей маладзейшай рабілася ліпа, а на самым версе, на самай макаўцы дрэва, ён убачыў цёмна-зялёны пяшчотны ліст, які павольна калыхаўся, уздрыгваў на тоненькай карычневай ножцы. Захацелася князю сарваць гэты ліст, каб адчуць пальцамі клейкую ліпкасць зеляніны, але загула, зашумела, чалавечым голасам закрычала старая ліпа: «Гэта мой сынок! Гэта мой сынок!», узмахнула ўсімі сваімі тоўстымі шурпатымі галінамі, напружылася ўсім маршчыністым ствалом і скінула князя-бедалагу на зямлю. Моцна стукнуўся ён аб карані і прачнуўся.

Ён ляжаў на мулкіх дошках свайго паходнага ложа і яшчэ адчуваў боль ад падзення. Ад удару

аб цвёрдыя карані. Ён узняў над сабою рукі, сціснуў іх у кулакі і чакаў са страхам, што не адчуе ранейшую сілу ў кулаках. Але сіла была, бурлівая, хмельная, ранейшая. Тады ён рыўком скінуў з сябе покрыва, пругка ўскочыў на ногі, падбег да акна глянуць, светла або цёмна на дварэ. Быў самы поўдзень. Сонца, як маленькая распаленая грыўня, стаяла высока-высока ў небе, і ягоныя прамені, як вострыя залатыя мячы, рассякалі згусцелы ад спёкі блакіт.

І Вячка засмяяўся. Ён смяяўся доўга, бязгучна. Было лёгка, было добра. «Я вярнуўся!» — крычаў у душы звонкі ярасны голас.

Маладой чалядніцы ён загадаў, каб паклікала княгіню Дабранегу. Неўзабаве ў спачывальню ўвайшла Дабранега, разгубленая, спалоханая. Вочы заплаканыя, і на шыі завязана чорная, прашытая залатой ніткай хусцінка.

Вячка пацалаваў княгіню, зняў з яе шыі чорную хусцінку, шпурнуў прэч, сказаў:

— Дзе мая кальчуга? Дзе меч Усяславаў?

— Ой, князь, — прашаптала Дабранега і ўся засвяцілася ад радасці.

— А ты думала, што ў Рызе я зрабіўся манахам? — прытуліў яе да гарачых моцных грудзей Вячка. — Кліч сюды Халадка. Толькі кліч, каб чужыя вочы не ўбачылі, каб чужыя вушы не пачулі.

Прыбег старшы дружыннік Халадок.

Вячка спыніў яго:

— Што рабілі тэўтоны?

— Учора пілі віно і задзіраліся з полацкімі купцамі.

— Што робяць сёння?

— Сякуць камень-плітняк за гарадскім валам, хочуць будаваць побач з тваім церамам крэпасць. Рыцар Готфрыд у іх старшы.

— Зброю ўзялі з сабой?

— Яны заўсёды ходзяць са зброяй. І п'юць, і робяць з мячамі на поясе. Але зараз горача — яны могуць распрануцца і быць без кальчуг і мячоў.

Выслухаўшы такія словы Халадка, Вячка павесялеў, сказаў:

— Прышлі да мяне двух спрытных, вёрткіх хлопцаў, трэба, каб яны ўпільнавалі, чым займаюцца тэўтоны, якая ў іх зброя.

Здавалася, майская бура ўляцела ў церам. Дружыннікі апранапі кальчугі, надзявалі шлемы, стараючыся рабіць як мага меней шуму, бралі шчыты, мячы, коп'і і лукі. Вячку прынеслі кальчугу, шлем і Усяславаў меч. Дабранега з паклонам падала цяжкі меч мужу, сказала:

— Будзь моцны душой і мячом, мой княжа. Святая Сафія глядзіць на цябе і чакае перамогі.

— Ты на мяне глядзіш, Дабранега, — сурова ўсміхнуўся Вячка. — Памру, але гонар палачан не аддам на знявагу. Добрая будзе валка[1].

Ён рашуча трасянуў мячом.

У гэты час убеглі ў апачывальню Якаў Палачанін і Мірошка, абодва ўспатнелыя, чырванашчокія.

— Тэўтоны камень сякуць у вялікай яме, — выдыхнуў Якаў, — мячы і кальчугі звалілі на край ямы. Мокрыя ад поту, як балотныя жабы.

— Рубон, — ціха сказаў Вячка і выцягнуў з похваў меч.

---

[1] *Ва́лка* — бойка, бітва.

— Рубон, — як парыў ветру, пранеслася па дружыне, што ўжо гуртавалася ва ўсіх пераходах церама.

Гарадскія вароты былі загадзя адчынены, і дружына Вячкі, не сцішваючы хады, знянацку атакавала тэўтонаў. Вячка бачыў белыя спалоханыя твары ворагаў. Храбусцела жарства пад нагамі. Пахла свежаўскапанай зямлёй. Біцца ў яме было цесна, не хапала размаху руцэ, і князь толькі калоў мячом. Некалькі тэўтонаў паспелі схапіць зброю і стараліся аддаць жыццё як мага даражэй. Яны былі голыя, беласкурыя, слізкія ад поту, як рыбіны. Пахла потам, і гэты ненавісны пах раз'ярыў Вячку. Ён закрычаў:

— Нікога не выпускайце з ямы! Сячыце ўсіх! Дачку Альберт мне ўсё роўна не аддасць. Табой ахвярую, дачка!

Дружыннікі з новай сілаю, з вялікай ярасцю рынуліся на тэўтонаў. Жменька ворагаў, што заставаліся яшчэ жывымі, была пасечана на шматкі.

Валка скончылася. Лясныя пчолы гулі над мёртвымі тэўтонамі. Чаіцы сумна крычалі на Дзвіне. Вячка з хмурасцю глядзеў на справу сваіх рук, спытаўся:

— Хто з нашых Богу душу аддаў?

— Дзецкага Грыкшу забілі, — адказалі яму.

— Добры быў вой. Прыгожа загінуў, — прамовіў Вячка. — Клічце айца Сцяпана і халопаў з церама. Трэба пахаваць усіх мёртвых.



1. Якое ўражанне зрабіў на вас урывак з рамана?
2. Ці ўдалося аўтару наблізіць нас да тых даўно мінулых часоў? Якім чынам?

**3.** Чым адрозніваецца мастацкі паказ падзей ад апісання іх у навуковай кнізе:

а) дзе адлюстраванне жыцця маляўнічае, зрокава-нагляднае, поўнае бытавых падрабязнасцей, дэталей? Дзе яно перадае толькі сутнасць таго, што адбылося?

б) ці мог пісьменнік ведаць пра гэтыя падрабязнасці? Калі не мог, то якім чынам ён усё гэта ўзнаўляе, паказвае? Якая тут роля фантазіі?

в) дзе апісанне падзей больш дакладнае — у навуковым творы ці ў мастацкім?

г) ці разыходзіцца мастацкі паказ з навуковым у выяўленні галоўнай сутнасці падзей, што адбыліся ў далёкім мінулым? У чым?

**4.** Дайце характарыстыку галоўным вобразам твора: князю Вячку і яго дружыннікам, з аднаго боку, і персанажам з лагера тэўтонаў (рыцар Данііл, граф Пірмонт, епіскап Альберт) — з другога.

**5.** Параўнайце, як характарызуюцца прадстаўнікі гэтых двух лагераў у навуковым творы — падручніку па гісторыі.

**6.** Якую ролю адыгрываюць пейзажныя замалёўкі, успаміны, сны князя ў стварэнні яго вобраза?

**7.** Якое значэнне ў творы мае вобраз дачкі князя Вячкі Соф’і? Як праз гэты вобраз характарызуецца князь Вячка — як чалавек, як бацька? На што разлічвалі тэўтоны, захапіўшы Соф’ю ў палон?

**8.** Прывядзіце прыклады архаізмаў і раскрыйце іх значэнне.

УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ

## Балада[1] пра Вячку, князя людзей простых

Як груганы на трупы з высокае гары,
Крыжакі наляцелі на вёскі і бары.
Няшчасная краіна тры доўгія гады
Нагбом хлябтала трунак[2] смярцей і злой бяды.
Цягнулі па кавалках яе ва ўсе бакі,
Загінулі героі, і здрадзілі князькі.
Агонь любові мужнай у брудных душах згас,
Адзін не здрадзіў Вячка, сумленны хлопскі князь.
Параненым і слабым яны яго ўзялі,
У кайданы ногі скулі і ў лагер прывялі.
Ад раны, непрытомны, ачнуўся ён тады,
Калі былі далёка айчыны гарады.
Меў сілы, каб змагацца і з сотняй варагоў,
Але шляхі да волі замкнулі для яго...
Па вуліцы смярдзючай, дзе скупчанасць і бруд,
Вядуць яго на плошчу. А там чакае суд.
А ў галаве чамусьці ўстае чырвоны снег,
Пажары чорных замкаў ў апошні іх набег...
Ў агні наперад з імі ляцелі бітвы дні,
Парчу і аксаміты таптатлі ў бруд яны.
За подзвігі у бітвах супроць крыжацкіх зграй,
За мужнасць і за гонар трымай адказ, трымай!

---

[1] *Бала́да* — сюжэтны твор гераічнага легендарнага зместу, часта з элементамі фантастыкі ў сюжэце.

[2] *Тру́нак* — тут: атрутнае пітво.

Тут, як на браме пекла, магла б пісаць рука:
«Пакіньце спадзяванні — адсюль выводзіць кат».
Але сканаць пакорным і мяккім, быццам пух,
Як бык дурны на бойні, папаўшы пад абух?
І просіць перад стратай ён путы развязаць,
Каб рукі на імгненне замлелыя размяць.
І ў гэты час апошні перад канцом сваім
Каня яму прывесці, каб развітацца з ім:
«Са мною разам зносіў ён дождж і халады,
Насіў мяне на бітву тры доўгія гады,
Таптаў нагамі лона сталочанай зямлі».
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
І вось каня на плошчу два кнехты прывялі.
І Вячка грыву гладзіць, цалуе ў мяккі нос
І кажа, кажа сябру пра свой жахлівы лёс:
«Мой конь, мой конь, мой любы.
Як будзеш жыць цяпер?
Канец лясной свабодзе, мой добры, моцны звер.
Ты грэбаваў зямлёю, што слалася ў нагах;
Няўжо насіць ты будзеш чужога, варага?
Якому не пасуе і назва: «чалавек»,
Ў якога твар, як пятка, не чырванее век.
Не роднае, чужое ўсё нам тут з табой:
Не так, як на Радзіме, кабылы йржуць вясной,
Не так гамоняць дрэвы, не так звіняць лугі,
Не так куюць падковы для конскае нагі.
Дапамажы мне, косю, мой бездыханны труп
Не проста дол чакае — ганьба, ганебны слуп».
І, выпрастаўшы рукі, меч ката вырваў ён
І ссёк дубовы чэрап з крутых яго рамён,
І на каня ўзвіўся, і ў стрэмя горда стаў,
І зноў для бітвы волю ў апошні час дастаў.
Меч бліснуў у паветры над лютаю гурбой.

Адзін супроць дзясяткаў —
і ўсё ж не прэнг[1], а бой!
Конь варагоў хапае зубамі і храпіць.
Паўсюль пануе пекла і трупы, як снапы.
О, лепей дні пакончыць на полі баявым,
Ніж век глытаць у кайданах
чужынскіх вогнішч дым!
Вось уцякаюць суддзі, вось кроў плыве ракой:
«Я ў Мар'енбург[2] з'явіўся і ён на час, ды мой.
Пакуль тугія лукі на вежах не звіняць,
Пакуль даўгія стрэлы адтуль не паляцяць».
Але слабеюць сілы, але дрыжыць далонь.
І вось аб труп запнуўся яго любімы конь.
«О конь, не давядзецца табе ў лугах іржаць,
І ў полі нам з табою ўжо болей не гуляць.
Я ў стрэлах, быццам вожык.
Бывай, мой конь, бывай!
Мы болей не пабачым лугі і родны край».
Аленя абступілі са зграяй злых сабак.
Ірвуць і раздзіраюць, сякуць на дробны мак.
І вось з крывёю гордай змяшаўся пыл і гразь.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Так у баі няроўным загінуў Вячка-князь.



1. Пра які эпізод з гераічнага жыцця Вячкі расказваецца ў вершаваным творы?
2. Падрыхтуйце пераказ, ужываючы асобныя выразы (цытаты) з твора, якія характары-

---

[1] *Прэнг* — момант пакарання з прымяненнем катавання.

[2] *Мар'енбу́рг* — крэпасць (зараз Алукснэ — горад у Латвіі).

зуюць Вячку як сапраўднага героя, патрыёта, мужнага і смелага воіна.
3. Як характарызуюцца ворагі-крыжакі? Раскрыйце сэнс выразаў: *як груганы на трупы, крыжацкія зграі* і інш.
4. Якую ролю ў творы адыгрывае вобраз каня князя Вячкі? Як гэты вобраз дапамагае паказаць самога князя? Прывядзіце радкі, дзе князь звяртаецца да свайго вернага баявога сябра.
5. Знайдзіце ў тэксце перавелічэнні, гіпербалы. З якой мэтай у кожным канкрэтным выпадку яны ўжыты? Які пры гэтым дасягаецца эфект (узмацняецца напружанасць дзеяння, звяртаецца ўвага на асобныя рысы характару ці нешта іншае)?
6. Якую ролю ў творы адыгрывае творчае ўяўленне, фантазія паэта? У чым яна выяўляецца?
7. Звярніцеся да рэпрадукцыі карціны У. А. Лукашыка «Вячка» (гл. форзац). Наколькі ваша ўяленне пра Вячку супадае з вобразам, створаным мастаком?
8. Якая асноўная думка, ідэя гэтага твора?

## Пытанні да раздзела

1. Што такое публіцыстыка? Назавіце асноўныя віды публіцыстычных твораў.

2. Чым адрозніваецца публіцыстыка ад мастацкай літаратуры ў паказе жыцця? Што яна «запазычвае» з мастацкай літаратуры для ўзмацнення свайго ўздзеяння на чытача?

**3.** У некаторых сваіх творах мастацкая літаратура цесна збліжаецца з публіцыстыкай. Прыкладам можа быць грамадзянская паэзія, у прозе — жанр нарыса, да якога звяртаюцца і публіцысты, і пісьменнікі. Прывядзіце прыклады такіх твораў і пакажыце, што ў іх ад мастацкай літаратуры і што — ад публіцыстыкі.

**4.** Напішыце невялікі публіцыстычны твор (артыкул або нарыс) пра сустрэчу з незвычайным чалавекам, цікавую экскурсію, спартыўнае спаборніцтва, прагляд кінафільма або з'яву прыроды, напрыклад, пра самае старое дрэва, пра якое людзі расказваюць легенды.

**5.** У чым заключаецца галоўная розніца паміж мастацкай і навуковай літаратурай у паказе жыцця? Прыгадайце выказванне Арыстоцеля з уступнага артыкула і растлумачце яго сваімі словамі.

**6.** Якая роля фантазіі, вымыслу ў творы мастацкім і ў творы навуковым? Пацвердзіце свае меркаванні, параўнаўшы змешчаныя ў падручніку творы пра князя Вячку.

**7.** Якія вобразы, карціны, эпізоды ў рамане «Меч князя Вячкі», на вашу думку, з'яўляюцца цалкам вымышленымі? Пацвердзіце гэта сваімі разважаннямі.

**8.** Якія мастацкія творы на гістарычныя тэмы вы чыталі?

# КАРОТКІ СЛОЎНІК ЛІТАРАТУРАЗНАЎЧЫХ ТЭРМІНАЎ

**Адухаўле́нне** — прыпадабненне нежывога прадмета да жывой істоты або чалавека, адзін з відаў **метафары.**

**Алего́рыя** — іншасказанне, мастацкі прыём, калі абстрактная думка раскрываецца праз паводзіны жывёл, асаблівасці раслін, іншых прадметаў ці рэчаў: баязлівасць або безабароннасць — праз паводзіны зайца, драпежнасць і прагнасць — праз паводзіны ваўка і г. д.

**Амфібра́хій** — трохскладовая стапа з націскам на сярэднім, другім складзе: — —́ —; вершаваны памер, утвораны з такіх стоп. (Гл. верш «Роднае слова» Д. Бічэль.)

**Ана́пест** — трохскладовая стапа з націскам на трэцім складзе: — — —́; вершаваны памер з такіх стоп. (Гл. паэму «Курган» Я. Купалы, верш «Ручэй» Я. Коласа.)

**Апавяда́нне** — невялікі празаічны твор, у якім расказваецца пра асобную падзею, здарэнне ў жыцці чалавека, героя твора.

**Арты́кул** — жанр навуковай або публіцыстычнай ці крытычнай літаратуры, у якім ставіцца і вырашаецца пэўнае пытанне. (Гл. артыкул «Шануйце роднае слова!» Цёткі.)

**Архаі́змы** — устарэлыя словы, якія выйшлі з ужытку, хоць у мастацкіх творах могуць выкарыстоўвацца для паказу жыцця даўніх часоў. (Гл. урывак з рамана «Меч князя Вячкі» Л. Дайнекі.)

**Бала́да** — сюжэтны верш гераічнага, легендарнага зместу, часта з элементамі фантастыкі ў сюжэце. (Гл. «Балада пра Вячку, князя людзей простых» У. Караткевіча.)

**Во́браз маста́цкі** — форма паказу жыцця ў мастацкім творы. Гэта можа быць і герой твора (чалавек), і мастацкае апісанне прадметаў, рэчаў, з'яў прыроды.

**Вы́мысел** — выдумка, фантазія, да якой звяртаецца пісьменнік у сваёй творчасці для стварэння вобразаў, карцін, сюжэтаў, важнейшы сродак мастацкага паказу жыцця.

**Геро́й** — дзейная асоба, персанаж, вобраз чалавека ў творы.

**Гіпе́рбала** — мастацкі прыём, моцнае перавелічэнне ўласцівасцей, якасцей ці памераў прадмета або з'явы з мэтай большай мастацкай выразнасці.

**Гу́капіс** — гукавыя паўторы ў мастацкай мове, якія ўзмацняюць яе мілагучнасць і сэнсавую выразнасць. (Гл. верш «Маёвая песня» М. Багдановіча.)

**Гу́мар, гумарысты́чны** — паказ жыццёвых з'яў у смешным (камічным) выглядзе; нязлосны, добразычлівы смех. (Гл. твор «Дзядзька-кухар» Я. Коласа.)

**Да́ктыль** — трохскладовая стапа з націскам на першым складзе: —́ — —; вершаваны памер, утвораны з такіх стоп.

**Драматы́зм** — крайняя напружанасць, вастрыня сітуацыі, падзеі, эпізоду, сюжэта.

**Дыяло́г** — размова дзвюх або некалькіх асоб.

**Дэта́ль маста́цкая** — падрабязнасць у апісанні пэўных аб'ектаў у творы (пейзажу, партрэта, дзеян-

ня, персанажа і г. д.), якая з асаблівай сілай абуджае ўяўленне і творчую думку чытача і нясе значную эмацыянальную і сэнсавую нагрузку.

**Жанр** — від мастацкага твора (апавяданне, аповесць, паэма, байка і г. д.).

**Зваро́так** — мастацкі прыём, калі аўтар у вельмі эмацыянальнай форме звяртаецца да чытача, да свайго героя, да роднага краю, з’яў прыроды.

**Ідэ́я маста́цкая** — асноўная думка твора, якой прасякнуты яго вобразы і карціны, паэтычны сэнс твора, агульная ацэнка тых з’яў, якія паказаны ў творы.

**Інсцэніро́ўка** — перапрацоўка празаічнага або паэтычнага твора для пастаноўкі на сцэне.

**Інтана́цыя** — тон, характар вымаўлення фразы, якія выяўляюць пачуццё, настрой, душэўны стан, адносіны чалавека да таго, пра што ідзе размова.

**Іро́нія** — мастацкі прыём, спосаб камічнага або сатырычнага паказу, у аснове якога ляжыць схаваная, стоеная насмешка.

**Камі́чнае** — смешнае ў жыцці і ў мастацкім творы.

**Кампазі́цыя** — будова мастацкага твора, размяшчэнне і спалучэнне асобных частак, эпізодаў, карцін.

**Лагі́чны на́ціск** — выдзяленне голасам слова ў сказе, фразе, якому надаецца асабліва важнае значэнне.

**Літарату́ра маста́цкая** — слоўна-вобразная мастацкая творчасць.

**Мета́фара** (гл. таксама адухаўленне, увасабленне) — мастацкі прыём і спосаб паказу жыцця, у аснове якога ляжыць схаванае параўнанне.

**На́рыс** — мастацка-дакументальны твор, у якім апісаны падзеі, што сапраўды здараліся ў жыцці,

а персанажы маюць рэальных прататыпаў і выступаюць пад сваімі прозвішчамі.

**Падтэ́кст маста́цкі** — прыхаваны сэнс якога-небудзь выказвання, эпізода ці твора ў цэлым.

**Паме́р вершава́ны** — паняцце, якое ўжываецца для вызначэння рытмічнай канвы верша і паказвае колькасць і характар стоп у вершаваных радках.

**Параўна́нне** — мастацкі прыём характарыстыкі аднаго прадмета, з'явы пры дапамозе супастаўлення іх з іншымі.

**Партрэ́т** — такое апісанне знешнасці персанажа, якое характарызуе яго як чалавека.

**Па́ўза** — адзін з элементаў інтанацыі, большы ці меншы па працягласці прыпынак голасу ў час чытання літаратурнага твора.

**Паэ́зія** — адзін з асноўных відаў (побач з прозай) мастацтва слова, эмацыянальна-вобразная вершаваная творчасць.

**Паэ́ма** — вялікі вершаваны твор, у якім расказваецца пра важныя падзеі народнага жыцця, выяўляюцца глыбокія перажыванні аўтара і яго герояў. (Гл. «Курган» Я. Купалы.)

**Пейза́ж** — апісанне прыроды, якое мае важнае значэнне для характарыстыкі дзеяння, душэўнага стану героя.

**Персана́ж** — дзейная асоба, герой твора.

**Про́за** — адзін з двух асноўных відаў (побач з паэзіяй) слоўна-мастацкай творчасці, заснаваны на празаічнай мове.

**Публіцы́стыка** — асаблівы від літаратуры, які ў паказе жыцця грунтуецца не на выдумцы-фантазіі, а на адлюстраванні сапраўдных, рэальных падзей і фактаў.

**Рытм, рытмі́чнасць** — раўнамернае паўтарэнне, чаргаванне націскных і ненаціскных складоў, стоп у вершы.

**Ры́фма** — сугучнасць канчаткаў вершаваных радкоў.

**Рэ́квіем** — урачыста-жалобны літаратурны або музычны твор, прысвечаны памяці загінуўшых.

**Рэфрэ́н** — слова, радок або некалькі радкоў, якія паўтараюцца пасля кожнай страфы або абзаца.

**Саты́ра** — від камічнага, смешнага; вострае, бязлітаснае высмейванне, выкрыццё адмоўных з'яў.

**Сі́мвал** — слова ці выраз, які ўжываецца ў пераносным сэнсе і абазначае нейкую жыццёвую ці грамадскую з'яву — дружбу, цвёрдасць, смеласць.

**Стапа́** — група складоў з адным націскным, якія раўнамерна паўтараюцца ў вершаваным радку. Стопы бываюць двухскладовыя (ямб, харэй) і трохскладовыя (дактыль, амфібрахій, анапест).

**Страфа́** — частка верша з пэўнай рыфмоўкай радкоў, якая рэгулярна паўтараецца на працягу твора.

**Сюжэ́т** — сістэма падзей у апавядальным творы, раскрыццё дзеяння твора і праз яго — характараў герояў. Сюжэт у развіцці праходзіць ад завязкі праз кульмінацыю да развязкі.

**Трагі́чнае** — вельмі вострая, напружаная сітуацыя або развіццё дзеяння, якое заканчваецца гібеллю героя ў барацьбе за важныя для народа ідэі.

**Тро́пы** — словы або выразы, якія маюць пераноснае значэнне, дадатковы мастацкі сэнс (эпітэт, параўнанне, увасабленне, гіпербала, іронія і інш.).

**Тэ́ма** — тое, пра што ідзе размова ў мастацкім творы, жыццёвая з'ява або кола жыццёвых з'яў, якія прыцягнулі ўвагу аўтара, зацікавілі яго.

**Увасабле́нне** — мастацкі прыём, разнавіднасць метафары, прыпадабненне з'яў прыроды да паводзін чалавека. (Гл. адухаўленне.)

**Фанта́стыка** — карціны жыцця, створаныя ўяўленнем з дапамогай выдумкі, неверагодныя або малаверагодныя ў жыцці, але цікавыя і змястоўныя ў творы.

**Харэ́й** — двухскладовая стапа з націскам на першым складзе: — ́—; вершаваны памер, утвораны з такіх стоп. (Гл. «Маёвая песня» М. Багдановіча, «У яго быў свет цікавы...» Я. Коласа.)

**Эпі́граф** — выказванне, якое змяшчаецца адразу пасля загалоўка і перадае асноўны сэнс зместу твора.

**Эпізо́д** — пэўны момант у дзеянні (здарэнне, выпадак), сюжэце мастацкага твора, важны для разумення, характарыстыкі дзейных асоб.

**Эпіло́г** — заключная частка твора, у якой паведамляецца пра тое, што адбывалася пасля асноўнага дзеяння.

**Эпі́тэт** — мастацкае азначэнне, якое адыгрывае важную ролю ў характарыстыцы жыццёвых з'яў, чалавека. (Гл. верш «Роднае слова» Д. Бічэль.)

**Ямб** — двухскладовая стапа з націскам на другім складзе: — ́—; вершаваны памер, утвораны з такіх стоп. (Гл. «Дзядзька-кухар» Я. Коласа.)

# ДАВЕДНІК ПРА АЎТАРАЎ

**Максім Багдановіч** (1891—1917). Славуты беларускі паэт, класік беларускай літаратуры, аўтар зборніка «Вянок», перакладчык, крытык, гісторык літаратуры.

**Рыгор Барадулін.** Нарадзіўся ў 1935 г. на Віцебшчыне. Народны паэт Беларусі, аўтар шматлікіх зборнікаў вершаў, гумарыстычных твораў, твораў для дзяцей, перакладчык.

**Данута Бічэль.** Нарадзілася ў 1938 г. на Гродзеншчыне. Вядомая паэтэса, аўтар зборнікаў вершаў («Еўфрасіння Полацкая», «Замест запавету»).

**Янка Брыль** (1917—2006). Народны пісьменнік Беларусі, аўтар аповесцей, апавяданняў, невялікіх замалёвак-мініяцюр, рамана «Птушкі і гнёзды», твораў для дзяцей. Крытык і публіцыст, перакладчык з рускай, польскай і ўкраінскай моў.

**Васіль Быкаў** (1924—2003). Нарадзіўся на Віцебшчыне. Народны пісьменнік Беларусі, аўтар шматлікіх аповесцей і апавяданняў на тэму Вялікай Айчыннай вайны («Жураўліны крык», «Альпійская балада», «Знак бяды» і інш.), сцэнарыяў кінафільмаў, публіцыстычных выступленняў.

**Змітрок Бядуля** (сапр. Самуіл Плаўнік; 1886—1941). Вядомы беларускі пісьменнік. Празаік, паэт, аўтар апавяданняў, аповесцей, твораў для дзяцей.

**Анатоль Вярцінскі.** Нарадзіўся ў 1931 г. на Віцебшчыне. Паэт, аўтар зборнікаў вершаў і паэм, драматычных твораў для дзяцей, перакладчык.

**Леанід Галубовіч.** Нарадзіўся ў 1950 г. на Случчыне. Паэт, аўтар зборнікаў вершаў.

**Ніл Гілевіч.** Нарадзіўся ў 1931 г. на Лагойшчыне. Народны паэт Беларусі, аўтар зборнікаў паэзіі, рамана ў вершах «Родныя дзеці», гумарыстычных і сатырычных вершаў, твораў для дзяцей, тэкстаў для песень, перакладчык са славянскіх моў, даследчык беларускага фальклору, публіцыст.

**Леанід Дайнека.** Нарадзіўся ў 1940 г. на Магілёўшчыне. Паэт, празаік, аўтар паэтычных зборнікаў, раманаў на гістарычную тэму («Меч князя Вячкі», «След ваўкалака»).

**Васіль Зуёнак.** Нарадзіўся ў 1935 г. на Міншчыне. Паэт, аўтар зборнікаў вершаў (цыкл паэм «Пяцірэчча»), празаічных твораў, крытычных артыкулаў, перакладчык са славянскіх моў.

**Уладзімір Караткевіч** (1930—1984). Нарадзіўся ў Оршы. Вядомы беларускі паэт, празаік, драматург, аўтар зборнікаў вершаў, раманаў і аповесцей, апавяданняў, драматычных твораў на гістарычную тэму («Каласы пад сярпом тваім», «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», «Чорны замак Альшанскі», «Дзікае паляванне караля Стаха»). Пісаў творы для дзяцей, выступаў як публіцыст і крытык.

**Якуб Колас** (сапр. Канстанцін Міцкевіч; 1882—1956). Класік беларускай літаратуры. Народны паэт Беларусі. Аўтар шматлікіх вершаў, паэм («Новая зямля», «Сымон-музыка»), аповесцей, трылогіі «На ростанях», твораў для дзяцей і юнацтва. Выступаў як публіцыст, крытык, перакладчык.

**Янка Купала** (сапр. Іван Луцэвіч; 1882—1942). Класік беларускай літаратуры. Народны паэт Беларусі. Аўтар шматлікіх вершаў, паэм («Курган», «Магіла льва»), драматычных твораў «Паўлінка», «Раскіданае гняздо», твораў для дзяцей і юнацтва.

Выступаў як публіцыст, перакладчык з рускай, украінскай і польскай моў.

**Мікола Лупсякоў** (1919—1972). Празаік, аўтар зборнікаў апавяданняў, твораў для дзяцей і юнацтва («Дняпроўская чайка»).

**Іван Навуменка** (1925—2006). Нарадзіўся на Гомельшчыне. Народны пісьменнік Беларусі, празаік, аўтар зборнікаў апавяданняў, аповесцей і раманаў, часцей на тэму Вялікай Айчыннай вайны («Хлопцы самай вялікай вайны», «Любімы горад»).

**Алесь Разанаў**. Нарадзіўся ў 1947 г. на Брэстчыне. Паэт, перакладчык. Аўтар зборнікаў вершаў і паэм, пераважна на філасофскія тэмы («Вастрыё стралы», «У горадзе валадарыць Рагвалод»).

**Янка Сіпакоў**. Нарадзіўся ў 1936 г. на Віцебшчыне. Паэт, празаік, аўтар шэрагу зборнікаў вершаў («Веча славянскіх балад»), нарысаў, аповесцей і апавяданняў. Выступае як перакладчык.

**Максім Танк (**сапр. Яўген Скурко; 1912—1995). Нарадзіўся на Мядзельшчыне. Народны паэт Беларусі. Аўтар шматлікіх зборнікаў вершаў і паэм («Люцыян Таполя», зб. «Збор калосся»). Перакладаў творы замежных аўтараў, выступаў як публіцыст.

**Тарас Хадкевіч** (1912—1975). Нарадзіўся на Гомельшчыне. Празаік, аўтар апавяданняў, аповесцей, нарысаў.

**Цётка** (сапр. Алаіза Пашкевіч; 1876—1916). Вядомая беларуская паэтэса, чыя творчасць цесна звязана з падзеямі рэвалюцыі 1905—1907 гг. Пісала вершы, апавяданні, публіцыстычныя творы, кнігі для дзяцей, аўтар адной з першых беларускіх чытанак.

**Віктар Шніп**. Нарадзіўся ў 1960 г. у Валожынскім раёне. Паэт, аўтар паэтычных зборнікаў («Гронкі святла», «Шляхам ветру», «Балада камянёў»).

# ЗМЕСТ

## ЦІКАВАЕ І ЗАХАПЛЯЮЧАЕ Ў ЗВЫЧАЙНЫМ, ПАЎСЯДЗЁННЫМ (92)



## ПАЭЗІЯ Ў ПРОЗЕ І ПРОЗА Ў ПАЭЗІІ (211)



## МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА І НАВУКА (221)

(Назва і нумар школы)

| Навучальны год | Імя і прозвішча вучня | Стан падручніка пры атрыманні | Адзнака вучню за карыстанне падручнікам |
|---|---|---|---|
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |

Вучэбнае выданне

**Лазарук** Міхаіл Арсеньевіч
**Логінава** Таццяна Уладзіміраўна

**БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА**

Вучэбны дапаможнік для 7 класа
агульнаадукацыйных устаноў
з беларускай і рускай мовамі навучання

Нач. рэдакцыйна-выдавецкага аддзела *Г. І. Бандарэнка*
Рэдактар *Л. Б. Сопат*
Мастацкі рэдактар *І. А. Усенка*
Камп'ютарная вёрстка *Ю. М. Галавейкі*
Карэктар *К. І. Іванова*

Падпісана ў друк 01.07.2010. Фармат 60×90 $^1/_{16}$. Папера афсетная.
Гарнітура Школьная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 19,0.
Ул.-выд. арк. 11,33+0,29 форз. Тыраж 113 000 экз. Заказ

Навукова-метадычная ўстанова «Нацыянальны інстытут адукацыі»
Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.
ЛИ № 02330/0494469 ад 08.04.2009. Вул. Караля, 16, 220004, г. Мінск

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Мінская фабрыка
каляровага друку». ЛП № 02330/0494156 ад 03.04.2009.
Вул. Каржанеўскага, 20, 220024, г. Мінск